Зок-1/1714

# ПОЛЫМЯ

КНІГА ДЗЕСЯТАЯ

№ 10

ЧАСОПІС
ЛІТАРАТУРЫ
ПОЛІТЫКІ
ЭКОНОМІКІ
ГІСТОРЫІ
КРЫТЫКІ



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
1931
БЕЛАРУСІ

ЗОК-1
1714

# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

ГОД ВЫДАНЬНЯ ДЗЕСЯТЫ

Инв.№ 1953 г. 1377

## КАСТРЫЧНІК
## 1931






ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
ЛіМ
МЕНСК — 1931

# НАША СОНЦА

*Аповесьць* [1])

**Барыс Мікуліч**

12

Патапенку папярэдзілі хлопцы, каб ён не падкачаў, калі ў часе дакладу што-небудзь раптоўнае здарыцца. З намёкаў ён вразумеў, што хлопцы рыхтуюцца ілюстраваць ягоны даклад, але колькі ён ня выпытваў--ніхто нічога не сказаў. Тады і Патапенка стаіў тую навіну, якую чуў сёньня ад работнікаў ДзПУ:—„Будзем, мальцы, квіты, няйначай“.

Гэта-ж быў колектывам вышуканы мэтод, і вось сёньня рабілася яго выпрабаваньне—ад гэтага-ж выпрабаваньня залежаў посьпех новага мэтоду работы нардому,

Перад тым казалі:

— Усё-ж можна зьбіцца з панталыку. У цябе, можна сказаць, тэзісы, плян пэўны, а тут—шась!.. Што ты зробіш, калі саб'ешся?

— Ну, Патапенку не саб'еш. Калі-б хто іншы быў, мо'-б і зьехаў, а ён знойдзе, што сказаць.

Выпытвалі пра тэзісы. Аб іх Патапенка сказаў з большага, бо:

— Я рыхтуюся, братцы, за поўгадзіны, каб сьвежым у галаве было.

Увечары над нардомаўскім уваходам загарэўся чырвонымі літарамі вялізарны плакат:

КЛЯСАВАГА ВОРАГА—АНТЫСЭМІТА—ПАД ПРОЛЕТАРСКІ СУД

і на зьмену з гэтым плакатам—то загараўся, то згасаў другі:

ТУТ—СУД НАД АНТЫСЭМІТАМ КРАНЦЭВІЧАМ

Зьбіраліся людзі да нардому грудкамі—па некалькі чалавек, зьбіраліся і ўсьміхаліся—дзівячыся—чырвоным літарам:

— Ого! Да чаго дадумаліся.

— Хочаш ня хочаш, а зойдзеш.

[1]) Гл. „Полымя“ № 8 і 9 за гэты год.

— Самі ногі ідуць!

Нібы перапёламі паплавы заплясканы: паўнютка народу. Тут і камсамольцы, і партыйцы, і вучні з настаўніцтвам, з пагранатраду чырвонаармейцы прыехалі.

— Бра-а-атцы! Глядзеце!

— Што там?

Вучні паўлазілі на лаўкі, каб убачыць тое, што робіцца ля дзьвярэй. А там—ля дзьвярэй—аж раступіліся ад зьдзіўленьня: чырвоны, нібы пеневы грабень, блытаючыся ў даўгой сваёй апранасе, цяжка сапучы дый хаваючы позіркі ў рыжай барадзе—прышоў поп. Ён, як убачыў хлапчукоў-вучняў, наважыўся праслухаць традыцыйнае—

„Поп прышоў, чорт з табой!—

але замест гэтага яго стрэла навала гучнага рогату.

— Прышоў свайго падбрэхіча ратаваць.

— Ня клюне мянтуз, хай не спадзяецца!

— Дзіва што!

Роўна а восьмай гадзіне, калі нардомаўская заля добра такі ўспацела ад сапеньня, рогату і гаманы людзей, на стале, што стаяў пасярэдзіне сцэны, кувырнуўся—раз, два—мядзяны званочак.

— Сёмка,—штурхнуў пад бок таварыша,—званок на нітку начэплены, ці што?

— Ніткі-ж ня відаць. Ціка-а-ава!..

Перад сцэнай вырас начальнік—(сам начальнік не адмовіўся ўзяць удзел у судзе)—міліцыі і голасна сказаў:

— Прашу ўстаць, суд ідзе!

Мякка лёг на чырвоны стол жоўты портфэль судзьдзі Навіцкай—ад гэтага портфэлю дый ад скураной дзяжуркі судзьдзі забегалі па залі промні.

Пайшлі формальнасьці.

Потым раптам пагасла сьвятло. І ўжо ў цемры—праз яе наступіла ў залі млосная цішына—мэталічным стукатам адзвоньваліся словы Навіцкай:

— Таварыш комэндант! Прывядзеце падсуднага.

Недзе рыпнулі дзьверы. Пачуліся крокі. Пстрыкнуў выключацель: на сцэне стаяў, азіраючыся—позірк трапляў на міліцыянэраў, што стаялі па абодвых бакох—Кранцэвіч. Заля ахнула ад нечаканасьці: думалі, што сьвятло пагасла выпадкова.

— Лоўка!

Гэта правяраўся мэтод.

— Вам прад'яўлена абвінавачаньне, падсудны Кранцэвіч,—пасьля анкетнага апытаньня зьвярнулася да царкоўнага старасты судзьдзя.—Як паказала сьледзтва, вы не прызнаеце сябе віноўным?

— Амгу,—адно прабурчэў у адказ падсудны, унурыўшы ў плечы спрэс абраслую чорным валосьсем галаву.

— Што вы можаце дадаць да паказаньняў сьведак?

Заля, напружыўшы чаканьне, застыла ў глыбокай і чыстай, нібы конскае вока, цішыні. Пад безьліччу позіркаў няўхлюда паварочваў сваё грузкае тулава царкоўны староста, і было такое ўражаньне, нібы пасадзілі яго на гарачае вугольле.

— Ну, Патапенка, ты-ж на экран глядзі, лаві на ляту,— ціха сказаў Длугач.—Не падкачай, глядзі!..

Патапенка быў на трыбуне.

— Мы ўступаем у пэрыод будаўніцтва соцыялістычнай экономікі. Першы год нашай пяцігодкі паказаў, што ўсе прадпасылкі для пасьпяховага будаўніцтва соцыялістычнай індустрыі, для форсаваньня тэмпаў колектывізацыі пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі ў нас ёсьць.

І вось на экране, што быў з правага боку трыбуны, загарэліся літары і лічбы дыяграмы:

| КАПІТАЛЬНЫЯ ЎКЛАДАНЬНІ Ў НАРОДНУЮ ГАСПАДАРКУ |
|---|

паўзьлі пунктыры:

— — — — — — — — —

і на канцы гэтай жывой сьцежкі вылузнулася аднекуль з глыбіні экрану:

| 13 МІЛЬЁНАЎ РУБЛЁЎ |
|---|

На хвілінку прыпыніўся Патапенка, зірнуў на экран, потым у блёк-нот, наскроб патыліцу.—„Ах, жэўжыкі, гэта-ж апередзілі мяне!“ Але падхапіў агнявую лічбіну, зрабіў вынік, і тэзісы засталіся ляжаць нявыкарыстанымі.

— І ў той час, калі ў Савецкім Саюзе мы будуем соцыялістычную экономіку, там, на Захадзе...

Гэтага моманту баяліся організатары: колектыўна выпрацаваны мэтод біў тут нашармака. Самайловіч уключыў за сцэнай рэпродуктар, загадзя злавіўшы ў эфіры Варшаву. Уключыў і нэрвова працягнуў руку да праводкі: з рэпродуктара ў залю пабеглі—нечакана для ўсіх—мэлёдычныя гукі малітвы. Рукі сьціснуў стаяўшы побач Курыловіч.

— Не чапай!

— Але ж нам фокстрот трэба... разлажэньне буржуазіі,—зьбялеўшымі вуснамі прашаптаў Самайловіч.—А тут!..

— Вячэрняя малітва ў кафэдральным касьцёле... Вось слухай Патапенку. Ай да маладчына!

Патапенка і тут ня спыніўся. У душы захапляючыся надумкай хлапцоў, ён спакойна вёў даклад далей па нечаканых для яго тэзісах.

— Вось вы чуеце...

— ... Варшаву—сьпехам падказаў Шастакоў.

— ... вячэрнюю імшу ў варшаўскім касьцёле. Рэлігіяй хочуць буржуі адцягнуць рабочых Захаду ад рэволюцыйнай барацьбы. Галовы цёмных сялян забіваюцца казкамі аб цудах розных вострабрамскіх божых мацерак. А ці-ж гэта выратуе буржуазію?

Зачараваная заля ледзь дыхала. Першы раз ня бразгалі аб графін, першы раз не званіў старшыня, каб сьцішыць людзей. І ня толькі людзі ў залі затаілі зьдзіўленьне, пераўзброіўшы гэтае зьдзіўленьне ў бязьмежную ўвагу. Склад суда і той сядзеў прытаіўшы дыханьне. Толькі стаходзкі поп, як пачуліся органныя гукі з рэпродуктара, уздыхнуў голасна на падабенства квактухі.

— І вось у гэты час з цьвілі гадоў, з глыбіні старога, адчуўшы, што прыходзіць канец, капіталістычныя элемэнты ўзьнялі сваю галаву. Кулак, нэпман, поп, ксёндз, рабін... Гэта яны выпусьцілі на ланцугу цэрбэраў. Гэта іх воляй накіроўваецца сьмяртэльны ўдар у сьпіну актывіста-селькора. Гэта яны выкарыстоўваюць няўстойлівыя, варожыя элемэнты нашага грамадзтва, каб як хаця перашкодзіць будаўніцтву соцыялізму.

Шастакоў нэрвова церабіў кавалак паперы, пазіраў нецярпліва на ёмістую Патапенкаву патыліцу: дужа-ж цягне Патапенка, хутчэй-бы да галоўнага, да мэты, даходзіў. Але вось пакамечаны аркушык адляцеў на сярэдзіну стала, Шастакоў устрапянуўся. Патапенка па-майстэрску падыйшоў да нацыянальнага пытаньня, да таго, як вырашае гэтае нацыянальнае пытаньне нашая партыя.

Не хацеў выходзіць, упіраўся, па бледым твары цяклі сьлёзы.

— Ды ня бойся, Мотка, выйдзі да дзядзі на трыбуну,—упрошваў Самайловіч.—Цябе-ж за бар'ерам і відаць ня будзе.

Але—яшчэ раней—угледзеў Мотка на лаве перад сцэнай грабастую постаць царкоўнага старасты, і галаву закачала ад пераўжытага жаху і болю.

— Ідзі, хлопча, ідзі!

— Зьвяры, а ня людзі яны!—забіраў усё вышэй і вышэй Патапенка.—Ці-ж дрэнна нам, працоўным усіх нацый, жыць разам, у братэрскай супольнасьці? Мы будуем соцыялістычнае бясклясавае інтэрнацыянальнае грамадзтва. А яны—яны вернуць да старога, да пагромаў, да крыві, да чорнай нянавісьці чалавека да чалавека. У мяне ў руках вынікі сьледзтва па забойству Караткевіча. (—„Квіты, квіты, мілыя мае комсамалята, аей права—квіты"—). Праводзячы сходы ў стараверaўскім сяле Рудня, працуючы з тамтэйшымі комсамольцамі, ён выступаў супраць іхнага „сьвятога старца" Анупрыенкі, а па нашаму—кулака і міраеда. Ну... а вынікі мы ўсе ведаем. Што гэта, таварышы? Мы тут маем таксама акт азьвярэлага ворага, нашага зацятага клясавага ворага. Мы душым яго, і мы яго задушым.

У гэты самы момант зірнуў Патапенка сабе пад локаць (—„ай, хлопчыкі, хлопчыкі, ну і хвацка надумаліся!“—): каля яго, прыгінаючы забінтаваную галаву, каб хаця ня ўбачылі з залі, стаяў Мотка. Схапіў яго Патапенка, высака над сабой узьняў, крыкнуў-дыхнуў на поўныя грудзі:

— Вось, таварышы, бачыце! Вось ахвяра антысэміта...

І, пэўне, таму, што нечакана вырасла постаць хлопчыка перад вачыма, пэўне, таму, што на павязцы была пачарнеўшая крывяная пляма, пэўне, таму, што плакаў Мотка—скалынуліся людзі. Суцэльным рэвам галасоў і воплескаў азвалася заля: ні гаварыць, ні сьцішаць ня было як, дый гэта было—непатрэбным.

Наплылі (—чалавек ведае густыя наплывы—) нейкія незразумелыя пачуцьці ў істоце Патапенкі, злучылася ў іх усё—і радасьць за „мілых комсамолят“, і за вечар удалы, і за сябе, і за Моткавы сьлёзы, прыціснуў да шырокіх моцных сваіх грудзей гэтага хлопчыка і пацалаваў яго ў галавёнку.

Вар'явалася—дый толькі—гэтая заля.

13

Выскачыў, як ашпараны, з ускудлачанымі валасамі, нясучы ў руках акуляры.

— Сапсавалі, сапсавалі, сапсавалі! Гэта-ж чорт ведае, што такое. Гэта... гэта буфонада, а ня суд... Гэта... Сапсавалі, сапсавалі, сапсавалі!

Усьлед за ім павысыпвалі комсамольцы. Маленькі Андрыенка, дык той схапіў за рукі Шастакова і траха што ня ў вальц пусьціўся.

— Ну, братцы! Ай, братцы! Чорт-бы вас усіх разадраў, даражэнькія мае,—куралесіў Андрыенка.

— Ша! Бачыш, як чалавек заходзіцца.

Сьцішыліся. Пытліва зірнулі на раззлаванага праваабаронцу Шварца. Той важыўся ўзьдзець акуляры, але была нейкая нявідочная перашкода і драцяныя пытальнікі акуляраў бяспрытульна цялепаліся ў паветры.

— Што сапсавалі, таварыш Шварц?

— Па-мойму, так добра правялі суд, як ня сьнілася,—сказаў, падыходзячы, Курыловіч.—І мае потым плакаты дапамаглі. Мастацтва потым—важная штука... як вы мысьліце, таварыш, аб...кха...ронца?

Яму сказалі, каб ён заткнуўся.

— Дык што-ж сапсавалі? Так і ня скажаце?

Ушчэнт раззлаваны і расхваляваны Шварц узьдзеў такі пасьля ўпартых намаганьняў акуляры і разам з энэргічным гэстам рукі—ад вуха да стала, ля якога стаяў—сказаў:

— Рэпутацыю маю, як юрыста!

Хлопцы заліліся рогатам.

— Ой, ой, ойёёё! Таварыш, таварыш Шварц!..

А Андрыенка паваліўся на канапу і качаўся, сьцякаючы буйным рогатам, разам з разгайданымі спрунжынамі.

— Гэта, я вам скажу, да-а-а!

— Хіба вы лічыце, што Кранцэвіча трэба было апраўдаць?

Шварц сарваўся з месца.

— Малады чалавек! Я на сваім вяку пабываў на шмат-якіх судах, але—я вам скажу—такой буфонады, прабачце, ня бачыў. Хіба можна сур'ёзна рабіць што? Я, стары юрыст, малады чалавек...—махнуў рукой—„Эт!"—і пайшоў у залю.

Абступілі Шастакова.

— Ведаеце што, хлопцы? Няхай тысяча такіх „старых юрыстаў". Няхай іх усіх... Абы мы ведалі, што мы правы, што наша ўзяло.

— Правільна, Шастакоў!

— Наш мэтод перамог, вось што, важна. Трэба вопытам падзяліцца Шастакоў. Праўда, га?

— Гэта яшчэ ня мэтод, гэта толькі пачатак. Але вы бачылі мястэчка? Я аж дзівіўся, ня верыў—яно гэта ці не яно? Мэтоды працы—гэта цяжкая штука... Вось,—ён пайшоў да вешалкі, адшукаў сваё паліто, выцяг з кішэні складзеную напал брошуру,—будзем правяраць мэтод пад вясну, калі паедзем па раёне колектывізацыю праводзіць.

У руках сакратара райкому былі „Ітогі лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б)".

---

Жэня выйшла з залі тады, калі на Патапенкавых руках быў Мотка. Было горача, зноў адчувалася нейкая млявасьць, да горла падступала нешта салонае. У дзьвярох затрымаў яе Мікола, спытаўся на-хаду:

— Куды ты?

— Дрэнна нешта... Зайдзіся потым,—адказала, адчыняючы дзьверы.

Дзьверы ірвануў вецер, ледзь утрымалася і заздавала сама на сябе за гэтую слабасьць.

— „Жэня, Жэня, чаму ты такая кіслая?"—развважала, перакідала думкамі, нібы гарошынамі, ідучы па анямелай местачковай вуліцы.

Распраналася доўга—блытаўся ў руках шалік, ніяк не хацеў вызваліць ад свайго цёплага абдымку Жэніну шыю. Села на канапу. Спаць не хацелася, а думкі ў галаве паварочваліся грузна, заспанымі буйвалятамі. І целам плыла, сьціскаючы грудзь, горла гэтая незразумелая грузнасьць. Праз сілу ўстала, запаліць наважылася газоўку—адна, другая... паламіліся запалкі, трэцяя чыркнула порсткім агеньчыкам. Засьвяціла. Падправіла кнот. Комін быў у каштановых дасэнях сопухі, але ўсё-ж узьдзела яго, не прачысьціўшы. У густыя бурбалькі парабіўся пеністы напаўзмрок.

Плыла целам цяжкая, ліпкая, грузная млявасьць. „Ой, Жэня, Жэня,—варочаліся буйваляты-думкі.—Ці не..." устрапянулася. Падыйшла, хут-

чэй падбегла—да трумо, стала перад ім напоўабаротам: у люстры жанчына правяла рукой па грудзях і... рука прыпынілася... у жанчыны пругкасьць грудзей была куды большай, чым раней. У гатовую густэчу думак цурком улілася войстрая трывога.

— Так, я цяжарная,—траха што ня ўголас падумала Жэня.

Вярнулася да канапы. Ня ўседзела. Падыйшла да стала. Блукліві позірк абмацваў рэчы на стале: грудок кніжок, шклянку з ахаладалым чаем, нажнічкі, расчыненую пудраніцу, фотографіі, перавязаныя тасемкай. Узяла фотографіі, рассыпала па стале. На вочы трапілася ягоная. Узяла і доўга ўзіралася: узіраўся на яе з фотографіі вясёлы твар—сьмяяліся вочы, заўсёднай няўрымсьлівасьцю, валамі ўзьбіваліся ўгару валасы, а ў вочы пішчанём лез белы, нядбайна выпушчаны напаверх чорнай курткі, мяккі каўнерык.

Стук пачуўся ў сенцах. Сударгава падсунула фотографію пад газэціну. Абярнулася, адкінуўшы далоні рук на стол.

— Ня сьпіш хіба?

— Сьнег ідзе?

Страсаў з паліта кволыя сьняжынкі, падалі сьняжынкі на падлогу пераапранёнымі ў кроплі.

— Так... Ідзе сьнег...

Зьдзеў паліто. Ушчапіў за ражок этажэркі, потым успомніў, што ў кішэні папяросы—каб хаця не замоклі. Выцяг. Закурыў. Парыўся, ад хатняй цяплыні сьнег і віўся лёгкай мутой накураны Міколам дым.

— Вялікі ідзе сьнег?

— Так... Ладнаваты ідзе сьнег.

У ватовай густэчы думак закіпаў цурок войстрай трывогі. Адвяла вочы ад яго, зірнула ў кут, убачыла ягонае паліто, густа пасыпанае вадзяною лускою кропель.

— Летась сустракалі зіму... весела, вечарынку гулялі ў Розы Калмановіч...

Атрасаў попел з папяросы на газэціну—клаўся попел роўнымі долькамі. Слухаў, прыжмуранымі вачыма пазіраючы на яе. Раптам устаў.

— Я зараз прыду, хай паліто вісіць...

— Куды ты?—спужалася, што ня выказанай застанецца трывога.

— Я зараз...—ужо ля дзьвярэй.

Вышаў. Жэня павярнулася да стала, пальцам расьцісьнула грудок—дольку—попелу: ён мякка рассыпаўся. За сьцяной—у гаспадыні—праз аднатоннае ціканьне гадзіньніка вырасьлі—паджылага тэмбру—бомы: дзьве гадзіны ночы. Села на канапу.

— Ужо ідзе? Ці не дахаты хадзіў?

Ён заняў Жэніна месца ля стала. Усьміхнуўся.

— Жэня ... няхай будзе і нам весела... сьнег перастаў...—і ён выцяг з кішэні бутэльку.

Калыхнулася.

— Мікола!

Ён перасек рух—ставіў бутэльку на стол—і зірнуў ёй у вочы. „Ну?"—казаў позірк.

— Не рабі... Што ты?.. Мікола...

— Кінь, Жэня, глупства пароць... Ня будзеш? Гэта-ж ня п'янства... Будзеш піць? Ня хочаш? Ну, як сабе хочаш,—адкаркаваў і набгом апарожніў палову бутэлькі.

Яна ня краталася. Сачыла за ім. Убачыла: загарэліся вочы. Убачыла і памяць праявіла аналёгію—колькі разоў бачыла гэты бляск у Міколавых вачох. Не здагадвалася. Ня думала.

— Выпі, Жэнька.

— Не,—катэгарычна качнула галавой.

— Ну, як хочаш,—пацІснуў плячыма.—А я гатоў скончыць.

Грузна сеў побач. Зноў закурыў. Бачыў перад самымі сваімі вачмі ўпарты яе падбародак, закусаную—і таму перакрыўленую—ніжнюю губу. Браў хмель.

— Чаго ты, Жэнь...ка?

Рукамі абхапіла калены. Не павярнуўшыся:

— Брыдка, Мікола, брыдка. Ты ж камсамолец...

Паддаўся да яе. Рукамі павярнуў твар. Абдаў віннай затхай. Зарагатаў у вочы.

— Можа ратаваць грэшную душу ўздумала? Хо-Хо! Аказваецца, жанчыны ўсе на адзін капыл зьлеплены. Сьмеху варта...

Вырвалася. Устала. У вачох мільгнула—і ўраз застыла—трывога і боль. Папрасіла сукенку.

— Я хацела сказаць табе, Мікола, што я цяжарная.

14

Вокны залеплены сьнегам.

На дварэ—у прасьцягах, над зямлёй—завея. Ассымэтрычны кірункі завеі. Вальпургіеву ноч танцуе сьнег. Оркестр вятроў ня мае дырыжэра. На дварэ—у прасьцягах, над зямлёй—роіла цемры, вятроў, сьнегу.

Вокны, здаецца, ня вытрываюць ад сьнегавой бомбандыроўкі. І сьцюдзёна яшчэ больш ад гэтага стукату ў шыбы.

— Мікола!

— Таварыш загадчык!

У канцы залі на момант паказалася постаць Длугача.

— Ну? Што там?

Настойліва патрабуюць:

— Выпалі ў печы, у чытальні такі холад, што кішкі замярзаюць.

— Няма дроў. Прыдзецца сёньня пацярпець, ніяк расьпілоўшчыкаў не злавіў.

— І толькі таго! Каму халодна, хлопцы, гайда дровы рэзаць. Ідзі, цягні ключы.

Неўзабаве ў печы гарэзна лапатаў агонь, хвалямі пайшло цёплае паветра, успацелі шыбы.

Комсамолец Калесьнікаў, узьбіўшыся каленамі на лаву, рукамі заціснуў вушы, шавеліць губамі.

*„Колектыўная гаспадарка—гэта не галоўная магістраль, не сталбавая дарога, не галоўны шлях, па якому сялянства прыдзе да соцыялізму“.*

— Ах, ты гэтак!—абураецца шахматыст.

— Бяры, бяры... З табою пагодзішся!

Па паркету шахматнай дошкі паплыў грозны слонь, нечакана спыніў сваю хаду і перабляытаў гэтым усю сытуацыю бою.

— Шах!

*„Сталбавая дарога пойдзе па коопэрацыйнай лініі. Галоўны шлях—гэта організацыя соцыялізму праз коопэрацыю сельгаспадарчую“.*

У галаве Калесьнікава багата непаразуменьняў. Ён прывык падганяць пад кожную „тэорыю“ сваю ўласнаю „практыку“, і з гэтай прычыны ён ніяк ня можа пагадзіцца з Бухарыным.

Думае Калесьнікаў так:

— „Ой, таварыш Бухарын, як вас трэба разумець? па-разумнаму, як той Айхенвальд казаў, ці па-глупаму? Прыехаў-бы ён у наш Стаход дый зірнуў, як працуе коопэрацыя... Ня дай божачка...“

Ён робіць організацыйныя вынікі:

— „Няхай гэта застанецца да палітзаняткаў, там хлопцы растлумачаць. А покуль што... Якая гадзіна? Палова сёмай... Яшчэ, значыцца, поўгадзіны“.

Далей думкі прымушаюць Калесьніка закрыць кніжку, і ён ідзе шукаць Шастакова. Яшчэ за дзьвярыма габінэту партасьветы чуе ён голас сакратара:

— Ды не, хлопцы. Вы-ж павінны зразумець істотную розьніцу. Бухарын кажа аб „спалучэньні „пролетарскай рэволюцыі“ з „сялянскай вайной“ у новай форме“, як ён дэталізуе—„на гэты раз „будаўнічай форме“, тады як Ленін выразна ставіў пытаньне зусім інакш.

Калесьнікаў адчыніў дзьверы. Каля Шастакова сабралася некалькі комсамольцаў. Ён трымаў у руках кніжку і чытаў адтуль:

— „Скончыўшы буржуазную рэволюцыю разам з сялянствам нагугл“... Я падкрэсьліваю, таварышы, гэтае „сялянства *наогул*“... „Пролетарыят Расіі перайшоў канчаткова да рэволюцыі соцыяльнай“... Слухайце тут уважліва... Значыцца, да рэволюцыі соцыялістычнай, „калі ён здолеў раскалоць вёску, далучыць да сябе яе пролетараў і напаўпролетараў, аб'яднаць іх супраць кулакоў і буржуазіі, у тым ліку сялянскай буржуазіі“... Зразумела...

— Што Бухарын ня бачыць клясавай барацьбы на вёсцы... Кропка.

— Брава, Калесьнікаў! Ну, а як у цябе з коопэрацыйным плянам?

-- Гэта-ж па яго спэцыяльнасяці,—пажартаваў нехта.

Калёсьнікаў паглядзеў на гадзіньнік.

— Вось што, хлопцы. А сёмай гадзіне сход коопэрацыйнага актыву... Я надумаў... Дрэнна працуе наш коопэратыў, проста аж жах... Будзеш слухаць Бухарына, дык да соцыялізму на нашым Стаходзкім коопэратыве не даедзеш.

— Нават з такім ортодоксам, як ты?

Каб не зарагатаць—зрабіў твар сур'ёзным.

— Падбярэм хлапцоў, пойдзем на сход... А заўтра налёт на коопэрацыю зробім. Ну?

Шастакоў падхапіў:

— Дзелавая прапанова!

— Пайшлі,—знайшліся ахвотнікі.—На коопэрацыю зуб маю. Сшыткі вунь для лікпунктаў затрымалі.

Мітусьлівым грудком высыпалі ў завею.

— Аж вочы сьлепіць!

— У сьнежкі, хлопцы!

— Дый дзе там... Ня лепіцца. Мароз.

Проста ў вецер—насустрач завеі—нехта запеў:

Наперад, па сонечных рэях!

І ўжо разам:

На фабрыкі, шахты, палі...

А жартаўнік ня стрымаўся:

— І на стаходзкі коопэратыў!

Выбухнуў і панёсься над завеяй, глушачы яе, малады, пераліўчаты рогат.

Як пайшлі хлопцы, Шастакоў пайшоў у чытальню. Было пуста. Толькі ўпартыя шахматысты дагульвалі сваю партыю. У печы палілася. Глуха вуркатаў, нібы голуб, вецер у печы. Падсунуў крэсла да агню, і калі сеў—тады адчуў лёгкую змору.

— Цяжкавата хлапцам даецца вучоба. Каб хаця да новага году скончыць асноўныя пытаньні, а там... Там разьедземся па вёсках... Тут, здаецца, агрокомбінат будаваць будуць... Вырашаюць гэта пытаньне... Добрыя дровы... Граб ці што?.. Цяжкавата хлопцам... Не разумею, дапраўды, чаму Караткевіч бытавізмам так горача займаўся тут? Здаецца, хістаньняў асаблівых няма... Штодзеннай політпрацай бытавое можна заглушыць... Перагібаў, хлопец...“

— „Ты сидишь у камина и смотришь с тоской“...

— А-а-а! Жэня... Садзіся вось, пагрэйся. Наадварот, Жэня... Проста адпачываю...

Прынесла крэсла, зьдзела засьнежанае паліто, павесіла на сьпінку і села, паціраючы ахаладалыя рукі.

— Адпачываеш? А я думала, што мары наплылі. Нават і ня чуў, як падыйшла.

— Што новага? Чуў, што ты хворая. Праўда?

— Нічога, ужо лепш. А навіны? Навіны ёсьць. Сваіх дзяўчат за машынку бяру.

— І як, даюцца?

— Вось пабачыш, Шастакоў, калі неўзабаве ня прыдзе пяць нашых работніц у ячэйку... Абавязкова прыдуць. Толькі ведаеш, цяжкавата з некаторымі... быт насядае.

Шастакоў усьміхнуўся. Падкінуў у печку палена. Яго лізнуў агонь.

— Эх, Жэня... Я думаў пра гэта... пра быт... Нешта Караткевіч з гэтым вазіўся, і ты вось... Гэта-ж для комсамольца другараднае пытаньне. Што трэба рабіць? Працаваць, працаваць і працаваць... У працы, у колектыўнай, Жэня, працы забываеш на ўсякую такую драбязу, на амурныя стрэлы... Каханьне, сям'і звычаі, прывычкі... Хіба гэта ў жыцьці галоўнае? Ад гэтага галава баліць?

— Вось табе і раз! Шастакоў, родны мой... Я з табой згодна, што гэта не галоўнае, але-ж мы—комсамольцы—людзі? Так, людзі, і жывём сярод людзей, а яны напалову ў старым... Вось і конфлікт атрымліваецца. Варты ўвагі конфлікт.

— Ня згодзен, прынцыпова ня згодзен. Ну, чаму вось, скажы, мяне ані не хвалююць пытаньні быту?

Жэня глядзела ў печ—на бессаромныя паміргваньні вугольляў. Поўз па вугольлі сіняваты—з лілёвым адценьнем—празрысты агеньчык. Не адводзячы вачэй:

— Хіба ты ніколі не кахаў? Хіба ня было ў цябе сям'і? Як сабе хочаш, а працаваць заўсёды—стомішся.

— Ці любіў я?—засьмяяўся Шастакоў.—Было нешта такое раптоўнае некалькі разоў... Але я ўмеў браць сябе ў рукі, ну, і калі бачыў, што гэта шкодзіць працы, адводзіў у бок. А сям'я?... Сям'і я даўно ня ведаю... Гадоў дзевяць...

Жэня павярнулася, адарвала вочы ад агню, і тады заўважыла: на твары Шастакова былі нейкія мяккія—раней іх ня было—мяккія і ледзьледзь журботныя цені.

— Ты мне некалі на сходзе—помніш?—абяцаў пра сябе расказаць. Раскажы, Шастакоў, калі маеш ахвоту.

— Гэта была твая запіска? Чым яна была выклікана, Жэня?

Яна адразу не адказала. Заправіла за вуха непаслухмяны кудзер. Затаіла ўсьмешку.

— Ты вось нейкі такі. Адразу ўмееш зацікавіць усіх. Здаецца, малады, а практыка ёсьць, жыцьцё ведаеш... Ну, вось...

— Так... Між іншым, ня ведаў я, што такую здольнасьць... асаблівасьць маю.

Усьміхнуўся нейкай глыбокай усьмешкай. Такія ўсьмешкі бываюць, калі чалавек пачынае глядзець у самаго сябе. Сказаў:

— Слухай, калі так хочаш... Я ня ўмею расказваць, але як выйдзе, так і выйдзе...

15

## Тое, што расказаў Анатоль Шастакоў, калі дагарала ў печы

— Ты ўжо ведаеш, Жэня,—расказваў Шастакоў,—што я быў бяспрытульным... Як гэта здарылася? Не забывай, што я з інтэлігентнай, буржуазнай, калі хочаш, сям'і. Бацька мой—профэсар этнографіі, доўгі час меў кафэдру у Н-скім інстытуце, а потым, захапіўшыся лёсам „Северо-Западного края“—пры дапамозе мэцэнатаў-абшарнікаў арганізаваў этнографічна-гістарычны музэй, і добрую палову свайго жыцьця пражыў каля гэтага музэю. Намі—мной і старэйшым братам Львом—не займаўся бацька. Нічога няма дзіўнага, што брат быў зусім іншых поглядаў на жыцьцё, чым бацька, поглядаў, выпрацаваных у асяродку сваіх таварышоў, у асяродку рэволюцыйнай інтэлігенцыі.

Але навуковая праца бацькі па першы толькі погляд насіла характар „чыстай навукі“. Ён меў шырокія сувязі з беларускімі „адраджэнцамі“, дапамагаў ім, фінансаваў, як мог, н'ат арганізаваў выданьне шэрагу беларускіх кніжок.

Рос я дзікай травой—плывуном. І было так, што ў часе частых зьмен усякіх улад на Беларусі, бацька выехаў за мяжу, а брат пайшоў на фронт, стаў у шэрагі Чырвонай арміі. Там ён і загінуў. Я шукаў яго, а знайшоў толькі дошчачку над магілай... Пакінулі мяне на рукі аднае асобы. Пазьней я чуў, што яна была неофіцыйнай жонкай бацькі, але гэта між іншага. Гетэрай была тая жанчына. Вось і прышлося мне ісьці з хаты, таварыш знайшоўся,—Рубан—мянушка была.

Ня важна, Жэня, колькі мы пахадзілі. Адно скажу: памёр у дарозе Рубан. Ішоў я адзін. Доўга. Ужо ня помню, колькі хадзіў. Але ў прыфрантовай паласе знайшоў таварышоў—цэлую хэўру такіх-жа, як і я, бяспрытульных. Мястэчка за мястэчкам, горад за горадам—туманом тапазовым заслана ва ўспамінах усё гэта. Што помню? Помню, як зьбілі мяне гандляркі—квактухамі наляцелі і зьбілі. Прыкра было. Уначы—зьбіты, з мутой крыўды на цэлы сьвет, на ўсіх, на ўсіх людзей—пад васеньнім дажджом ішоў я на вакзал, каб знайсьці сваіх, каб пагрэцца...

Вось вугольле зарэе... Здаецца, звычайная рэч—калі паліцца ў печы. Але тады... Тады гэтае вугольле было даражэйшым за ўсё. Гэтак соладка рукі адубянеўшыя над вугольлем гарачым патрымаць! Пойдзе целам прыемная—выказаць цяжка!—цяплынь, і на ўсё благое, на жыцьцё ліхое забудзешся...

Дождж сячэ проста ў твар, разгрызае, здаецца, скуру. Паратунку няма! Няўтульныя кубы камяніц абступілі навокал. Бррр!—халодна, ня грэюць лахманы цела, калі сэрца гатова пагаснуць... У той вечар, праз боль, праз кроў сваіх ран, праз слоту, праз вецер асеньні—вугалёчкам успыхнула думка ў галаве: што-ж будзе?

Будзе—

дождж палівацъ, зьдзекі строіць зіма, голад гнаць—наперад... А куды?

Будзе—

зноў сутарэньне, буфэра цягнікоў, памыйніца, людзі гоняць—ідзі... А куды?

Жэня! У хлапечай істоце, у душонцы—хоць і скалечанай, занядбайнай, але ўсё-ж—душонцы—закіпала трывога. Ты ня ведаеш і ня будзеш ведаць, што можа зрабіць трывога выроку, трывога пакрыўджаных лахманоў! Гэта сіла такая, якой ніколі не супярэч, ніколі не рабі перашкоды. Эт, душу не раскрыеш!..

Паўстала выразна, неміласэрна, груба, бязьлітасна пытаньне: карманьнікам, налётчыкам, марафэтчыкам быць?

Не! Упарта і цьвёрда было вырашана: не. Вось чаму, Жэня, не супярэчыў н'ат, не адбіваўся, калі забралі мяне ў комуну для беспрытульных.

Добрая школа—комуна. Чалавекам зрабіла, на ногі паставіла, жыць навучыла, пад сонцам месца вызначыла.

Дый вось... ты кажаш: бытавое пытаньне. Я помню: было такое, ну, нешта накшталт раману. Эх, якое дрэннае гэта слова! Старое, непатрэбнае. Ці-ж нельга знайсьці нейкае іншае азначэньне для чалавечых адносін?

Яе звалі—Ніна. Разам працавалі ў радзе комуны. Любілі? Я яе моцна, так, як можа любіць шаснаццацігадовы хлапец. Радасьць у мяне якая, удача ў працы, посьпех у вучобе—да яе хутчэй бягу, расказваю, раджуся. Тое-ж самае і яна рабіла. Было неяк аднойчы так, што я выступіў супраць яе, на сходзе. Ня помню ўжо, на якой глебе гэта здарылася, але помню, што мы стаялі на рэзка супрацьлеглых позыцыях.

А вясна была, Жэня, такой, што і выказаць цяжка. Ну, а вясна для нашай комуны—гэта значыць больш працы, больш клопату. Робіш цэлы дзень, бегаеш, а потым—увечары—у сад на спатканьне з дзяўчатамі (яны жылі ў другім будынку).

— Толькі, чаму не падтрымаў?—вось запытаньне, з якім яна сустрэла мяне ў той вечар.

— Муру казала,—адказаў.

Ну, потым прышлося дэталёва абгрунтаваць свой „аргумэнт“, і мы засталіся па-ранейшаму сябрамі... ці... ну, больш таго. Ты, напэўна, чакаеш канца? Ты перабіраеш у галаве ўсе шматлікія романы, апавяданьні, новэлі, дзе ставіцца гэтая проблема. Не чакай такога канца. Канцом

было проста тое, што мы пайшлі з комуны, жыць самастойным жыцьцём пачалі, вырасьлі. Але да самай апошняй мінуты мы дапамагалі ў працы адзін аднаму, спрачаліся, біліся кожны за свой погляд і... любілі. Цяпер Ніна загадвае дзіцячай колёніяй, добры пэдагог яна. Дый... што гэта з табой, Жэня?

— Нічога... горача каля печкі...

— Ведаеш,—казаў далей Шастакоў, адводзячы вочы ад расчырванелага Жэнінага твару,—мне заўсёды сьмешна чытаць пра такія вось рэчы. Вось я нядаўна чытаў новэлю, дзе разьвязваецца проблема асабістага і грамадзкага. Ну, і што-ж? Па-мяшчанску, па-старому падыходзіць пісьменьнік да проблемы. Каханьне, бач, перашкаджае працы, адно другім падмяняецца. Сьмяяўся я. А ўсё гэта ў пісьменьніка таму, што падыходзіць ён да жанчыны з меркай старой, на аршын мерае, чалавека ў жанчыне ня бачыць, адна—фізыолёгія. Невядома аўтару гэтаму радасьць працы, ёю—радасьцю працы—можна заглушыць усё старое, што ёсьць у тваёй істоце. Радасьць працы —вось мерка ўсяму ў жыцьці, вось стымуль і мэта. Набудзь гэтую радасьць—і зірнеш на сьвет вачыма новымі, тое, што спыняла раней тваю ўвагу, ня будзе цікавіць цябе, здасца табе мізэрным, непатрэбным. Што, можа яшчэ з палена падкінуць? Хараша вось адпачываць каля печкі, праўда?

— Слухай, Шастакоў... Ну, а калі радасьць працы... няма яе, ну! Што тады рабіць?

— Выхоўваць у сабе,—усьміхнуўся Шастакоў.—Чалавек бяз гэтай радасьці працы—ня новы чалавек.

На Жэніным абліччы мітусіліся барвянцовыя водблескі. Яна сядзела і глядзела на чырванаватае вугольле—доўга, упарта, перабіраючы нейкія цяжкія свае думкі, глядзела на чырвонаватае вугольле да таго часу, аж пакуль не забалелі вочы. Потым устрапянулася, матнула галавой, нібы атрасаючы з валасоў кроплі дажджу, сказала:

— Слухай... Я хачу расказаць табе... Ну, як табе сказаць? Аб сваім сказаць хочу... Парады прасіць...

— Парады? Ну, слухаю, — не хаваючы зьдзіўленьня, адказаў Шастакоў.

16

І рабін Калмановіч прымушан быў згадзіцца, што яго козыры паволі, але дужа ўпарта плывуць з рук. Ён спрабаваў быў пропаведзь у сынагозе сказаць, заклікаў у ёй ратаваць дзяцей сваіх, бараніць нацыю. І можа зрабіла-б уплыў ягоная пропаведзь, дасягнула-б мэты, каб толькі ня гэты выпадак—гора старому яўрэю, гора!

— Яўрэі—казаў рабін Калмановіч.—Вы ведаеце, што нас чакае? Нас чакае боскае пакараньне за грахі дзяцей нашых.

— Яўрэі,—доўжыў ён.—Хіба рускія забылі на бога? Не! Гэта толькі так, гэта толькі для людзей. А потым... потым... Прыдзецца нам адцурацца ад сваіх звычаяў, ад свайго бога!..

Стаіўшы дыханьне, стаялі яўрэі і слухалі рабіна Калмановіча, слухалі і бачылі на ягоным аблічы сьляды квапнай турботы. Разумелі гэтую турботу яўрэі і думалі, думалі, думалі.

Апошні раз гаварыў Калмановіч гэтае магічнае слова, у якое ўкладаў ён усе свае сілы—патос гора і пагрозы быў у гэтым слове, трагізм і маліцьвенны экстаз:

— Яўрэі!

І—абвёўшы вачыма сынагогу—рабін Калмановіч убачыў суседа, свайго сябра, першага райцу на жыцьцёвых горнасьцях—Нохімку. Убачыў і ўжо ня здолеў адарваць вачэй, ня здолеў гаварыць далей. А за рабінавым позіркам сьледам пайшлі позіркі ўсіх прысутных: рыжы Нохім, адтапырыўшы вялізную ніжнюю губу, сьцякаў нутраным рогатам.

— Нохім,—забыўшыся на рытуал, прахрыпеў Калмановіч.—Нохім!

Пад градам позіркаў Нохім стаў сьпіной да рабіна, потым—павольна—пайшоў да выхаду, і ўжо ля дзьвярэй сказаў:

— Гора табе, стары яўрэй! Сорам табе, былы мой сябра Мэер! Сорам, вялікі сорам!

— Нохім!—нязграбна растапырыўшы рукі, пайшоў проста на яго.

— Ганьба рабіну, які страціў давер'е яўрэяў,—і, адчыніўшы дзьверы:— Аб чым турбуешся, стары яўрэй? А дзе твая дачка, дзе яна?

І ліпкую, нібы патака, цішыню расьсекла адчайнае і грознае пытаньне:

— Нохім, ну?!

У ліпкае месіва цішыні лінулі нязьлічоную колькасьць вады—пацёк шэпт, узмацніўся, вырас у гармідар.

— Ідзі дахаты, Мэер! Я чую, як кліча цябе твая жонка, няшчасная Эстэр!

А працягам усяго гэтага нязвычайнага для стаходзкай сынагогі здарэньня для рабіна Калмановіча было:

— Ай, а клог цу мір, а клог цу мір!—лемантавала, рвучы сівыя свае валасы, старая Эстэр.

---

Нясьмела пастукала ў дзьверы. Счакала хвіліну, паўтарыла стук. І тады з-за дзьвярэй, з глыбіні пакою, пачуўся жаночы голас—знаёмы і разам з тым—нейкі нечаканы—жаночы голас:

— Можна, уваходзьце.

Жэня ляжала на канапе, трымаючы ў руках кнігу. Як увайшла Роза—кніга адляцела ў бок і Жэня ўсхапілася ёй насустрач.

— Роза! Ай, мілая, каго я бачу! Вось нечаканасьць якая!—і раптам


БССР Дзяржаўная бібліятэка імя Леніна



Инв. 14053 Т. 1347

прыпынілася, нявыказаным засталося зьдзіўленьне і яно—гэтае зьдзіўленьне—лягло на твар. Схмурнелае было Розіна аблічча.

— Што ты?

Роза паволі разматвала даўгую шаль, і тады як разматала яе, па шыі ўбачыла Жэня, як схудала за час хваробы сяброўка.

— Не магу, Жэня, больш, слова шчырае—не магу... Хіба я горшая за цябе, за іншых? Я хочу быць гэткай-жа маладой, як і вы...

Падыйшла Жэня да яе, узяла за рукі, пасадзіла побач на канапе.

— У чым тваё „не магу"? Па парадку выкладай.

— Кінула я хату, Жэня. Не магу больш... Ну навошта яны мне? Толькі калечаць сваімі... Эх, Жэня... крыўдна мне... Куды я пайду, куды я пайду?

Суцяшала. Нібы малое дзіцянё—па валасох пяшчотна гладзіла. І, пэўна, таму, што даўно не адчувала Роза ласкі—яна заплакала гарачымі і буйнымі сьлязьмі.

— Куды я магу ісьці,—казала праз сьлёзы.—Дачка рабіна? Ня прымуць...

Плакала. Жэня маўчала. У такія хвіліны не замінай чалавеку—няхай выплача накіп крыўды і горнасьці, і тады лягчэй зробіцца: абмочаная сьлязьмі крыўда—ня цісьне гэтак. Гладзіла Жэня валасы сяброўкі і думала, думала аб сваім—перажытым хіба ўжо?—горы. Дзіўную рэч рабілі сьлёзы Розы—ад іх у Жэнінай істоце паўставала нейкая—дый адкуль яна ўзялася!—радасьць. Хіба Жэніна гора—гора? Радасьць павінна быць, што скора будзе яна песьціць свайго дзіцёнка. Чаго-ж было хвалявацца? Думала што? Чакала ласкі, падтрыманьня ад яго? Дармо! Маладосьць кіпіць, маладосьць нахмураных брывей ня любіць, ня любіць маладосьць да крыві закусаных губ.

— Куды ты пойдзеш? Вось... дурненькая мая! Вось канапа, начуй: А заўтра, заўтра падумаем. Ці варта плакаць? Ну?

Зірнула праз муту сьлёз на Жэню,—ай, ай! Хіба не пра гэтую самую Жэніну канапу думала, як ішла сюды? Пра яе, і толькі пра яе. Так, як думала, і абыйшлося яно. І плакаць ня трэба, і так шмат плакала.

— Усё? Ну, досыць, досыць! ці-ж нам з табой плакаць, Роза? Абатры сьлёзы і... будзем піць чай.

17

Андрыенка ідзе на сход адзін. Але прывычка мацней за жаданьне ён прыпыняецца ля доміка, пафарбаванага ў жоўты колер, бярэцца за ручку дзьвярэй, хоча іх адчыніць і—аднімае руку. Андрыенка крута паварачваецца на месцы, складае губы для посьвісту і ідзе далей.

— „Зайсьці ўсё-ж трэба было-б,—непакояцца ў Андрыенкавай галаве думкі.—Хіба ён не таварыш мне?"

Але за гэтымі думкамі—усьлед—ідуць другія, больш акрэсьленыя, больш пэўныя. Гэтыя думкі дбаюць аб комсамольскай этыцы, аб тым, што ягоны таварыш—як-ніяк—гэтую этыку страціў.

З супрацьлеглага канца мястэчка да нардому ідзе Самайловіч. Ен, як і іншыя члены бюро, у апошні раз абмяркоўвае пастанову, шукае абвяржэньняў гэтай пастановы, але абвяржэньняў ня знойдзеш: справа ясная, зразумелая кожнаму.

Жэня, як заўжды, ідзе не адна. З ёю—падмінаючы нагамі парыжэлы забруджаны сьнег—ідуць комсамольцы, ідуць работніцы арцелі. Весела ў гэтай купцы людзей, якія сьпяшаюцца на сход.

— Хлопцы! Чаго гэта мы разагналіся, нібы на пажар? Там, напэўна, яшчэ нікога няма.

Але словы застаюцца словамі: комсамольцы са сьмехам пусьціліся навыперадкі—толькі хрумстае сьнег,—а калі так, дык не адставай, ня страчвай солідарнасьці.

— Так усе разважаюць і заўсёды позьняцца.

Жэні горача. Гарыць марознай цяплынёй твар. Хочацца расшпіліць гузікі паліта, каб вецер падхапіў крысы ягоныя, каб гнаў гэты вецер яе шпарчэй—яшчэ і яшчэ. Але Жэня стрымліваецца—застудзіцца можна. А адстаць—не адстанеш: ёмка ісьці ў нагу з вясёлымі сябрамі, пад марш комсамольскі, нага ў нагу.

Першы раз у гісторыі Стаходзкай ячэйкі было так, каб зьбіраліся на сход раней прызначанай гадзіны. Кожны ішоў і думаў, што яшчэ рана, няма куды сьпяшацца, што ў нардоме нікога няма, але спачатку падсьвядома, потым выліваючыся ў форму думкі — сьпеў нутраны нейкі імпульс: хутчэй, хутчэй!

І як прыходзіў у нардом, сустракалі дружным—„Ааа!", і бачыў: шмат сабралася народу, хоць і рана зусім.

Шастакоў з Патапенкам хадзілі па залі, уздоўж шэрагаў лавак і пра нешта горача гаварылі. На Патапенкавым твары ня было ўсьмешкі, сур'ёзным быў твар і Шастакова. Доўга яны хадзілі так уздоўж лавак, аж покуль гадзіньнікавая стрэлка не падпаўзла да пяці.

Машынальна Патапенка выцяг з кішэні свой гадзіньнік, зірнуў на яго, потым, сказаўшы колькі слоў Шастакову, яшчэ раз, нібы забыўся, якая гадзіна.

— Ці скора пачынаць думаеце?—запытаўся ён у Андрыенкі; прыпыняючыся каля грудку комсамольцаў.—Усе прышлі?

— Акрамя Длугача ўсе.

— Ну, так яно і павінна было быць,—сказаў Патапенка.—Давайце пачынаць, я яшчэ н'ат не абедаў.

Расьселіся па лаўках. У самую апошнюю хвіліну, калі трэба было адкрываць сход, Андрыенка сарваўся з месца і пабег шукаць графіна. Яго чакалі моўчкі. Шастакоў курыў папяросу за папяросай, круцячы дым у колцы. Раптам адчыніліся з рыпам дзьверы. На парозе стаяў

Длугач. Усе прысутныя ўраз зірнулі на яго, і вось пад гэтымі позіркамі, упяўшы ў падлогу вочы, блытаючыся ва ўласнай хадзе, прайшоў у залю загадчык нардому, сеў на задняй лаўцы і разгарнуў газэту: яна закрыла Длугачоў твар.

Андрыенка вярнуўся з графінам.

— На абвестцы дню адно пытаньне... аб комсамольцу Длугачу... Патапенка, ты будзеш гаварыць?

Па праўдзе сказаць, няёмка было Андрыенку і гэтая няёмкасьць зблытала абмеркаваную загадзя ўступную прамову—запытаньне да Патапенкі было саломінай, што павінна была ратаваць сход.

— Таварышы! Шмат гаварыць ня трэба. Вы ведаеце, што перад намі стаіць грандыёзная работа. Ідзе вясна, а гэта азначае, што наша комсамольская арганізацыя становіцца перад адказьнейшым экзамэнам. Мы прыступілі ўжо да распрацоўкі пляну правядзеньня ў нашым раёне суцэльнай колектывізацыі. Вось тут, у ажыцьцяўленьні гэтага пляну, экзамэн для комсамолу. А для таго, каб экзамэн вытрымаць, каб паказаць сваю зьяднанасьць—што для гэтага трэба, таварышы? Усе сілы трэба напружыць, усю сваю ўвагу, волю сваю на гэты фронт накіраваць трэба. А з чым мы маем справу сёньня? Хіба нам не перашкаджае ў рабоце тое, што пэўная частка комсамольцаў—яшчэ не комсамольцы, а старыя, гнілыя мяшчане? Кожны разумее, што калі ты чысты—кажучы гэтым шаблённым словам—калі ты чысты ў быту, у асабістым сваім жыцьці, дык чыстымі будуць і твае падыходы да грамадзкай працы, дык выкананьне партыйных абавязкаў будзе чыстым, пасьпяховым. Комсамолец, які ня мае комсамольскай этыкі, не комсамолец! Гэта мы павінны сказаць рашуча, сказаць у апошні раз.

Слухалі комсамольцы Патапенку. І няёмкасьць, што перадалася ўсім прысутным ад няўдалага пачатку Андрыенкі, пачала зьнікаць, а замест яе нарадзілася і расло, расло і ўзмацнялася абурэньне.

— Я пераходжу да справы Длугача,—даўжыў Патапенка.—Я ведаю, ёсьць таварышы, якія недаацэньваюць бытавога пытаньня.—Ён зірнуў на Шастакова. Той па-ранейшаму курыў, круцячы дым у кольцы.—Але важнае яно, гэтае пытаньне. Яно шкодзіць зьяднанасьці нашых шэрагаў, яно стварае антагонізм комсамольца да комсамольца. Вы ўсе ведаеце Длугача, ведаеце вы і нашу Жэню першую...

— Патапенка, я протэстую! Гэта наша справа, і прашу маўчаць!

Народжанае абурэньне вырасла ў суладны выкліч:

— Длугач, садзіся!

— Маўчы! Твой чарод прыдзе.

Андрыенка бразгаў алаўком аб графін, але звон гэты губляўся ў шматгалосым вэрхалу.

— Усе ведаюць пра гэта,—перасільваючы гаману, сказаў Патапенка.— Я ня буду больш гаварыць. Вы самі лепш гаварыце.

Ен сеў. І тады Андрыенка кінуў алавок, паварушыў рукой валасы і сказаў:

— Хлопцы! Длугач, як высьветлілася, п'яніца. Мала гэтага, ён праводзіць вечары ў кампаніі хуліганьня. Пазаўчора мы яго бачылі з... проста паверыць цяжка!.. Ён быў з сынам Кранцэвіча!

— Хто гэта бачыў?

— Длугач, ты слова потым мець будзеш. Сядзі цяпер!

— Не мані, што бачыў. Ніхто мяне ня бачыў, гэта... гэта дэмагогія!

Недакураная папяроса паляцела на падлогу, энэргічнымі крокамі падыйшоў да стала Шастакоў.

— Дай мне... Калі ты, Мікола, хочаш ведаць, хто бачыў, дык я табе скажу. Я бачыў.

— Дзе гэта, калі?

— Пачакай, скажу. Я, таварышы, увесь час лічыў Длугача добрым комсамольцам. Дый тут, у нардоме, ён такім і быў. Я ня верыў таварышам, якія расказвалі мне пра яго... Але Жэня мне расказала пра іхныя адносіны, пра... Адным словам, учора я пераканаўся ў тым, што Длугач—ня наш, што ён ня выхаваўся ў комсамольскіх шэрагах. А табе, Мікола, параю, калі ты будзеш піць з Кранцэвічам, дык завешвай фіранкай вакно. Дзівак-чалавек! Выпадкам з майго вакна, я ўбачыў, як вы пілі, чуў, як ты лаяўся, чуў твае выказваньні аб комсамоле. У п'яным выглядзе, ведаеш, дрэнна ў цябе гэта атрымліваецца, брудна...

Длугач узьняўся з лаўкі.

— Хлопцы, гэта мая *асабістая* справа і я не дазволю ўказваць мне, як жыць!

Крута павярнуўся і вышаў з залі.

Калі падлічвалі галасы—за выключэньне Длугача—іх было: дваццаць адзін.

18

Ледзяныя сасулькі на дахах заплакалі буйнымі сьлязьмі.

Гэтыя сьлёзы заблішчэлі на сонцы.

Каля кузьні стаялі гаспадары, трымалі на павадку коні: падкоўваць прывялі.

Беня-балагол агледзеў скураное сядзеньне, выцер яго, прыладзіў да калёсаў. Чарга была за палатнянай будай.

— Соня, трэба зашыць буду.

Вучні хадзілі з настаўнікам за мястэчка і прынесьлі ў школу пук вярбы з пяшчотнымі—жаночай цяплыні—пукаўкамі.

Праз Стаход ішлі цёплыя вятры.

19

Званок урэзаўся ў сон, пераблытаў дзівосную ягоную каруну, прымусіў скінуць коўдру і прыслухацца да цішыні. У муту вакон біў часты дождж, раз-по-раз налятаў вецер і кропельную страмніну кідаў ён у вокны са зьвярынай лютасьцю. Поўз праз вокны брудны напаўзмрок.

Зазваніў у другое. Тады Патапенка падбег да тэлефону і ўслухаўся ў лапатаньне, гуд і перазвоны тэлефонныя.

— Аллё! Я слухаю. Адкуль? Ну, ну!

Недзе там—у глыбіні тэлефону—чуўся трывожны жаночы голас. У тэлефоне голас здаваўся рэзкім, і Патапенка нават адмахнуўся рукой.

— Прыбывае вада? На мэтр ужо? Добра, добра, я іду зараз.

Апрануўся і выбег у муту напаўзмроку, дажджу і вятроў. Густымі валамі ішлі хмары над Стаходам і разам з хмарамі ішоў нэрвовы вецер. Часінамі дзьмуў гэты вецер спакойна, тады можна было адчуць цяплынь ягоную, часінамі ён імклівіў з такой сілай, што балеў твар ад ягонага датыканьня—гарачым быў тады вецер.

Перад Патапенкам з завулку, з-пад заслоны дажджу вынырнула пастаць. Згін сьпіны дый хаду гэтую адразу спазнаў Патапенка. Ён паддаў кроку.

— Шастакоў!

Чалавек крута павярнуўся. Узірнуўся ў змрок.

— Патапенка? Шпарым хутчэй.

— Вада прыбывае.

Падыходзячы пад райком, убачылі людзей, учулі нэрвовыя галасы. Спрачаліся аб нечым людзі і відаць было: спрэчкам гэтым канца няма.

— Комсамольцы ўсе?—запытаўся Шастакоў, узіраючыся ў заспаны шэры Андрыенкаў твар.

— Хто застаўся ў мястэчку—усе. Трэба хутчэй што рабіць. Покуль яшчэ пагранічнікі прыдуць. Вада ідзе ды ідзе.

Вецер ірвануў крысы паліта з такой сілай, што Шастакоў ледзь не зваліўся на зямлю.

— Таварышы! Комсамольцы!—крыкнуў ён і вецер узмацніў, рэзонаваў ягоныя словы.—Зараз-жа на бераг разгружаць лес. Калі вада будзе прыбываць з гэткай-жа сілай—яна размые штабэлі і экспортны лес сплыве за мяжу. Вы разумееце, што гэта азначае?

— Гайда! Покуль трымаецца мост—мы можам што хаця зрабіць!

— Хіба мост ня вытрымае?

— Пазалетась-жа скрануўся, а вады тады было куды менш.

— Ну, дык пайшлі!

Адзін за адным пабеглі ўніз па адхону. У шархатаньні дажджу і візгатлявы лемант ветру ўрэзаўся і запанаваў дамінуючай мэлёдыяй вой рачной быстрыні. Чорнай прорвай ляжала перад імі рака, і па тым, што

гэтая чорнадзь патанала на тым беразе ў змроку, кожны зразумеў, што лугі ўжо заліло, што вада пагражае мосту, млыну і лесу.

— Гэта што азначае? Пойдзе экспортны лес—пойдзе валюта!

Аграмадзіны складзенага ў штабелі лесу наплылі на комсамольцаў з мокрага сутоньня. Сьцены цытадэлі сярэднявяковай нагадвалі штабэлі. Пэрспэктыва іх гублялася ў змроку, і таму грознымі, неабдымна вялізнымі здаліся яны.

— Тааак,—зусім ціха сказаў нехта і гэтае „тааак“ трэба было разумець ня іначай, як: „Скрані! Паспрабуй“.

— Хлопцы! Раскідай крайні!

— Не марудзь,—падхапіў нехта.—Вада вунь як разгулялася!..

Людзі ўраз вызваліліся з-пад ціску гэтага недаўменнага „тааак“, і вось колькі чалавек кінулася на штабэль, мокрыя бярвэньні, цiснучы на плечы, адарваліся ад свайго ўлежанага месца, тупымі канцамі сваімі ўйшлі ў густы напаўзмрок.

— Сьцеражыся!

— Раз, два, тры!

Першыя бярвеньні, аддаючы тупым стукатам, пакаціліся долу, і тады, як учулі гэты стукат, кінуліся да штабэляў усе прысутныя. Бервяно за бервяном, наганяючы адно другое, пакаціліся яны па зямлі:—ішлі сьпехам, гонячы рукамі бярвеньні, у два шэрагі комсамольцы, спачатку іх было няшмат, а потым шэрагі зрабіліся даўгімі, у непакойлівы нэрвовы гуд увязаліся жаночыя галасы.

Бегла рака, нібы вялізарны статак зьвярыны ад ляснога пажару,—вось якраз так, апраўдваючы параўнаньне, вылі, лемантавалі, стагналі, скуголілі хвалі, ішлі над ракой, б‘ючы яе, у розных кірунках вятры, ішлі находзячы адна на адну, нібы крыгі, валатоўкі-хмары, бегла рака, губляючы сваё рэчышча, заваёўваючы берагі, беглі хмары, нібы неспадзеўкі зачапіўшы змрок: над роілам хваляў, вятроў і хмар, якраз адваротна пропорцыянальна іхнай хуткасьці, ішоў золак.

Вада залізвала земныя раны.

Па калена ў вадзе ішлі з бервяном комсамольцы, а крыху далей—у вадзе—крычаў чалавек:

— Давай сюды! Памажы, вада падмывае.

Да яго кінуліся. Першым дабег Шастакоў, дабег і ўбачыў: сарвалася бервяно і гайдаецца на хвалях—вось, вось сплыве з вадой.

— Бяры!

Схапіў Шастакоў бервяно, напружыў сілы, падаў усім тулавам наперад, рвануў.

Як выбіліся на сухое, тады Шастакоў павярнууся і пазнаў у чалавеку: Міколу Длугача. Той ад сілы дыхаў, абціраючы рукой мокры, запэцканы твар.

— А ўсё-ж перамаглі бервяно, Мікола!

— Каб мы ды не адолелі!

Пайшлі да людзей, што сабраліся на ўзьбярэжным узвальлі,—былі тут і комсамольцы, і вучні былі тут і беспартыйныя. Густымі валамі бушавала хваляваньне.

— Вытрымае, ня можа гэтага быць,—казаў Калесьнікаў, пакіўваючы галавою ў бок мосту.

Спаўзаў змрок, і перад людзьмі паўставала грандыёзная карціна народжанага ў хвалях, вятрох і хмарах раньня. Сьціх дождж, нізка, прылеглі да зямлі вятры: расплываліся хмары, і вось паміж імі—гэтымі хмарамі—высьпяваў гарбуз (—сонца імпэтна ішло ўгару).

— А ўсё-ж разгрузілі лес у час. Яшчэ-б хвілінка і—усё чыста пайшло-б!

Унізе выла, напаўняючы рэхамі прасьцягі, рака, неабдымнай была яна—сваволілі, гармідарылі, лямантавалі хвалі. А над усім гэтым плыло, сьцякаючы парным малаком, сонца.

— Сёньня, хлопцы, ваша чарга ехаць. Учора прыехалі брыгадзіры з гораду, на падмогу. Адно цьвёрда помніце: наш раён абвяшчаецца раёнам суцэльнай колектывізацыі.

— Слухай, Шастакоў! А калі мост пойдзе? Прыдзецца чакаць тады.

Упялі позіркі. Парэнчы мосту—(яго будавалі летась)—паблісквалі на сонцы. Мост злучаў два адцінкі шашы, і там, на тым беразе, вада падступала да насыпу. Сапфірамі і аквамарынамі паблісквала водная роўнядзь на сонцы.

— Вытрымае мост, хлопцы, вось убачыце—вытрымае!

У напрамку мосту бег Мікола Длугач, шырака, нібы крылы, раскідаў рукі.

— Павінен вытрымаць. Разумееш?—*павінен!*

*Канец другой часткі.*

Верасень, 1931 г.

# ТАЎРЫДА

*Поэма*

**Юлі Таўбін**

*Заіру Азгуру*

Карабельнаму сьлёсару з Глазго
біць цьвікі і тачыць вінты,
але ён не пабачыць, Азгур,
акіянаў сырых раты.

Людзі іншыя возьмуць вахту
і старно прывядуць у рух,
каб хістала на моры яхту—
працу цьвёрдых ягоных рук.

Так і мы сёньня скончым стратай
свой працоўны і просты шлях,
каб шматкі нашых строф ці статуй
па вякох насіла пасьля...

28-IX 1930
**Менск.**



I

У Вэнэцыі месяц—дзюк
над сям'ёю палаццо і хатак...
рамантычным пачуцьцям люк
адчыняе такі пачатак.

Пачынаецца—
звон мандол,
лепет лютняў і гоман мэсы,

пачынаецца—
плёск гандол,
з лёгкім подыхам догарэсы.

А ў паветра пяшчот устаў
і пад небам вечнага лета
дымам дыхае даўні квартал
романтычна-бруднага „getto“.

Заглушае зьвярыны рык
клявэсыннае кволае скэрцо—
гэта просіць Шэйлак стары
за дачку—хрысьціянскага сэрца.

Над фронтонамі пыхкіх віл
над тэрцынамі Дантаў узьнёслых—
вее жахам жывых магіл
дзікі плач Урыэля Акосты.

Лютняў лепет...
Гітары звон...
Догарэсы ў клясычных позах...
Пасылае небу праклён
зжабрачэлы Борух Сьпіноза.

Да маркізы на мэнуэт
[illegible] поэт.

[illegible]з
[illegible]
[illegible] саюз
інквізыц[illegible]астры.

Каляровыя сьцені ляглі
на вузорны кітайскі кілім

І чытае прыдворны поэт
паважанай маркізе сонэт,
а крывавых кастроў сьвятло
прарываецца
цераз шкло.

* * *

У царыцы грацый і муз
апусьцее потым палаццо...
адвядуць можа месца яму
ў гістарычных вучоных працах.

Потым Блерыо
першы
ўзьляціць,
потым радыё
гукі зловіць
і пракрэсьліць
каналаў
цішь
дасканалы
моторны човен.

Але доўгіх стагодзьдзяў лёс—
ён надоўга адзнакаю лёг.

Будзе ў Пушкіна каля дзьвярэй
доўга стукаць „презренный еврей“.

Яшчэ будзе ізноў і зноў
захліпацца ў крыві Кішанёў,

яшчэ будзе на сто гадоў
адгукацца ўшыркі і ўдоўж:

— Бі жыдоў! Бі паганых жыдоў!
— Бі жыдоў!

II

Вось ён, вось ён—стары ліхвяр,
што трыкутнікам—барада,
што ў маршчынах рухавы твар
і запушчаны лапсардак.

Шмат з тых дзён праплыло вады—
ён зьмяніўся цяпер куды.

Аблягае прыгожы фрак
непарушны ягоны стан,
ён ня золатам будзе граць,—
будзе акцыі ён лістаць.

У яго — і тэатр, і бар,
і падлізьнікаў чарада...
Гэта той-жа стары ліхвяр,
што трыкутнікам барада.

Гэта сьвету старога вар,
гэта дзікіх стагодзьдзяў дар,
о, агідны стары ліхвяр,
што трыкутнікам—барада.

Прамысловец, ранцье, банкір—
вы трымаеце ў лапах сьвет,
Вам поэты плятуць вянкі,
захліпнуўшыся ў харастве.

Залівайце свой жах віном
і спраўляйце апошні фэст—
пагражае вайне вайной
„Kommunistischer Manifest“.

Сьцеражыся, стары банкір...
І насустрач
              варожым сілам
выступае
              Лекерт Гірш
разам з Ботвінам Самуілам.

Хай ня ўстануць яны з пяску...
Чуеш шолах сьмерці ляза?..
Што-ж палохае вас бяз куль
пролетарскі маяк—Масква.

Што-ж ты, гожы мой, залаты—
ад якіх пасівеў нягод?
Свае важкія малаты
падымае твой-жа завод.

Так канчаецца пыхкі баль,
баль стагодзьдзяў і скок вякоў—
зачыняй свой апошні банк,
зачыняй на замок яго...

Адсьвяткуй свой апошні фэст.
Паінакшаму вее вэст.
У апошні жыцьцёвы кон
ён прыносіць табе твой скон.

І шапоча праклятьі вэст:
„Kommunistischer Manifest“...
„Kom-munis-isch-scher Manifest“...

16-18-VIII 1930.

## Пагромы

I

Пагром пачынаецца так:
на рынку
п'яны салдат, невядомы нікому
(падрана кашуля,
ў крыві барада ўся)
крычыць:
„апо-ошнюю...
хлеба...
скарынку-у...
апошнюю...
хлеба...
і тую абважылі, хрыстапрадаўцы“.
Тады—
ў іншым канцы народу
чалавек з насунутым на вочы картузом,
з высока паднятым каўнерам палітону
і сукаватым дубнячком—
пачынае разважаць
пра жыдоўскія ўціскі,
што ад іх усе нашы нядолі і нягоды,
што цар дазваляе сваім сыном
біць гэту нечысьць да самага скону,
хаты іх разьвеяць па сьвеце тлом.

Тады крычаць аднекуль зблізку:
— Бі
жыдоў
і сіцылістаў!—
Так пачынаецца пагром.

Яны нас уціскаюць, рабуюць усё чыста,
Яны паўстаюць на бацюхну цара...
— Бі
    жыдоў і сіцылістаў!
— Ур-ра!

Грошы нам круцяць, жанок нашых ціскаюць,
кідаюць бомбы ў бацюхну-цара...
— Бі
    жыдоў і сіцылістаў!
— Ур-ра!

Дзяцей нашых рэжуць і кроў п'юць міскамі,
просяць прыгону ў бацюхны-цара...
— Бі
    жыдоў і сіцылістаў!
— Ур-ра!

Вось што казаў мне анэгдысь пан прыстаў:
„Беце іх у славу бога і цара!"
— Бі
    жыдоў і сіцылістаў!
— Ур-ра!

II

Так пачынаецца пагром
і ломіць вокны важкі лом
і вакяніцы плюшчыць дом,
бразгочуць шкелцы шыб—
і хаты іх зраўняюць з тлом
пад мяккім сонечным сьвятлом,
зьмяшаюць з шумам першых стром
іх перадсьмертны хрып.

Так пачынаецца пагром...
Плыве ў паветры пух пярын
і перад смерцю бачыць сын,
як гіне маці пад нажом—
апошні ў памяці націн.

Так пачынаецца пагром—
дзе хруст і храст, дзе хрып і храп,
дзе душаць горла клешчы лап,
кладуцца пластам мертвякі,
дзе сотні стогнаў стынуць, каб
аджыць дакорам на вякі.

III

Зайшло іх трох у цёмны склеп,
Пад пэўны схоў яго імглы.
Было іх трох, што елі хлеб
з кравецкай вострае іглы.

Але сказаў іначай лёс:
„Даволі працы, досыць сьлёз.“

Яны сядзелі. Ён. Яна.
І маладая іх дачка.
Гняла з відна і да відна
іх цяжкіх клопатаў рука.

Але сказаў іначай лёс:
„Даволі працы, досыць сьлёз“.

Яны маўчалі. Кожны рып
іх катаваў, іх біў, іх грыз...
І кроплі пякалі з гары...
За кропляй
кропля...
Мерна...
Ўніз...

Тады сказаў ім ціха лёс:
„Даволі працы, досыць сьлёз.“

Пасьля—
трывожны гуд і рух
аднекуль зблізку стаў чуцён...
І ім згадаўся вузкі круг
іх няпрыглядных, бледых дзён.

І гаварыў ім ціха лёс:
„Даволі працы, досыць сьлёз.“

Калі разьбіў іх дзьверы кол,
на скроні пала сівізна...
пасьля—
як клалі іх у дол—
вакол сьмяялася вясна.

І так сказаў над імі лёс:
„Даволі працы, досыць сьлёз.“

І каля іх сьмяяўся бор
басістым шумам мужных крон,
смалістым пахам дыхаў ён,
ён гнаў кратоў з зімовых нор
насустрач сонцу і вясьне...
Вавёркі—сьмешныя зьвяркі—
крывілі мордачкі свае,
сядзелі ціха на сасьне
і слухалі— вясна пяе!
Вясна гаворыць
ля ракі!

А тая—
ў шуме першых хваль,
што ўрэшце змылі рэшткі крыг,—
як разьліецца на ўсю даль
па паплавох па маладых,
як захлыне сваёй красой
людзкія прэкі, скаргі, боль,—
шырокай срэбнай паласой
усё намкнуўшы за сабой...

IV

Праз два дні,
калі паліцыя
на вуліцах пачала зьяўляцца
і чорнасотніцкія газэты
са здавальненьнем
адзначылі
патрыётычны ўздым,—
выявілася,
што ад абурэньня
супроць
„немагчымае жыдоўскае эксплёатацыі"
пацярпелі
ня ўсе жыды.
Так,
засталіся цэлымі і някранутымі
Рабін Вульф.
Фабрыкант Лібэнзон.
Банкір Бэрыкінд.
З іншых—
большасьць выехала эмігрантамі
у Злучаныя Штаты Паўночнай Амэрыкі.

19-IX 1931.

V

Але мы забыліся
на рамантычны пачатак...
(... лепет лютняў... гітары звон...)
Целы
закатаваных дачок і матак
Не патрапяць
у Францускі Пантэон.

Кожны год, калі май багром
люстра рэк разьбіваў паволі—
за пагромам ішоў пагром
у краіну чорнай нядолі.

Яшчэ толькі сьпеў крыгаход...
яшчэ змрок
раскідаў свой перад...
Было душна пад нізкай страхой
непадзельнай Расійскай Імпэрыі.

Дваццаць год адгарні назад—
і праз бледую заслань ценяў
буйна ўзьнімуцца вехі дат
нашых будучых нараджэньняў.

Мы ўзрасьлі,
калі дзён паром
перасек хвалі рэчкі сноўкай
і застаўся той за пяром,
хто спазьніўся пайсьці з вінтоўкай.

Яшчэ холад стаяў і змрок...
Яшчэ сьпела
вясна ў казэматах...
Толькі стылі стогны дачок
ды маўчалі шкілеты матак.

Ты дапні гэтых дзён рукой
хоць на дваццаць гадоў уперад—
напрабуй скалатнуць спакой
пад разбуранаю страхой
самай горшай з усіх імпэрый...

Не дайсьці табе, не дапяць...—
дзе ручай бруяў—сёньня гаць,
дзе дубы былі—сёньня пні,
дзе трава расла—сёньня сосны,
айдзе зацьма была—агні,
айдзе сьцюжы былі, дык вёсны.
Не дайсьці табе, не дапяць...
Дзе ручай бруяў—сёньня гаць...
Не абняць табе тога вокам...
Толькі могілкі ёсьць...
Стаяць
за дамамі, у полі шырокім.
Там увесну дрыжыць зямля,
поіць травы крывавым сокам...
Там бяроз распачлівы рокат...
Там—радзілася песьня мая.

Дазвольце,
дзе-ж наш рамантычны пачатак?
Лепет лютні?
Мандолы звон?

З крыві бацькоў, сыноў, дачок і матак
Мы ў сэрцы пабудуем Пантэон.

2-V, 19-IX 1931.

## Эміграцыя

I

На шалік зор
зьмяніўшы хмар башлык,—
нясуць дазор
вясна і маладзік.

Вакно наўсьцяж,
каб грудзі мыў озон...
Які твой стаж,
вясна савецкіх дзён?

Ты з рос расьцеш,
ты парасткі расьціш...
Скажы прасьцей—
ці даўна ў нас стаіш?..

— Я ўсё прайшла
і быу цяжкі мой тор,
як рух вясла
у акіянскі шторм.

Я ўсё расла
і быў цяжкі мой рост,
як для пасла
яго сьмяротны пост.

Я зьнесла страх,
мне кроў не ў навіну—
з крыві,
з кастра
я вырасла ў вясну.

Цяпер твой тэмбр
напоўнены па край,
ты ў сіні джэмпр
убрала небакрай.

Струмкамі зор
разьбіла крыгі хмар,
нясеш дазор,
пільнуеш наш папар.

Зялёных сьвят
люблю я сьветлы час...
Мой меншы брат,
прыходзіць май да нас.

Ён б'е ў вакно,
гарэза ад гарэз...
Тваё зьвяно
сягоньня пойдзе ў лес.

Зьбярэ сасьніц,
нарве пралесак жмут,
каб абвясьніць
свой піонэрскі кут.

Ужо амаль
радзіліся лісты
і заўтра Май
займае ўсе пасты.

Ї мой герой—
ён адчапіў штылет
і твой пароль
ён завучыў як сьлед.

Ён пройдзе з ім
па ўсіх радкох маіх—
між сьвежых зім
і вёсен маладых.

Яго стократ
паўтараць кожны раз...
Мой меншы брат,
вясна прышла да нас!

30-IV 1931.

II

А калі—
душаць цябе,
пачынаюць цкаваць, як шчанё.
Гвалцяць дачок тваіх,
забіваюць
сыноў тваіх—
Тады бацькаўшчына—
перастае быць бацькаўшчынай
і ходзяць кругі перад вачыма—
жоўтыя, жоўтыя...

А калі—
гоняць цябе,—
стагнаць пачынай?
З голаду памірай,
калі адмоўлена ў працы?
Хай тады тройчы праваліцца праклятая бацькаўшчына!
Хай яна будзе для іншых ласкаваю бацькаўшчынай!
Попел яе спапялі!
Схапі яе чорная немач!
Ї ўводзяцца ў слоўнікі
дзьве новыя грацыі—
„Імі“
і „Эмі“.

Пакідаецца
          ўсё роднае і блізкае,
наседжанае доўгімі гадамі...
Параход гутаецца, як калыска,
з людзямі, трубамі і вінтамі.
На палубе пасажыраў трэцяе клясы,
дзе куфэрак на куфэрку
          і душа на душы,—
можна-б абаперціся на балясы,
але морская хворасьць
          не дае жыць.
Міланскі шкляр,
          схіліўшыся, шэпча:
                    „Sancta Madonna.“

А-ах...
          Га-ах...
                    Дзеці галосяць...
                              Лаецца капітан...
Лэйзэр,
          сьціснуўшы скроні,
                    згадвае пра Іону
і як яго злопаў
          добры Левіятан.

Людзі
          няжывымі галасамі
                    расказваюць свае гісторыі—
усе яны падобны адна на адну...
Людзі
          ляжаць
                    ад валасоў да пазногцяў хворыя...
Ці бачылі яны
                    вясну?

А з музычнага салону
                    першае клясы
далятае...
                    Nocturno?
                              Вальс?—
                                        — Ня ўсё роўна...

Дзеці аднэй бацькаўшчыны,
дзеці аднэй клясы,—
радасьць
усьміхнецца вам
не ў шляхох вандроўных!

1-V 1931.

III

Толькі сонца праменьняў крыж
акуне ў акіянаў соль—
капітаны ідуць на брыдж
і ўзіраюцца на бусоль.

Як палошча дзікун-пасад
гумаваныя іх плашчы!..
Пасажыры глядзяць назад—
там іх бацькаўшчына ляжыць...

Вы, што сьлёз пралілі струмкі,
сьмерць пабачылі сам-на сам,—
праваджаюць вас мерцьвякі
і ківаюць здалёку вам.

Выплываюць з-пад хваль густых,
наплываюць на параход...
Капітан, ты ня бачыш іх?
Капітан, паглядзі на ўсход!

Капітан загарнуўся ў плашч
(Моцны вецер яго прабраў...)
Ён ня чуе, як ціхі плач
падымаецца з морскіх траў.

Ён ня бачыць,
як дзіды рук
расстаўляе над морам сьмерч,—
як вядзе гэты дзікі рух
маладая красуня—
Сьмерць.

IV-IX 1931.

## IV

Зусім цёмная ноч. На эміграцкім параходзе. Палуба пасажыраў трэцяе клясы. Роўны ходых паравоза машыны. Роўны храп. Хрып. Рып. Глуха далятаюць—сьмех, размова, песьні—з нізу, з кубрыку.

*Стары матрос* (расказвае няпэўным голасам у кубрыку).

Тады гукнулі мы праз бар—
— Цягні сюды, стары шынкар,
Яшчэ тры поўных кварты...

*Усе* (з кубрыку). Яшчэ—
тры поўных кварты!

*Стары матрос.* Ну, Джым—у дым, а Джон—дык страх!
А я—
застаўся на нагах,—
Вось я чаго быў варты.

*Усе.* Вось ты чаго быў варты...

(Каля борта стаяць Ён і Яна. Ім разам няма сарака гадоў [1]).

*Яна.* А помніш, а помніш першую нашу сустрэчу?
Гэта было...

*Ён.* Вядома, што ўвесну... (Ціха сьмяюцца).
Цьвілі тады ў полі раманкі...

*Яна.* Вялікдзень прайшоў
і сухімі былі дарожкі...

*Ён.* І такі млявы, млявы быў вечар...

*Яна.* І такі вецер звонкі, звонкі...

*Ён.* Ты была тады
ў простай
шэрай сукенцы,
з кошыкам...

*Яна.* Узышоў маладзік
з ружаватым тварам...

*Ён.* І тут скончыліся ўсе мае пошукі!
І я застыг...
як абліты варам [2]).

---

[1]) Гэта чуваць у галасох, твараў іхных ня відаць.

[2]) *Аўтар.* Праўда,
трошкі дзіўнае параўнаньне,
таварыш?
Наплыў пачуцьцяў—
нічога не паробіш...
Я таксама думаю,
што калі абкоцяць варам—
дык закрычыш,
а незастынеш—
пудзілам на гародзе.

*Яна* (кокетліва).
І я табе тады...
Спадабалася трошкі?

*Ён* (замілавана).
Любая мая мара!

(Тымчасам—сырэна гудзе дзікім басам).

*Ён.*
Капітан казаў,
што хутка прыедзем...
Ты ня радуешся, мая...
жонка?

(Абое сьмяюцца. Яна—ціха. Ён—звонка.
Пачынаюць варушыцца суседзі).

*Стары* (надыходзіць да іх).

Чаго вы радуецеся?
Вашых бацькоў
ня білі па галовах абцасам?
Халявамі па абліччаў,
Кулакамі ў жываты?
Матак вашых
не цягалі за валасы, часам?
Сёстраў ня гвалцілі?
Не пакалечаны вашы браты?
Чаго вы радуецеся?

*Ён.*
Ідзі, стары!

(Стары адыходзіць).

*Стары матрос* (з кубрыку).

Ізноў гукнулі мы праз бар—
цягні сюды, стары шынкар,
яшчэ тры поўных кварты!

*Усе.*
Яшчэ тры поўных кварты!

*Стары матрос.*
Ну, Боб—як сноп!
Яна—труна!
А я—
бяру яшчэ віна!
Давайце, хлопцы, ў карты.

*Усе.*
Давайце, хлопцы, ў карты!

На жейкі час усё сьціхае. Пасьля з кубрыку з далёкім шумам падымаецца вясёлая Песьня, якая перарываецца часта гучным сьмехам. Тымчасам пачынае варушыцца і галасіць сівая Жанчына, што сядзела, схіліўшы галаву, каля борта. Хто яе ведае, колькі ёй гадоў—можа быць маладзей і можа быць старэй, як здаецца. З месца яна не скранаецца.

*Песьня.* Як пад‘ехалі мы ў порт...
*Жанчына.* Аддайце мне маіх дзяцей!..
*Песьня.* Аказаўся Білі-Хорт!
*Жанчына.* Адзін быў толькі ад грудзей...
*Песьня.* За тры франкі—
пекната!
*Жанчына.* Трымаўся матчыных ён рук...
*Песьня.* Ен купіў сабе харта.
*Жанчына.* Яго вы кінулі на брук...
*Песьня.* А пад вечар таго дня...
*Жанчына.* О, вецер, попел іх разьвей!
*Песьня.* ... прапіла харта радня!..
(Доўгі рогат у кубрыку).
*Жанчына.* Аддайце мне маіх дзяцей!
Аддайце
мне
маіх
дзяцей!
(Ніхто яе не заўважае).
*Ён.* У нас будуць дзеці—
маленькія, сьмешныя...
*Яна* (сарамліва). Кругленькія...
*Ён.* Ад іх будзе пахнуць
мамай, малаком і пялюшкамі.
*Яна.* Яны вырастуць...
Будуць гуляць у сьнежкі...
Прыбягаць дахаты
з чырвонымі, застуджанымі вушкамі.
*Яна.* Увечары ты будзеш уголас чытаць газэту...
*Ён.* Ты будзеш вышываць...
*Яна.* Цыраваць шкарпэткі...
*Ён.* Мы будзем сытыя і сагрэтыя...
*Яна.* І ў нас будуць
маленькія, міленькія дзеткі.
(Сьмяюцца).
*Стары.* Чаго вы радуецеся?
Вашай хаты не цалаваў агонь?

Валасы на вашых скронях
Не пабялелі ад болю?
Мерцьвякі
ня беглі за вамі наўздагон
і вы ўпэўнены ў вашай сіле і долі?
Чаго вы радуецеся?
Чаго?

*Ён.* Ідзі, стары...

*Малады* (устае з палубы і падыходзіць да старога).
Порах і дым! Порах і дым!
Вось што нас вызваліць і выратуе.
І дасьць тое шчасьце,
якога ты прагнеш,
стары чалавек.
І ўзыйдзе сонца,
крывёю змытае,
На дзень сёньнешні,
на дзень заўтрашні
і навек!
Дайце дарогу нам—
маладым.
Нам ня жыць
у цярпеньні і згодзе.
Мы прынясем
вам
порах і дым—
Новага сьвету ўваходзіны.
Мы
паспрачаемся з песьняй вякоў,—
Мы ненавідзім
тваіх мерцьвякоў.
Чуеш, вар'ят?
Але ім—
Мы абяцаем,
што порах і дым
мы пранясем за сабою.
Дайце дарогу
нам—
маладым,
узрушаным барацьбою.

*Стары.* Я не магу гэтага зразумець...
Хто ты, што гаворыш
гэтак багата?

*Малады.* Звычайна,
спачатку—
бразгоча паходная медзь,
а пасьля—
пяецца пахавальная кантата.
*Стары.* Я не магу гэтага зразумець...
*Малады.* Калі
спрасуецца
порах
і падымецца ў неба
дым—
ты згадаеш,
што было гаворана,
і шчасьце прыдзе затым.
*Стары.* Якое шчасьце?
Твайго старога бацьку
не тапталі коні капытамі?
Тваёй маці
не разьбілі чэрап
цаглінаю праз вакно?
Якое шчасьце, я цябе пытаю?
Дзе ты яго бачыў?
Дзе яно?
*Малады* (упэўнена). І шчасьце прыдзе затым.
*Голас збоку.* Хто яго прынясе нам?
Мэсія сьвяты?
*Малады.* Мы.
Порах і дым.
*Стары.* У мяне былі тры ўнукі такія, як ты...
У адзін дзень узяла іх сьмерць
і я не магу гэтага зразумець.

(Іноў разыходзяцца ў кубрыку. Пачынаецца Песьня, але на гэты раз цішэйшая і сумная. Як схамянуўшыся, крычыць і мырмоча Жанчына).

*Жанчына.* Другі старэйшым трошкі быў...
*Песьня.* Любая Мэры, кветік зары...
*Жанчына.* Ён гіраю яго забіў...
*Песьня.* Мяккая котка, цёпленькі нос...
*Жанчына.* І ён увесь заплыў крывёй...
*Песьня.* Бывай, дарагая, да пары...
*Жанчына.* Сыночак даражэнькі мой!
*Песьня.* Ня мае прыпынку матрос...
*Жанчына.* Тады крываві плыў ручэй...

*Песьня.* Любая Мэры, квецік зары...
*Жанчына.* Вакол ягонай галавы...
*Песьня.* Любая Мэры, квецік зары...
*Жанчына.* Аддайце мне маіх дзяцей!..
*Песьня.* Бывай, дарагая, да пары...
*Жанчына.* Куды дзяцей падзелі вы?
*Песьня.* Любая Мэры, квецік зары!
*Жанчына.* Калі мой трэці сын канаў...
*Песьня.* Любая Мэры, краска мая...
(Сонца ўсходзіць).
*Малое.* Мама! Мама!
Паглядзі, якое сонейка і небачка ў нас!!
Паглядзі, якое сонейка і небачка ў нас!!
*Голас згары.* Капітан! Зямля!

17-IX 1931.

V

Як вецер цалуе
абліччы бяроз клапатлівых—
як сэрца хвалюе
туга па няўзрошчаных нівах.

Ўстаюць абразкамі
і стома плыве па каморках,
і весткі праз кабэль
плывуць аўтокарамі морга.

Як лекараў скальпель,
што скуру сячэ быццам трэскі,—
праз мора,
праз кабэль
рвуць сэрца трывогаю весткі.

З гудком параходным
марэй праараўшы валоку,
ступіўшы на ходнік,
адчуеш, як край твой далёка.

За дымнай заслонай
праз цень параходнае пары
затокай зялёнай
бруяцца тужлівыя мары.

На сонечных сіці,
на сноўкіх нью-ёркскіх бульварах
жалобнаю ніцьцю
праходзяць знаёмыя твары.

Праходзяць і вабяць
да сумнай краіны заморскай,
і весткі праз кабэль
лятуць аўтокарамі морга.

V-IX 1931.

VI

І яны
прычалілі ў гасьцінную гавань
поўныя надзеямі
на скарбы,
на славу,—
З поўнымі надзей
куфэркамі
выйсьці
з параходнага дыму—
Мо́рганамі
і Ро́кфэлерамі,
каралямі
чацьвертага Рыму.
Але
надзеямі—
ня будзеш жыць.
І яны пачалі тады служыць—
людзям
з таўстымі портфэлямі,
з тварамі
пад колер цытрыны—
Мо́рганам
і Рокфэ́лерам—
каралям
чацьвертага Рыму.
І іх прыняў
рабочы квартал.
І кожны з іх жыцьцё скаратаў
у смуродных,
душных,
каморках;

з беспрацоўя,
з сухотаў, магчыма...
З-за Рокфэлераў
і Morганаў—
каралёў
чацьвертага Рыму.
І будзе так—
пакуль не насьпее
новае зерне,
новая песьня—
тады мёртвыя—
ўстануць з морга
і жывыя—
рулі
падымуць
на Рокфэлераў
і Morганаў—
каралёў
чацьвертага Рыму.

22-IX 1931.

VII

На шалік зор
зьмяніўшы хмар башлык,
вялі дазор
вясна і маладзік.

Ужо амаль
радзіліся лісты.
Зялёны май
займаў усе пасты.

Ен з рос
на злом
узрос
загінай
прэк
і нёс
паром
па тоўстых сьпінах
рэк.

Адсюль—
 ідзе
дзень дум і працы плён
у чарадзе
ўсё тых-жа пэўных дзён.

Хай кожны з нас
у час зялёных сьвят
згадае час,
калі ня жыў мой брат.

Уявіць боль
сваіх дзядоў ясьней
і наш пароль—
завучыць хай як сьлед.

1-V 1931.

# Я ВАСЬПЯВАЮ ПЯЦІГАДОВЫ ПЛЯН

**Іоган Р. Бэхэр.**

„Пяцігадовы плян ёсьць самая важнейшая частка наступленьня ўсясьветнага пролетарыяту на капітал, па сваёй сутнасьці ёсьць плян разбурэньня капіталістычнай стабілізацыі, грандыёзны плян усясьветнай рэволюцыі“.

Піраміды маюць сваіх поэтаў,
Псальмапеўцы пяялі пра бога,
Тэма воін пануе ў поэзіі і найнягоднейшыя
      каралі маюць сваіх песьняроў—
Усьміхаецца Гомэр: старанна скадыруючы
Дэклямуючы ў хоры
Нават сёньня яшчэ
Гімназістамі
Героічная барацьба Ахілеса
Любоўна васьпяваецца на ўсіх мовах
      Сьвету—
Але прышоў к канцу час,
Адбыўся час панства цароў
      і папоў—
Новае пакаленьне зьявілася з ваяўнічай
      буры ўсясьветнай вайны:
            Бальшавікі
Волат вырас з крамлёўскага купалу
            Ленін
— і кіруе пролетарскім ўсясьветным паўстаньнем
Буржуі камечаць газэты і лаюцца: „Няпрытомны“.
Рабочы паўтарае Леніна імя, як ён сказаў: „Наканец!“
Сьвет фарбуецца новым. Чырвань пакрыла шостую
                              частку зямлі.
У палкіх літарах мэталю зьявіўся
            на ўсходнім горызонце:
            СССР!
Ленін—

Бальшавіцкая партыя—
Чырвоная армія—
Комінтэрн—
Словы, якія новых поэтаў чакаюць,
Словы, як горы, яшчэ недасягныя—
Шырэйшыя чымся ўсе пустыні і стэпы,
Вышэйшыя чымся ўсе Гімалаі
Узвышанейшыя чым усе славутыя готычныя саборы
Харашэйшыя чымся сонца над Рыо-Жанэйро,
Глыбейшы чым найглыбшае мора ў сваім
найглыбшым месцы—
І калі Ленін памёр,
Праводзілі яго мільёны
Мільёны рабочых і сялян пахавалі яго
У сваёй істоце і крыві яны пахавалі яго
Кожны дзень падымаецца з імі Ленін
і ідзе да працы:
Паглядзі, што нашу я, шэрае маё адзеньне
гэта Леніна адзеньне!
Прыслухайся да слоў вялікіх, што я табе кажу:
гэта Леніна словы.
У рукапісу Леніна зьявіў на суседнім горызонце
Пяцігадовы плян!
„Пяцігадовы плян!“ перадае маскоўская радыёстанцыя
хваля 1304, ува ўсе 5 частак зямлі
„Пяцігадовы плян!“ у доўгіх перадавіцах буржуазных
газэт.
„Пяцігадовы плян!“ стогне папа на малебне і
прапаведуе крыжовы паход.
„Пяцігадовы плян!“ ёсьць тэма сходаў комуністычных
сэкцый ўсіх краін.
„Пяцігадовы плян у чатыры гады!“ абвясьціў
Калінін у сваім заключным слове на
16-м партзьездзе ЎсеКП(б).
Дэтэрдынг абгаворвае з магнатамі прамысловасьці
вайны:
Пяцігадовы плян!
Серафімовіч напісаў „Жалезны паток“
Гороічную песьню грамадзянскай вайны
Маякоўскі паставіў на ногі 150 мільёнаў
дзеля прызнаньня справы рэволюцыі
Рыфмы і свабодныя рытмы славяць Леніна
Пры ўпартым
правядзеньні

Проблемы НЭП'у
Змагаліся пролетарскія поэты за рэволюцыю
Аружжам
Мовы...
Магутна прапелі перад намі поэты ўсіх часоў,
Але многа магутней нам засталася пець:
я васьпяваю пяцігадовы плян!
Я прысьвячаю верш рабочым і сялянам
цэлага сьвету
я чапнуся іх маім вершам і кліч мой
да іх: гатоўцеся,
Да абароны вашай радзімы, Савецкага саюзу—
Вайна падкрадваецца ў масцы міра
З ухмылкай прытворнай.
„За ці проці Савецкага саюзу": Пытаньне,
каторае людзей разрывае як дынаміт,
І як кітам яднае працоўных у хаўрус непарушны
Я прысьвячаю верш усім хто за справу
рэволюцыі зьняволен і расстрэлен.
Вы абліваеце кроўю дарогу, каторою мы маршыруем.
Думаюць аб гэтым, цяпер, у гэты момант
Сотні вашых таварышоў, якія белагвардзейскімі
катамі да калецтва катованы былі,
Што зараз у гэту хвіліну, слаўнейшыя іхнія
таварышы на сьмерць ідуць
Да сьцен стаўляюцца, яшчэ вільготных ад
крыві расстрэленых.
Я прысьвячаю верш усім хімікам і інжынэрам
Савецкага саюзу,
Усім колгасным працаўнікам, электротэхнікам,
Аграномам, сялянам трактарыстам.
Усім удзельнікам соцыялістычнага спаборніцтва.
Удзельнікам брыгад ударных, дырэктарам чырвоным,
Кіруючым
Працай прадпрыемств,
З цыркулям і алоўкам працуючым
І вымерваючых апаратаў
І станкоў прабуючых мотор:
Працуеце вы ў прадпрыемстве, якое Ленінскім ёсьць!
Чырвонай арміі належыць верш мой
Радасна пераклікаюцца рытмы мае з
пропелерам, з звонам аружжа з
пікамі вострымі—

Вашы чырвонаармейскія песьні пявучыя вядуць мой верш
на вуліцу доўгую.
Люба стаяць на пасту з вамі і гутарку весьці
пра жыцьцё ў казармах—
Я прысьвячаю верш членам комуністычных партый усіх краін:
Хачу памоч, у астатніх бойках у тылу з вашых
сэрцаў прагнаць
Хачу вас, яшчэ сьмялейшымі зрабіць
Яшчэ больш упэўненымі ў перамозе, яшчэ больш гордымі
Што вы, таварышы, завецеся
Сябрамі III Інтэрнацыяналу,
Комуністычнай усясьветнай партыі,
Комінтэрну...
Я прысьвячаю верш сябрам УсеКП(б),
Таварышу Сталіну—
Мой верш узьляціць к чырвонаму сьцягу
над Крэмлем—
Дэлегаты 16-га партзьезду падымаюцца
і пяюць „Інтэрнацыянал“:
Адзінае кіраўніцтва!
Шчыльнасьць шэрагаў партыі.
Цьвёрда стаяць
За пролетарскую дыктатуру!
Я васьпяваю пяцігадовы плян
Я пяю песьню працы вызваляючай народы
Пяць
Год
Патрасаюць
Зямную кулю.

Пераклаў з нямецкай мовы **Філіповіч**.

## ТОМАС ОУЭН

*(Урыўкі)*

**Зіна Кагановіч**

I

Студзень.
        Ноч навісае стольлю.
У трывозе імчыць цягнік.
Негарэлае.
                Мэханік Оуэн
На савецкай, новай зямлі.
Кліча новы размах варштатаў,
Кліча новы інакшы дзень.
Томас ведае:
                вострай датай
урубляецца гэта мгненьне.
Усё дарога, дарога,
                        рэйкі,
І шуміць беларускі лес.
Адчыняе свае павекі
Раніцою ўсё Палесьсе.
Набухае рака ад сьнегу
і пакрыта ўсё белай луской.
Над вакзалам
                у дошку белую
Уплецена слова
                „Бабруйск“.

II

Узьнімаюцца дні ў тэмпах
І ламаюцца думы Томаса:
Бачыць ён, што „савецкі дэмпінг“
У парлямантах быў створаны.

Вечарамі гарачыцца Томас:
Ён расказвае ўсім рабочым
Пра ўсё, што Англьшчына творыць,
Каб насунуць ваенныя ночы.

Закіпае вірлівая ярасьць
Ї ў цемру ахвота рынуцца,
Каб палотнішчы параспарваць
І пусьціць сьвет бесьперапынны.

Чуе Томас:
ужо ў Сіці
Рвецца стукат рабочых ног,
Гэта значыць—чырвонымі ніткамі
Прашнураваны дні перамог.

Набягае дзень,
як лава,
Разгарачаная азартам—
У цаху сёньня радасьць:
Ангельскі мэханік
уступіў
у партыю.

СССР—краіна родная.
Томас вымысламі небагаты,
Але трэба Ангельшчыну перагорнуць,
Каб сваімі былі варштаты.

Гэта думка з тахтамі сэрца
Разам білася з хвілі ў хвілю,
Праца праглая ў рух інэрцыі
Самаго нават Томаса
падхапіла.

III

Прайшлі дні першыя маю,
Сёньня цэху сход.
„Таварыш Оуэн слова мае“...
Томас пачаў гаворку:
„Таварышы,
браты мае!
Можа гэта дзіўна:
Еду я за аблічча сіняе—
За Ламанш—праліў.
Што-ж мяне кліча ў гэткія рэйсы,
Зноў у мурзаты сьвет?
Таварышы. Я хачу каб
Ангельшчына

Уваходзіла ў СССР.
Некалькі месяцаў у новым сьвеце
І...
зусім інакшы настрой.
Надыходзіць жалезны вецер
Разламаць брытакскі строй.
Сёньня дзень імпэту бязьмернага.
Аж зямля хутчэй кружыцца.
Я хачу, каб рабочая вера
Дала ўдар сваёю дужасьцю.
Я даю, таварышы, слова:
Узьнімаць палёты ніцыя,
Павырастаюць сотні новых
Ангельскіх
ударнікаў і партыйцаў“
Нарастае бурлівасьць залі,
Нарастае, як ледаход,
Уступаюць дзьве брацкіх хвалі
У адзіную маладосьць.

Вось Ангельшчына і СССР
Бачуць свой адзіны шлях.
Томас сьцягам узьнімае ў сэрцы
Ад рабочых Бабруйску наказ.

IV

На пэроне оркестры і сьцягі,
Над пэронам гарыць маладосьць.
„Мы гарым у барацьбе, таварышы!“—
Устрывожана кажа Томас.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Языкі выкідае дарога,
Ня глынуць маладую даль...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Вось такія Оуэны Томасы
Савецкім зробяць абшар.

Ленінград-Беларусь.
Ліпень. 1931 г.

## ДЗІВОСНЫЯ ХАЎТУРЫ У БРЭДДОКУ
## A STRANGE FUNEAL IN BRADDOCK

**Майкл Голд**

Michael Gold

Услухайцеся ў жалобную музыку дзівосных хаўтур
Паслухайце гісторыю дзівосных амэрыканскіх хаўтур.

У горадзе Брэддоку, штат Пэнсільванія,—
дзе сталеліцьцёвыя заводы, быццам страшыдлы-драконы,
паглынаюць і паляць
і неба і зямлю і людзей—
Вясна, сюды заблудзіла вясна—
спалоханае дзіцянё ў зямлі сталёвых людаедаў.
Ян Клепак—высокі і дужы чэх, з крывою
ўсьмешкай на твары—
ідучы на працу а шостай гадзіне ў раньні
бачыць—на ўзгорках за рэчкай зелянее трава
і сьлівы хвалююцца белым цьветам.
Ля пудлінгавай печы, ён абліваецца потам,
як чорт каля возера серкі
Ад белых кветак сьлівы млее яго сэрца.
Успаміны зялёнага лугу праплываюць прад ім
і яму робіцца млосна.
Ён забывае, што мусіць быць цьвёрдым, як сталь,
Ён успамінае толькі грудзі свае жонкі, сьмех малога
дзіцяці і песьні людзей, шчасьлівых пасьля гарэлкі.
Ён успамінае палі і вёскі сонечнай Чэхіі,
каровы і авечкі на лузе, сяляне
з крывой усьмешкай на твары.
Услухайцеся ў жалобную музыку дзівосных хаўтур.
Паслухайце гісторыю дзівосных амэрыканскіх хаўтур.

Прачніся. Прачніся Ян Клепак. Домны равуць як тыгры.
Полымя кідаецца на высокі дах,
як ашалелыя жоўтыя тыгры ў клетцы.

Схамяніся. Ужо дзесяць гадзін
    і наступная строма шалёнай і плыткай сталі
    зараз пальецца ў тваю пудлінгавую печ.
Сьцеражыся. Бо зламаны падважнік
    трашчыць у адным з гэтых пякельных катлоў.
Прачніся! Падважнік лопнуў—
    разьюшаная сталь
    вырываецца далоў, як няпрытомны.
Прачніся. Сны зьніклі
    і сталь
    праглынула цябе навекі.

Услухайцеся ў жалобную музыку дзівосных хаўтур.
Паслухайце гісторыю дзівосных амэрыканскіх хаўтур.

Тры тоны цьвёрдай сталі
сьціскаюць у абдымках
косьці і мяса, цягліцы і нэрвы,
мазгі і сэрца Яна Клепака.
Яны сьціскаюць успаміны зялёнага луга і авечак,
    сьлівавых дрэў, дзіцячага сьмеху
    і сонечных вёсак Чэхіі.
Уладары сталеліцьцёвага заводу
    прэзэнтуюць удаве Яна Клепака
    вялікую сталёвую труну
з успамінам аб родным чалавеку.
На вялікім грузавіку
    вязуць яе ў яму на могілкі.
Удава і двое таварышоў Яна Клепака
едуць у каламажцы за глыбаю сталі,
у абдымках якой нябожчык.

Яны галосяць і сумуюць па кволым чалавеку,
    якога забіла цяжкая сталь.

Услухайцеся ў жалобную музыку дзівосных хаўтур.
Паслухайце гісторыю дзівосных амэрыканскіх хаўтур.

На могілках дзіўныя думы ахапляюць
траіх задуменных людзей
„Нап'юся, каб п'яным застацца навекі,
ніколі ня буду жаніцца,
у мяне ніколі ня будзе дзяцей.
Хай усё ідзе прахам, мне нічога ня трэба.

Жыцьцё—агідны жарт, як Янавы хаўтуры".
Гэтак думае першы таварыш
на могілках, поўных прыемнага паху вясны,
калі Дэррык апускае ў магілу
тры тоны сталі з прахам Яна Клепака.
(Услухайцеся ў музыку дзівосных амэрыканскіх хаўтур).

„Я пайду мыць бялізну, шараваць падлогі,
Я зраблюся пяцідзесяціцэнтавай шлюхай,
але мае дзеці
ніколі ня пойдуць працаваць
на сталеліцьцёвы завод".
Гэтак думае ўдава Яна Клепака,
калі вялікую сталёвую труну
засыпаюць зямлёю.
Веснавое сонца ярка зьяе
ў пахучым паветры красавіковага дню.

(Услухайцеся ў музыку дзівосных амэрыканскіх хаўтур).
„Я загартую сябе, як сталь і яшчэ мацней.
Я вярнуся сюды рабіць кулі з Янавага цела
і страляць імі ў сэрцы тыранаў"
Гэтак думае другі таварыш,
сьведка гэтых дзівосных хаўтур,
якіх ўслухаўшыся ў жалобную музыку,
напоўніўся ярасьцю
пякельнага катла з паламаным падважнікам.

Услухайцеся ў жалобную музыку дзівосных хаўтур.
Паслухайце гісторыю дзівосных амэрыканскіх хаўтур.

Пераклад з ангельскае **А. Мардвілкі**.

# СМАГА

## Янка Скрыган

1

Магістраль...

На трамваях, на аўтобусах, на рамізьніках, пехатою — рупна сьпяшаюцца некуды людзі. Гар, пыл, сьпёка. Гулкая, душная мітусьня. Горад грыміць: рухам, жалезам, чалавечым жыцьцём. Адкрываюцца, чмокаюць па панэлях падэшвы. Даганяюць, крыжуюцца—па бруку—машыны. Жалезнымі бэлькамі грузна грымяць балаголы. Раскацісты гул мяшаецца з аўтамабільнымі сырэнамі, з падэшвамі, з тварамі, з пылам, з крыкам газэтнікаў—у вэрлаху, у тлуме бясконцае стромасьці. Вуліцы разьбягаюцца, ныраюць у завулкі, абгінаюць кварталы—ад цэнтру, магістралямі, нэрвамі—на ўскраіны, на заводы, на фабрыкі.

Гар, пыл, сьпёка.

Чалавечая душная мітусьня.

— Разарваўшы няроўны шар камяніц, падымаюцца рыштаваньні. Пахне цэмантам, дошкамі, вапнаю. Калаўротам, машынамі, між дзеравяных кроквяў—паверх на паверхі—падымаецца цэгла. І ў гуле, у стукаце, у шоргаце, у звоне—падымаюцца сьцены. І там ужо—наверсе, на паверхах, між кроквяў, м ж рыштаваньняў—чалавек здаецца маленькаю часткаю вялізнага мэханізму. Нават здаецца яшчэ на хвіліну, што чалавека няма, што чалавек матэрыял, а ім камандуе жалезная воля машыны. Сыстэма.

Так: горад—сыстэма. І ўсё-ж такі, у гэтай сыстэме—над ею—аграмадная, складаная сыстэма—чалавек.—

А едучы ў Рудзенск, да Лёлі, праз шыбы вагону відно было, як узораная загонамі, увосень адпачывала зямля. Чорным драпам выгіналася яна па ўзгорках, па нізінах. І відно было: да шырознага драпу зямлі няздатна, кучкаю прылеплена старасьвецкае сяльцо. Пярэстыя, саламяныя, затуленыя дзічкамі хацінкі выглядаюць мізэрна, пакрыўджана. І, здаецца, калі падняць край чорнага драпу зямлі, калі махнуць ім—разбырэнуцца нягеглыя хацінкі, зьдзьмухнецца нарокам прылепленае сяльцо.

Якая вялікая трагедыя зямлі, калі ею ня можа камандаваць чалавек. І якая вялікая трагедыя чалавека, калі душыць, панствуе над ім зямля.—

І, тады, гледзячы ў вакно вагону можна было думаць: тысяча-

годзьдзі налічвае одэтая букалічная форма жыцьця; тысячагодзьдзі праходзілі бурамі, войнамі, рэвалюцыямі, бунтамі з пахам чалавечага потукрыві, каб так і астацца ў букалічнасьці, ня сьцерці бур'яністых межаў. Як доўга—ажно дагэтуль — дарогамі крывымі блудзіла зямля. Ажно дагэтуль ліпее—шнурамі, дзядзінцамі, лапцямі, горам, нястачаю, смыкам сахі—старасьветчына...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І ўсё-ж такі, можна бачыць крывую дарогу сяла — старасьвецкага, дрэўнага—нялюбіць яго, уцякаць—і хварэць з ім. Можна бачыць кіпучасьць рушлівую гораду, шалёную стромасьць, сыстэму, рытмічны поступ, ісьці да яго—і крывіць дарогамі.

Так.

Але гэта апавяданьне пра сябе.

2

Залетась, на рагу Сьвярдлоўскае і Карла-Маркса я нагнаў чалавека. На чалавеку была шэрая, даматканага сукна старэнькая сьвітка, такія самыя, з асьцюкамі на галёнках і ўкручаныя лапцямі порткі, а на гарбатых плячах чалавек нёс дзіцянё і адтаго рабіўся яшчэ больш гарбатым. Ногі яго на тратуары станавіліся пастарэчу, няўпэўнена, і відно было, што яму цяжка несьці сваю паклажу. Нагнаўшы яго я знарок прыцішыў хаду. Збоку ўжо відна была зусім сівая, паблытаная барада. Твар — у густа пераплеценых маршчынах—сіняваты, бяскроўны. Грузнае, захлібістае дыханьне вырывалася з хрыпатам, выкідаючы белыя пукі паветра ў халоднае зімовае надвор'е. Пад глыбокаю шапкаю, на тоўстых брывах паклаліся танюсенькія марасінкі інею і на лоб вылазіла мокрая плойка рэдкіх валасоў.

— Куды ён нясе гэтую ношку, і няўжо ня холадна гэтай дзяўчынцы голымі рукамі трымацца за плечы? Можа яму трэба памагчы, можа параіць што трэба?

Але стары прыцішыў хаду, затупаў неяк на месцы, як-бы шукаючы чаго, і, урэшце, угледзеўшы мяне, сам запытаўся.

— Скажэце, чалавеча таварышу, дзе тут дом селяніна знайсьці, ці больніцу якую?

Я паказаў Дом Селяніна і больніцу. Але неяк не хацелася адыходзіць ад яго.

— Здалёк дзед?

— З Аршаншчыны. Можа чулі? От я адтуль і прыехаў.

— Чуў. А куды гэта вы дзяўчыну несяце?

— Та вот-жа ў больніцу і насу. Захварэла яна ў мяне, там дахтары ня лечаць, а паслалі от каб сюды прывёз,—крыпеў у марозе голас.

Пасьля ён расказаў, што дзяўчына гэта даччына, унучка, — што яна катора пара як захварэла на нейкую зацяжную хваробу, і яму даво-

дзіцца з ёю пакутаваць, бо дачка таксама нездарова, а мужа ў яе няма—аж пад Кітай паехаў у заработкі.

— Цяжка мне старому. Вось чуць ліпею, а падмяніць таксама няма каму,—і ён накаса пакрочыў пад Дом Селяніна. Шапка наехала нізка на вочы — інеем замерзла разам з брывамі, а ношка на плячах аслабла, асунулася ўніз.—

У рашчэрбіне Міхайлаўскае вуліцы, № 10, як і заўсёды, іграў рояль. Пад нагамі, утоптаным сьнегам, глянцаваўся тратуар. Беглі людзі, скоранька семянілі нагамі. З каштаноў асыпаўся іней. Рояль далятаў ужо толькі абрыўкамі, і абрыўкамі—хрыпам, барадою, гарбом—астаўся ў памяці дзед.

Недзе ў Аршаншчыне ў яго сям'я, гаспадарка. І ён, якому даўно пара адпачываць, едзе ў сьвет з хвораю дзяўчынаю, бо больш няма каму. Такая ж гарбатая, прыглушаная мабыць і яго гаспадарка, ад якое трэба ехаць—аж пад Кітай—у заработкі. Так. Але чаму так знаёмы здаўся гэты стары з сваёю цяжкаю ношкаю старасьветчыны? Значыць іх шмат і спатканьне толькі разварушыла залежаную памяць? І хіба не такімі я памятаю Макарчука, Рыжка, ды дзеда Амельку? Калі не памерлі, дык яны мабыць асталіся такімі і дагэтуль. Гэта там—у памяці—яны сядзяць з люлькамі на прызбах, або на печы, і таксама хрыпяць пасушанымі грудзямі. І таксама яны могуць гаварыць толькі з болем, з векавым нагарам, стоячы толькі на сваёй векавой дарозе. — Я там вырас, але адтуль уцёк і цяпер от хаджу ў пальчатках і ў капялюшы. Яны не пазналі-б цяпер мяне. Не пазналі-б одэтых — некалі мазулістых—шырокіх рук, што карчавалі зямлю, часамі бярвеньне, цягалі падоўжную пілу. Яны ня прызналі-б мяне за свайго...

І ў гэтым дакоры, недзе ў глыбіні нутра, я пачуў, як заварушылася нядобрая мулкасьць: мне стала невядома чаго шкода. Тады пракралася яшчэ і большае: мне стала страшна самога сябе...

3

Чалавек мае адну вялікую здольнасьць — сьмяяцца з самога сябе. Можа гэта інквізыцыя мысьлі, але гэта і самы справядлівы суд яе.

І тады, з самога сябе, мне стала сьмешна. Народніцтва, Глеба Усьпенскага нагадвалі гэтыя развагі пра старога. Інтэлігенцкая тэорыя капялюша і памытых рук. Але гэта хутка прайшло, схавалася ў абрыўках жыцьцёвае мітусьні, у жыцьцёвай непаўторнай стромасьці. Трэба было быць складанаю часткаю мэханізму сталіцы, круціцца ў калейдаскопе шалёных дзён, бо ў чалавека вялікая, прагная смага жыцьця і любові, і ня можа—не павінен—чалавек непаважаць жыцьця.

Толькі летась, праходзячы выпадкова паўз новы Дом Селяніна, успомнілася пра Музэй. Лескі паднялі на другі паверх. Запытаўшыся пра саюзны білет—тонкі чарнявы чалавек настрачыў квіток...

Ці праўда, што музэі дэманструюць чалавецкую культуру? І ці не дэманструюць яны ў гэтай культуры ўбогасьці? Недасяжнасьць грэцкага мастацтва? Рафаэлева Мадонна і непаўторнасьць сілы ліній Геркулеса Фарнэскага? Так. Але гэта і не павінна паўтарацца, бо ўсялякае, нават геніяльнае паўтарэньне — гэта ёсьць бясьсільле непаўторы. Даганяць Грэцыю—гэта значыць бегчы назад па забытую торбу. І хіба не мацней за Афінскіх юнцоў фігура рабочага Сокалава—Скалі?

Але ў першых пакоях мізэрна да сьцяны прытулілася карціна. На кавалку палатна простымі, роўнымі фарбамі—сіняе, нізкае пабегла ў далячынь неба. Туды-ж, у далячынь, пад небам — шырокаю прастораю паслаўся пясок. Гладкая, пустэльная роўнядзь. Без канца. Шыр. І на гэтай пустой, бяскрайняй роўнядзі прыкархнулі два кусты, як-бы нехта праходзіў па пустэчы і забыўся—згубіў іх. І такія адзінотныя гэтыя два кусты, што здаецца яны павінны крычаць, або плакаць.

А збоку другая карціна. Ужо з багацейшымі фарбамі — з зялёным непраходным Палесьсем. У гушчэчу лістаvога лесу пабегла, занырцала грэбля. На грэблі суняліся калёсы, чалавек зьлез з воза, дастае закурваць, а да яго з балота ідзе другі чалавек — палатняны ў капялюшы паляшук—з касою на плячы, топчучы высокую па пояс, балотную траву. Здаецца: гэтыя два чалавекі зараз сустрэнуцца, знойдуць доўгую селавую гаворку, а на грэблі, абганяючы аваднёў, чакацьме буланы і, трымаючы лейцы, моўчкі на возе сядзецьме жонка. Спакваля надыдзе змрок, і тады коратка залоскаюць па грэблі калёсы. У ціхі адвячорак яшчэ доўга чуцён будзе гэты запозьнены лоскат.

Карціны зроблены проста. У іх ня знойдзеш тэхнічнае дасканаласьці і сьціпла прытуліўшыся на задняй сьцяне, яны не прэтэндуюць на лепшае месца.

Пасьля пайшлі аддзелы этнаграфіі: мізэрная, галецкая Беларусь з жорнамі, з сохамі, з абечкамі, з лучнікамі, з берасьцянкамі — у зрэб'і, у кастрыцы. Які вялізны крок зроблены на тое, каб усё гэта выглядала помнікам. І які кароткі пройдзены час, каб усяго гэтага астацца сьведкаю. Чарадою праходзіць у памяці лыкавая, лучніковая Беларусь. І тут вось, у гэтых смыкох, у нацягічах, у берасьцянках усё яе славутае багацьце, а ў кіёх, на якіх пастухі рабілі зарубкі—уся культура. Славутая, сьляпая самабытнасьць! Хто можа варочацца назад па забытую торбу? І хіба не зьяўляецца сынтэзам усяе дарэвалюцыйнае Беларусі одэтая няпрыкметная карціна з двума сіратлівымі кустамі ў пустэчы, у бяскрайняй тужлівай сіні?

... А чалавечая памяць багатая. Ёй трэба насіць усё тое, чаму ня трэба—чаму нельга—зноў паўтарацца. І добра бывае апыніцца ў прыемным ад перажытасьці хваляваньні. Успомніць забытае але знаёмае, чапаць яго пальцамі памяці.

— Трэба будзе з Лёляю... Прысьці, каб разам паглядзець. Няхай... што скажа яна.

Але Лёля ня сунялася так доўга на карціне. Яна мелькам прабегла і па іншых пакоях, дзе так доўга сунімаўся я. Яна нешта нават сказала і я заўважыў: аднакава мы можам разумець, жыцьцё, але неаднакава мы яго бачылі.

— Чаго ты задумаўся?—запыталася яна ўжо на вуліцы.

— Так неяк... Мне хочацца пабываць на сяле. Даўно я ня бачыў, як сьпее, як калышацца шырознымі хвалямі жыта. І хочацца пахадзіць па лесе, па мяккай, разложыстай сенажаці...

Мне здавалася, што Лёля тады нядобра на мяне паглядзела. Так глядзяць на нездаровага чалавека.

4

Успрыймаць сьвет мне даводзілася пасвойму. Пасвойму даводзілася бачыць жыцьцё. Трэба было прайсьці праз нейкі складаны працэс, каб убачыць, як цяжка, калі чалавек урос у зямлю, паддаўся ёй, і — зьнявідзець, уцякаць ад яе.

Трагедыя, калі чалавек—раб зямлі. Ён ніколі ня ведацьме свае ўрачыстасьці.

... Мне трынаццаць год. Tobula rasa. Зьмешаная гімназія. Кватэра ў кухні пані Стрыжэўскае. Дачка Ніна, якое трэба было ноччу сустракаць з гімназіі, каб не баяласяісьці дахаты. Чаравікі з дзеравянымі падэшвамі, а пасьля, пазычаныя ў Алеся Скрыгана — майго аднаклясьніка—боты. Але трэба зьбегаць на коўзанку і спусьціцца зьверху ўніз на спартыўных лесках, нагамі барабанячы на білах. І ў пазычаных ботах—на перадку гамбурскага тавару — дзірка. Няпрыемнасьць. Папрокі ад Алесевага бацькі. Плач. Горнасьць.

*Прыяжджае раб.* Каб уцешыць—ён вымае з мяшочка медзякі, доўга адлічвае пяць капеек, дае іх з наказам „ня траць“ і прывозіць зноў дзеравяныя чаравікі. Мяшочак з грашыма грузна апускаецца зноў у кішэню. І я знаю: у гэтым мяшочку — *зямля.* І чым тужэй будзе мяшочак, тым больш будзе зямлі. Але на гэта трэба беражліва зьбіраць кожны грош, есьці нішчымную зацірку, хадзіць у трантах, вераваць богу, не хадзіць на вечарынкі, з цямна да цямна не разгінаць сьпіны.

А дома ў мяне ёсьць сёстры. Заўсёды на іх ляжыць маўклівая, пужлівая пакорлівасьць і яны любяць такую самую пакорлівую матку. Толькі пальцы ў сясьцёр не такія як у мяне, а тоўстыя, шурпатыя, пагнутыя ў крукі.

Я бачыў ужо—як цяжка па грошыку пакаваць запаветны мяшочак, і якое гора, калі раб зямлі мае панства над чалавекам. Яшчэ я знаў, што сёстры з маткаю часта плакалі, і былі вясёлымі—нават маглі сьпяваць песьні—калі ня было дома бацькі.

Пасьля і ў мяне пачалі гнуцца пальцы ў крукі. Але я не хацеў пакаваць заклятага мяшочка. Праціўнаю, ненавіснаю стала зямля. Ад яе

трэба было ўцякаць ня толькі з дому, а нават з апошняга курсу селавагаспадарчага тэхнікуму. І на дарогу ад Слуцку да Полацку раб адлічыў сваю апошнюю падачку — рубля. Толькі не сказаў ужо „ня траць“, а доўга моўчкі сядзеў на покуці.

... Як добра любіць жыцьцё і насіць у сабе аграмадную, грузную радасьць. І ў гэтай радасьці—з ёю—я прышоў у горад, каб любіць яго, каб быць з ім.

Гады закруціліся ў мяцельным разгоне. І трэба было з імі—у іх—крочыць, каб не адстаць, каб знаць, што ты цьвёрда ступаеш. У гарадох магістралямі вуліц — на фабрыкі, на заводы, на ўскраіны, у цэнтр — падаецца чалавечы ток. І горад кіпіць нязмоўкным, нястомным гулам. Рушацца вуліцы, людзі, машыны, каменныя глыбы, жалеза — у днёх, у гадох, у шалёнай стромасьці. І трэба ісьці, не адстаць і несьці з сабою вялізную смагу жыцьця...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Горад—сыстэма. І ў гэтай сыстэме, над ею — аграмадная сыстэма—чалавек.

## 5

Сябры не набіраюцца гадамі. Іх ніколі ня бывае так многа, каб сказаць, што сяброў ужо досыць. Людзі сустракаюцца, дружбуюць, і часта разыходзяцца так, каб ня звацца сябрамі.

І ў гадох—пасьля дзяняшняе сумяціцы—у мяне зьбіраюцца хлопцы. У зімовы адвячорак — разам з інеем, з холадам у каўнярох—яны прыносяць з сабою добрую таварыскую цяплынь.

Некалі мы былі наватарамі, хварэлі на выкрунтасы, заснавалі „Літаратурна-Мастацкую Камуну“. Хадзілі з кіямі, у капялюшох — гамілі ныцікаў“. Але нельга было, як у семнаццатым, хадзіць з двума наганамі за поясам. Грызьліся. Спрачаліся цэлымі начамі. У хаце было дымна ад курэньня. За вокнамі жмурылася ноч. На стале стыла гарбата, на падлогу раскідаліся недакуркі. Блудзілі. Тады-ж, у сварцы, з друкарні з 1 нумару „Росквіту“ зьнялі такую дэклярацыю:

*Беларуская Літаратурна-Мастацкая Камуна*
*вышла ў паход*
па палёх,
па шляхох
барацьбы
*За росквіт!!!*
(вызваленьне чалавецтва
ад прытухлых
заскарузлых
конанаў
трыдцый
архіўных
вякоў).

*Ідзе ў наступ,*
*руйнуе!*
літаратурна-мастацкія
плецяні
і забарыкаджаньні,
сплеценыя,
нацяганыя
з трантаў
і гануч
стар'ёўшчыны.
*У шэрагах фронту*
*няма*
плякатаў,
шыльдаў,
маскіраваньня
ад сапраўднасьці.
У руках
ня сьцяг,
а вытворчасьць!
*Сябры камуны*
работнікі фабрыкі
літаратуры
і мастацтва;
*вытворчасьць—*
*акорд жыцьця*
пад лязг
фабрычных машын
сьпеў
жняярак
і кос
Чуецца жыцьця гудок—
пачынаецца
наша праца!..

Блудзілі.

Разышліся. Распаліся—дарогу знайшлі.

Памылка—гэта шуканьне да ісьціны, на якой трэба гартавацца. Чалавек ніколі ня бывае вышэй за сябе, але ён заўсёды вышэй за мінулае.

І, калі пасьля зьбіраліся хлопцы, дык разам з інеем, разам з добраю таварыскаю цяплынёю, яны прыносілі з сабою і памяць шуканьняў. Яна ляжала на іх нейкім прыемным грузам пройдзенае дарогі. І, хоць дарога цяжкая, але ніколі нельга ўтаміцца жыць, каб перастаць шукаць. У кожны дзень трэба ступаць новым напірыстым крокам...

6

Чалавечая памяць багатая. Ёй трэба насіць усё тое, чаму ня трэба— чаму нельга — зноў паўтарацца. І якімі доўгімі лескамі ўніз астаецца

пройдзеная дорога. Але назад гэтымі лескамі ісьці нельга—можна толькі азірнуцца, каб зьмерацць, як доўга яшчэ трэба ісьці наперад. І, як-бы ня была вялікая дарога назад, а азірнуўшыся чалавек на ёй заўсёды ўбачыць самога сябе, бо, праходзячы праз жыцьцё, ён заўсёды аставаўся ў ім. А лескі, якімі ён падымаўся ўгору праходзячы сваю дарогу — завуцца яго біографіяй.

У чалавечым жыцьці—у біографіі—ёсьць вясна. Яна пачынаецца там, дзе няма яшчэ чалавека, а ёсьць разьлітая лужа сьмеху і воч. Бесклапотнасьць. Дзяцінства. Там няма яшчэ ніякіх дарог і сьвет ня ўпіраецца ў мысьль, каб выціскаць на ілбе маршчыны. І ўжо толькі тады, калі пачынаюцца дарогі—канчаецца вясна і пачынаецца чалавек. Але і ў дарогах чалавек будзе насіць сваю вясну, каб знаць, што ён носіць памяць.

Сваю вясну я прынёс у горад. Нехарошую, бедную вясну, і сустрэў яе там, у музэі, калі Лёля запыталася чаго я змоўк.

Успаміналася даматканая—у якой трэ' было вырасьці—Беларусь. Гэтую Беларусь я пазнаў і ў старым, што сустрэўся на рагу Карла Маркса і Сьвярдлоўскае.

Вечарамі горад гарыць тысячамі агнёў. Узімку, калі апушчаецца ноч—марозным туманам асядае яна на горад. Тады горад здаецца прыдушаным, ціхім—ахутаным у сонную вату сьнягоў. Ад вуліц угору нявысока тады падымаецца бляск, а зьверху—аграмаднымі белымі вяроўкамі апушчаюцца аб'інелыя дроты антэн. Глуха. Спакойна. І калі з туману пакажацца раптам тады чалавек, то здаецца—ён мяшае гораду спаць.

А ўлетку — праз гар, тлум, сьпёку праз жароўню каменных вуліц, праз тысячы спраў, сустрэч, праз сіняе ад фабрычнага дыму паветра—трэба пранесьці чалавечы дзень, каб апусьціць яго ў сьвежы, з лірычнаю ўтомаю, вечар. Увечары горад цішэе. Нагудзеўшы за дзень, ён лажыцца паволі ў змрок, і з ім пачынае агнямі гуляць у жмуркі...

У рашчэрбіне Міхайлаўскае вуліцы, у № 10, як і заўсёды іграў рояль. Пад нагамі, праз каштаны, забіраючы электрычныя цені, тужэў асфальт. Хадзілі людзі, паволі, як вечар... Рояль далятаў ужо толькі абрыўкамі і, абрыўкамі — гарам, утомаю, тлумам — аставаўся ў памяці дзень.

І тады-ж, перайшоўшы за віленскі мост — апошнімі агнямі адплыў вакзал. Тут, у завакзальным раёне ўжо цемень. Толькі высокія тапалі верхавінамі ловяць яшчэ рэдкі, далёкі, халодны водсьвет. Цішыня. Мая сьцежка дахаты сьпіць тапалямі праз зборны пункт, ды вішнямі, што паклалі цяжкія галовы на платы вакзальнае вуліцы.

І тут, ідучы, стала неяк трывожна. Нешта асталося там, ззаду, у горадзе і рупела. Там астаўся яшчэ чалавечы кіпень, гульні ў „Профінтэрне“, тэньнісы, аркестры. І адтуль, вось сюды яшчэ далятаюць кавалкі музыкі. Яны мяшаюцца з украдлівым шопатам белых, паволі прайшоў-

шых фігур, што станулі, схаваліся ў змроку... Падняўся, заварушыўся шчымлівы сум. Сумота. Нядобра быць аднаму ў такі вечар. Пачулася аграмадная, мулкая адсутнасьць некага. Тады захацелася бачыць, мець харошую, цёплую прысутнасьць друга, жанчыны—і тады ня было яшчэ Лёлі, каб пасьля горш адчуць яе адсутнасьць, так, як у бунінскім „Одиночестве"...

Увечары адзіноты чалавека апаноўвае мысьль. Яна растварае ў сабе чалавека так, што чалавек—спрэс мысьль. І тады трэба ня спаць, трэба пераступаць гадзіны, ночы, стомленасьць і адчуваць толькі аграмадную даўкую духату свае мысьлі. Трэба тузацца, тузаць напружанасьць, сон, варочаць глыбы сыстэм, кавалкаў, абрыўкаў, зьвязваць іх, пагаджаць — мазгамі, галавою—зьядаючы ноч так, каб пасьля галава пачынала шумець. Ломяцца законы біолёгічных нормаў організму. Чалавеку мала сябе, мала часу, мала рэчаіснасьці і — мала сілы. Вальтаж напружанасьці пачынае забіваць сябе, мысьль вар'яцее, зрываецца, і тады чалавек можа трызьніць і можа пісаць такія лісты:—

*Здароў Z.*

Самая вялікая праблема, якую я цяпер разьбіраю — праблема чалавечае дурносьці. Дурносьць чалавечая ня мае граніц; папробуй вымерай яе--сам дурнем станеш. І гэта больш чым жыцьцё. Калёніяльная палітыка, плян Юнга — пародыя на геніяльнасьць, і ўсё-такі гэта ня глупства, а малаціць боб, значыць самавызначацца. Лічу парадаксальным сьцьвярджэньне, што чалавечая галава мае чэрап: гэта мазгі. А ў любой сталоўцы ты можаш убачыць у мэню, што менавіта гэтыя мазгі даюцца на другую страву. Калі ты іх зьеў, значыць ты можаш выйсьці на вуліцу і ўсім заявіць, што ты зьеў *глупства*, і канстатаваць факт, што жывёла таксама мысьліць, бо мазгі былі не чалавечыя, а ўсё-ж яны ўвайшлі складанаю часьцінаю твае самастойнае мазгаўні.

Яшчэ: мазгі падобны на чалавечыя экскрамэнты: у гэтым, бязумоўна, ёсьць роднасьць.

Ага—: я ўспомніў адну рэч, але—калі паставіў коску—забыўся, а кожны чалавек можа вар'яцець, і яму здаецца, што ён тады самы шчасьлівы, і верыць такому чалавеку ніколі нельга.

Між іншым—табе паклон. Гэта я ўспомніў, што я мог-бы перадаць паклон. А з бібліі мне сама лепш падабаецца месца пра Іскарыёту і 30 срэбранікаў. Ну, і ўсё. Пахавальны марш, памойму, трэба іграць не пасьля сьмерці, а перад сьмерцю, каб знаў чалавек, што яму аддаецца пашана. Пасьля сьмерці ставіцца кропка, і тады пачынаюць працаваць мазгі.

... А ўвосень на зборным пункце—тапалі асыпаюць лісты. Ідучы дахаты я кожны раз прыслухоўваюся, як шастаюць гэтыя лісты пад нагамі.

Тут я нават прыцішаю хаду, каб надаўжэй пакінуць у сабе гэты шэлест. У ім нешта да болю знаёмае падымаецца ўнутры, такое, што хочацца гладзіць яго.

І я знаю ўжо—мне трэба ў лес. Трэба вёрстамі прайсьці па апалых лістох так, як рабілася гэта ў дзяцінстве на пашы кароў.

Гэта ўстала, замулелася памяць.

— Трэба паехаць. Аўтобусам да Грозава. А там—па лістох—пехатою да Слуцку.

Хіба можна здолець, каб не азірнуцца назад?

Ад гэтае паездкі вышла ў мяне „Па дарозе“ і мінус у графу сацыяльнае бытнасьці.

7

А ўсё-ж добра праз гады апыніцца на прасторнай зямлі. На палёх узгоркамі перагінаецца восеньская раньля. Дарога бяжыць неяк крадучыся, паволі—упіраецца ў сінь, у лясы, у сёлы. Павуціньне. На ўзьмежку ўжо дрэмле аголены куст дубняку. Пахне з загонаў зямлёю ды выаранаю бульбаю. І багата прасторы. Куды ня зірні—трэба кідаць далёка вочы, каб нагнаць засінелую далеч.

І добра—так мякка, прасторна прайсьці пасьля цьвёрдага, даўкага гораду.

Ціха. Ля Дубеяк—здалёк яшчэ паказаўся чалавек. Па загоне ён крочыў за плугам, нагінаўся, з-пад ног даставаў камяні, адкідаў на мяжу і зноў паганяў каня. Конь упінаўся, горбіўся ледзь цягнуў за сабою плужок. Калі мы сустрэліся—давялося зьдзівіцца яго старасьці. Трухлявы, гарбаты ён здаваўся ледзь дыша. Белая барада ўблыталася ў кавалак атадранага каўняра, а на вусох, пад ноздрамі паклаўся рыжы, сьлізкі табачны нагар. Нос пасінеў, набрыняў і, здавалася, быў цяжкім. Вочы мутнелі і выплывалі сьлязою.

— Ці прайду я, дзядок, сюдэю па Труханавічы?

Ён цяжка падняў руку і выцер рукавом ні то сьлязу, ні то вус.

— Пройдзеш, дзеткі. Толькі тут нацянькі балота. Мабыць босаму давядзецца пераходзіць.

Закурылі. Папяроса неяк няздатна засела ў яго між пальцаў. З дымам з грудзей у яго вырываўся хрыпат. Разы колькі яшчэ ён глыбока ўдыхнуў, зьняў шапку на разьвіт і пакрочыў да плуга.

— Н-но!—чутно ўжо было з-за гарба.

Плуг зашоргаў па каменьнях, затузаўся ў старэчых руках. Вузкі загончык у межах загнуўся на ўзгорак. Вось ён—музэй. Гэта тут не здала яшчэ свае каманды пад чалавекам зямля. Букалічная форма жыцьця. Тысячагодзьдзі праходзілі бурамі, войнамі, рэволюцыямі, бунтамі з пахам чалавечага поту і крыві, каб так і астацца ў букалічнасьці, ня сьцерці бур'яністых межаў.

І ў Труханавічах расказала сястра, што цяжка жывецца. Палеткі за тры вярсты. Не нацягаешся гною, а там і ўраджай—як ласінец. Адзінота, бядота, нястача. Калгасы баяцца пачынаць, дый няма каму. У сельсавеце тры гады панавалі кулакі. Толькі цяпер пачынаецца барацьба і, канешне што-небудзь выдзе. А пакуль што—пакута. Адсталі. У суседнім сяле забілі камуніста за тое, што зваў за калгасы. От і знай куды кінуцца...

І тады-ж сястра запрэгла кабылу, каб падвезьці мяне з сяла. Па дарозе пад'ехаў калгасьнік.—Яны будуюць калгас на карчох, на балотах—на лядах абшарніка Мельніка. Сястра слухае, як з жарам расказвае гэты непазорны, суконны чалавек пра адчайную схватку людзей з зямлёю.

— Думаеш лёгка было пачынаць?—кажа ён да сястры.—Ня лёгка. Валаводзілі колькі нас, колькі цкавалі, пужалі, бэсьцілі—а не паддаліся. Казалі: сабраліся абібокі, гультаі, а гэтыя абібокі зямлю ракам расставяць! Канешне, было цяжка. Бывала, станеш—глядзіш, глядзіш—і страх бярэ: як пачынаць, з кім пачынаць і з чым. Балоты, лясы, куп'ё. Рашылі больш сілы падбіраць. Ну, і набралася шмат: з Замосьця, з Рудні, з Покаршава, а чалавек колькі ажно з-пад Ігуменя нашлося. Так і пачалі былі памаленьку калупацца... Цяпер асталяваліся. Людзі самі прыходзяць, просяцца, каб прынялі.

Чалавек расказвае, а я лаўлю сябе на тым, што не знаходжу таго, чаго прыехаў шукаць. На зборным пункце пад нагамі шалясьцелі апалыя лісты. Гэтак-жа яны шалясьцелі некалі ў дзяцінстве, калі ўвосень цэлы дзень па лесе трэба было хадзіць за кароўмі. Тады нізка поўзалі хмары, і на паплавох далёка ўядалася глухая сінь. Трэба было, каб няпрыкметней адтупаць дзень—гнуць арэхавыя дужкі, на балотах шукаць ракіты і выплетаць пукатыя кашы. Пасьля сівернага мокрага дня—добра было заснуць пад цяжкаю коўдраю, пад гуд жарон...

— Цяпер, галоўнае, нам з будоўляю канчаць трэба,—перадумаўшы гаворыць чалавек.—Гады два пагаруем, папакутуем, а там—жыць будам, як лепш ня трэба. Ты ведаеш гэтае месца? Разрабіўшы яго гэта будзе зялёны рай! Зямля—паплавы, сенажаці—рэдка знайсьці. Як ягада! Але—лёгка нічога не даецца...

Я прышоў, каб у лістох знайсьці сваю вясну, якую чалавек павінен насіць у памяці—і не знаходжу яе. Нават нічога ня можа нагадаць яе. Па дарозе мінаюцца нейкія новыя, дасюль мною нязнаныя—а можа забытыя—сёлы. Грузна, разложыста, шырокімі сядзібамі паўсядалі яны ў зямлю. Аграмаднымі будынкамі, новым аблічам чалавечае сілы парушылася спрадвечная ідылія цішыні. Парушылася пустэльная, бяскрайная роўнядзь, дзе павінны былі плакаць, або крычаць згубленыя адзінотныя два кусты—у музэі. Відзён нейкі сьмелы размах. Калгасы. Па дарозе мы праяжджаем паўз іх. І навокал, наводдаль: за чубком абветранага хмызьняку, за Анупраўскаю гарою, за гайком пад Храноў—калгасы. Чорныя з трактарным сьледам палеткі ральлі. І багата прасторы. Куды

ня зірні—трэба кідаць далёка вочы, каб нагнаць зарунелую далеч. Але па дарове мінаюцца таксама і дасюль мною нязнаныя—а можа забытыя—хутары ды пасёлкі. Моцныя глухія платы, шырокія сядзібы, шнуры—кажуць за тое, што тут хацеў расьці, рос, моцны фэрмэр—нацыянал-дэмакратычны трамплін да буржуазнае рэстаўрацыі. І тыя-ж шнуры ды сядзібы на шырокую ногу гавораць за тое, што тут была рука ўрадоўцы-пратэктара—камісара, які пасьля надзеў юхтовыя боты і капялюш.

Не, не пазнаць мае бацькаўшчыны.

Парушылася ідылія цішыні.

Чалавек расказвае пра барацьбу людзей з людзьмі, людзей з зямлёю—за сацыялізм. Ён да таго захапляецца сваею гаворкаю, што кожнаму слову хочацца верыць—няма як няверыць яму. Гэты невялікі суконны чалавек зусім непазорны, а якім аграмадным полымем гарыць яго нутро! І такіх іх сабралася шмат. А хто хоча рабіць, хто верыць у гэта—той зробіць...

І тады хацелася думаць так:

> У гарадох, магістралямі вуліц—на фэбрыкі, на заводы, на ўскраіны, у цэнтр—падаецца чалавечы ток. Адрываюцца, чмокаюць, па панэлях падэшвы. Даганяюць, крыжуюцца—па бруку—машыны. Жалезнымі бэлькамі грузна грымяць балаголы. Калаўротамі, машынамі, між дзеравяных кроквaў—наверх, на паверхі—падымаецца цэгла. Пахне цэмантам, дошкамі, вапнаю. Тонамі, вольтамі дыхаюць заводы. Гар, пыл, сьпёка. Гулкая, душная мітусьня. Горад грыміць: рухам, жалезам, чалавечым жыцьцём. Рушацца вуліцы, людзі, машыны, каменныя глыбы, жалеза—у днёх у гадох, у шалёнай стромасьці. Мэханіна. Строгасьць. Сыстэма.

Горад—сыстэма. Як-жа далёка ад яго асталося сяло. Як доўга—ажно дагэтуль—блудзіла яно: балотамі, жвырамі, межамі, сохамі, шнурамі, валокамі, жорнамі, абечкамі, трантамі, трасцаю, фальбаркамі, завеямі, жабрацтвам, пахам чалавечага поту і крыві—каб толькі цяпер стаць на дарогу. Стаць, каб даганяць з вякоў! Парушылася спрадвечная ідылія цішыні. Відзён сьмелы, адчайны размах—калгасы. Прасторы шырознае вялізнае зямлі.

Гэта зямля здала сваю векавую команду над чалавекам.

Пачалося змаганьне людзей з людзьмі, людзей з зямлёю—за сацыялізм. Машынаю, воляю, смагаю, тэхнікаю, новымі нормамі праў—шырока чалавек паступіў на зямлю.—Сіла!—Рухнула, зьнікла каманда стагодзьдзяў. Над стагодзьдзямі стаў чалавек, каб падаваць сацыялістычную каманду! І адгэтуль пачынаецца новая вясна чалавека.

Так.

Лістапад—красавік
1930—1931 год.

# ПЕРАРОБКА ЛЮДЗЕЙ

**Андрэй Ушакоў**

## 1. РАНІЦОЙ

Ля чорнай
іржавай брамы,
Будка насьпех
з фанэры зьбіта,—
Нават яшчэ
не абсох атрамант
Нязграбна напісаных літар:

> **КАСА**
> для выдачы заработку
> ПРАГУЛЬШЧЫКАМ
> і злосным П'ЯНІЦАМ

Кінула сонца
погляд кароткі,
Абліўшы фанэру
барвовым глянцам
І—
зразумеўшы
ў чым тут справа
Хітра прыплюшчыла вока.
Ішлі на працу рабочыя
і на чорны
ўтоптаны гравій
клалі
важкія
цьвёрдыя крокі.
Пачынаўся дзень
вялікіх клапот,

Дзень—
ударнай працы,
гарачэйшай,
за чыгун у ваґранках.
Рокатам морскіх
хваль
шумела дэпо,
У паветры
сьвежага
летняга ранку!

2. ПРАГНАСЬЦЬ П'ЯНІЦ

Пошчак гудка
сьцякае на сьцены,
клейкай
гарачай
лявай,—
Скончыла працу першая зьмена...
Атрасаючы
з мускулаў млявасьць,—
Усе сьпяшаюць заняць чаргу—
(Сёньня выплачваюць заробтак).
Каля касы
надсадзісты гул
соцень рабочых
глотак.
Часамі сьцішаецца гул,—
Праглынуць цішыню
ў сваю ляпу
засаб...

. . . . . . . . . . . . .

Прашываецца
праз жывую сьцяну
Вясьняк
да вакенца
выплатнай касы.
І расплыўся
ўхмылкай рот,
калі мэта
зрабілася блізкай...
Цёк са скроняй
бруямі пот
на шчацэ пакідаючы
брудныя рыскі.

Губы высахлі,
едка пячэ,
Брудны накіп
горкае смагі,
І вазёры
глыбокіх вачэй
наліліся
няўтольнай прагай.
Уяўлялася:
шэлест грашовых паперак
і пузатая паўлітроўка...
Калі ня пушчалі
ісьці уперад,
Ён агрызаўся
галодным воўкам:
— Што яму—
напляваць на усіх—
Раз „палучка“,—
дык хто забароніць?!
Пі-ы...
(А п‘яны дамоў прынясе
Непрапіты
апошні чырвонец.
Жонку з сынам
выгане з хаты,
Кулаком пачастуе
і тлустым матам)...
— Што з таго,
калі сьлесар адзін
Заўтра ў цэх
ня выйдзе на працу?!
І ў нарад
на восем гадзін
спозьніцца „С 12!..“
Яму цяжка гарэлку забыць,
Яшчэ моцна
традыцыі душаць,—
Гадаваў яго
стары быт
Манаполек
і цьвілых піўнушак.
Калі часам
сябры,
сабраўшыся ў гурт,

Пачынаюць з яго
дакорліва лахаць;
Адчувае Вясьняк
пад нагамі
балотны грунт
свайго
жыцьцёвага шляху.
Тады сорамна
за прагул,
шкода жонкі,
малога сына...
Але...
хвілі разваг прабягуць,
Авалодвае зноў пасыўнасьць:
— Замачыць трэба,
кум Зьмітрок,—
У цябе-ж павышэньне
разраду!..
І тады
залівае нутро
Плыткай хваляй
густая радасьць...
— Не адмоўлюся, добры момант!..
Кум расплыўся
Усьмешкай лісьсяй...
... Прыпыніўшы сваю размову
да плацельшчыка Ясеня падаліся.
І павіс у паветры „мат“,—
Як сказаў ім курмілісты Ясень:
— Вас у сьпісу маім няма,—
Атрымайце ў новай касе...

3. ЛЯ ЧОРНАЙ КАСЫ

Абтынавалі
рабочыя касу
жывою сьцяной шырокай,
І гул загудзеў
разьлівам ракі,
А з сярэдзіны
палахліва
прагульшчыкі
глядзелі навокал,
Як у пастку
злоўленыя пацукі

Вышаў з натоўпу
як хмара
хмуры,
З вялікім
вытворчым стажам
каваль.
Узьняў руку—
сэкунда
І—
як
пасьля буры
нямелі ўсплёскі
слоўных хваль.
—Вось—
(рукой на прагульшчыка
паказаў)
пародыя нашых
рабочых!
—Будуем!
Расьцем!
А яны—
адцягваюць
назад,—
калі дэпо
гураганна
ўперад крочыць,
Калі стогнуць цэхі
ад машыннага
рокату,—
А яны будаваць
не жадаюць
разам,
гнаяўкамі селі
на здаровым целе,
і зараз
патрэбен доктар,
каб дэпо
вылечыць ад заразы!
Доктар:—
мы—
рабочы колектыў,—
лякарства:—
выкананьне
прамфінплянў!

Толькі трэба
перавыкаваць тых,
Якія загрузьлі
ў балоце п'янак.
Ім засьціць вочы
несьвядомасьці дым,
Засланяе
мэту
рабочай клясы.
Яны інтарэсы
ўсяе грамады
на сваю
прамянялі ўласнасьць!..
Паставіць крыж
на прагулах —
і квіта!..
Змагацца
за рамонт
хворых паравозаў!..
Іначай
сустрэнем
на карыце разьбітым
асеньня-зімовыя перавозкі.
Ведайце:
што кожны
ваш прагул
скарыстае
клясавы вораг!..
У паветры згусьціўся
камлыгамі гул,
галасы загрымелі
кпліва,
сувора:
Глядзеце:
— Вясьняк,
— Зьмітрок,
— Камлюк...
— Гэта-ж лепш
на вяроўцы павесіцца!..
А прагульшчыкі
ўтоўпілі вочы ў зямлю,
Стаяць—
нібы
прырасьлі на месцы.

З вуснаў,
з плякатаў,
з дэпоўскіх сьцен,
З чорнай
вугольнай гушчы,—
Навальніцай
ганебнасьць расьце:
— Гультай!
— П'яніца!!
Прагульшчык!!!
Прыгадалася:
—перагар віна
і звон
сьлязьлівых кілішкаў...
—п'яніцы...
і за гэта
глядзяць на нас
Як на людзей
непатрэбных і лішніх!..
— Лішнія...
прагулялі...
І чорных думак муць
Ударыла ў голаў
з разгону.
—Лішнія?..
дык чаму-ж мы—
чаму,
ня можам насіць
ударніка
гонар?!.
— Чаму—
нам ня бачыць
інакшых пуцін?..
Чаму
мы сябе
гэткай назваю
чэрнім?..
Чаму??!!..
—і першы раз у жыцьці
кожны ўбачыў
сваю нікчэмнасьць.
— Мы абяцаем,
мы...
...але не хапіла слоў...

Сорам
за горла
душыў
крыважадным зьверам:
— Прагульшчыкі!..
і слова
шырылася,
расло,—
Прымушала
галовы туліць у каўнеры...
Нянавісьць расла
да сябе саміх,—
Нянавісьць
за свой
учынак уласны...
І—
вокамгненьне,—
міг:—
Прагульшчыкі беглі
ад „чорнай касы"...
Палахліва
адвячорак
з-за брамы поўз,
Абліваючы
вадкаю сіньню
рэйкі.

. . . . . . . . . . . . .

Гэта
быў першы раз
у гісторыі дэпо,—
калі
з палучкі
ніхто не прапіў і капейкі.
Гэта была
пераробка людзей,
гэтак раджалася працдысцыпліна.
...Пераможным гулам
натоўп гудзеў
Мэталічным гулам
глухой цыны.

г. Віцебск, дэпо МББч
18-VIII—31

## КОМСАМОЛ

### П. Ананьнеў

Сьценкі пяройдзены чорныя.
Гісторыя,
занатуй паход.
Нас нарадзіў яшчэ ўчора
Бунтоўны 17-ы год.
Расьлі мы
ня сонцам аблашчаныя,
Нас ня вабілі краявіды зямлі;
Там, дзе
кулямёты
ляскалі,
Мы баявое хрышчэньне ўзялі.
Голад...
і вошы...
разьдзетыя...
босыя,
А слова на вуснах—савет.
Нас нашы думкі,
жаданьні ўзьнеслыя
Вялі да выразнасьці мэт.
Другія ў пуці адставалі
нудзіліся.
Зьнікалі ў накіпу хмар;
А мы вывучалі граматыку дзіўную
Кулямётаў,
стрэльбаў,
гармат...
... Помніце, хлопцы,
як мы перагортвалі
Поэму кіпучых баёў?
І вось мы на рэйдзе
ля першага порту
Стрэльбы зрабілі сваё...
Зьнікалі драпежнікі
— чорныя вораны.

Руіны...
        мора крыві...
Краіну,—разьбітую ўчора,—
Трэба цяпер аднавіць.
Бярэмся!
            —панесьліся ўвысь
Галасы комсамольскіх мас:
З Беларусі—краіны дрыгвы—
Зробім тарпяны Донбас.
З ячэек плылі і плылі
У ЦК Комсамолу зьвесткі,
А думкі такія былі:
Узяць над балотамі шэфства.
Гэта пытаньне
                ўзьнялі друкары,
Потым ячэйка
                заводу „Молат“;
А далей агульны парыў
                        завалодаў усім комсамолам.
Мы ідзем—
            маладняк-змагары,
І пачнем,
          там дзе соўкаўся бусел,
Новы дзень
             у рытме працы тварыць,
Краявіды зьмяняць Беларусі...
Цяжкі рэйс
              перад намі, браткі,
У сотні мускулаў
                    дойдзем да мэты...
...І як доказ прыводжу радкі—
Пастановы ячэйкі аб гэтым.

ПАСТАНОВА КОЛЕКТЫВУ КСМ
ЗАВОДУ „ЧЫРВОНЫ МЭТАЛІСТ“

— У нас поруч з Сельмашам
Разьляглiся балоты, багны;
А заводы, фабрыкі нашы
Чакаюць апалу прагна.
А выйсьце магчыма адно:
У гэты балоты
                 ўрыцца кратом.

Гэтыя балоты—
          залатое дно:
Тутка торфу мільёны тон...
Вось сягоньня мы—Комсамол,
За справу бярэмся мужна,
На распрацоўку торфу дамо
Комсамольцаў
          надзейных
                    і дужых.

Менск
12·V—31 г.

## ПОЭМА ДАЛЬНІХ ДАРОГ

### Юрка Гаўрук

*(Працяг)*

### 8. Падаць сюды валізы!

Апанас Чарнаваты сядзеў на вазе, пачэсваючы бараду, і пад нос напяваў вядомую песеньку:

Салавей, салавей, пташачка!
Канарэюшка жаласна пяець.

У яго голасе ня было належнага смутку. Ён распарыўся ад сонца, чаканьня і нецярплячкі ехаць.

Бела-мушасты конь дзівіўся, што гаспадар сьпявае, бо такое здарэньне траплялася ня часта. Ен пакусваў брудную грыву, засыпаную, як макам, гнідамі, ляскаў жоўтымі зубамі і працавіта ўхмыляўся. Раптам прыбег Салабута:

— Апанас, табе пашэньціла, але новае гора. Латаша забралі...

— Ну?!

— Вось табе і ну.

Чарнаваты абарваў песьню і апошняя нота прагучала сапраўды жаласна:

Салавей, салавей, пташачка!
Канарэю-у-ушка жа-лас-на... пяець...

— Што рабіць?

— Што табе рабіць? Ты маеш пропуск і ўсё такое: едзь, што табе рабіць.

Чарнаваты доўга тупаўся на месцы, крактаў, спачуваў, нарэшце запрог каня:

— Калі ўжо Латаш папаўся, то што мне...

Ня ўсім-жа такая ўдача.

Чарнаваты ад'ехаў невясёлы.

Салабута хмура глядзеў, як Чарнаваты паганяў каня, як меншылася і без таго малая постаць, траслася барада, а над барадою брыль, колеру сьпелай пшаніцы.

Ен адышоў і абняў Ваську:

— Падвёў я чалавека, Васечка, падвёў!..

Сэрца сьціснулася, з вачэй гатовы былі брызнуць сьлёзы:

„Дурны, дурны Андрэй! Я думаў, ён сіла, а ён у цацкі гуляе.

Шкода!.. Не распух мне язык, як я ня ведаў, дурань я. Ці Латашў прасіць!

Ён не пашоў-бы прасіць, каб ня я.

Гады, гады! Эх, гады!..

А я набіты дурань. Пасквапіўся на пропуск, пашоў пропуску прасіць, патрэбен мне той пропуск.

Дурань, дурань набіты!“

Салабута адапхнуў Ваську і паплёўся да студні.

Бачыў сваю смутную постаць у цамантовых кругох на дне, круціў калаўрот, разгублены, няпрытомны.

На змочанай коньмі пляцоўцы пстрыкалі кусашчыя мухі.

Бліскучы брунэт—конскі жук качаўся на сьпіне, перабіраў нагамі, турбуючы маленькіх ружовенькіх жучаняткаў; яны, як нераст, наляпіліся на яго цьвёрды жывот і кішэлі з трэскам.

Салабута прывык да стаеннага паху і гулу, хадзіў, мінаючы тлустыя кучы, машынальна перавярнуў жука і не заўважыў як растаптаў другога. Ссунуўшы бровы на пераносьсе, ён хадзіў і хадзіў у тым бяссонным дбаньні, ад якога думка запякаецца ў галаве, атручваючы чалавека

Выдаўся слаўны вечар.

Сакатала шчасьлівая сарока і кувала зязюля ў гаі працяжна, працяжна, многа раз. Хораша і дружна пырхаў з вераб'ямі шпак. Камары спраўлялі вясельле.

На румяных абшарах неба паявілася зорка Мілавіца.

У гэты час затрубіў ражок, зайгралі гарністы сыгнал.

Палкоўнік Думбрунэн—Дамброўскі, чырвоны пасьля ванны, мяккі лысы, прачытаўшы тэлеграму, раптам астыў і загадаў паход.

На касьцельнай вежы званілі малітвенна і глуха.

Пані Бабінская бегала праставалосая з пакою ў пакой:

— Броня! Магда! Дзеці мае, дзеці мае! Сукеначкі, сукеначкі!

Яна забылася на ўсе свае болі.

— Мой божачка! Сьвяты моцненькі, сьвяты крэпенькі!—крычала яна змагаючыся з друзлым целам, зашпільваючы кашулю.

— Бронь божачка, Броню і Магду, маіх дзетак, сьвяты крэпенькі!

— Крыся, паскудная Крыся, шукай Магду!

— Броня, Браніслаў,—ты тут: шукай тату!

— Зыгмунце, Зыгмунце!..

— Я тут, анёлак!

Пан Бабінскі меў патаемную нараду ў габінэце.

Ен прышоў, падпіраючыся сукаватаю ключкаю, пераляканы, спытаць, што азначае гэты гвалт, трызвон і ці трэба пакаваць рэчы.

У чорным старасьвецкім сурдуце, ён шчыпаў сябе дрыготнаю рукою а шыю, на якой тапырыўся белы каўнер.

— Пане капітане, вы павінны нас ратаваць! У вашых руках нашае збавеньне. Я вас малю, пане капітане!

— Так, так! Ніякіх паратункаў. Мы ідзем у наступ. Мы абаронім айчыну. Кажу вам зусім сакрэтна і зусім бясспрэчна: у бальшавікоў няма харчу, няма адзеньня, няма абутку, няма зброі, у нас ёсьць усё. Мы абаронім айчыну, у тым ліку і вас, гасьцінны пане Зыгмунт.

— Так, так! Бывайце!

Але гаспадар фальварку, ня ўсьцешыўся:

— Гэта такі страх, такі страх!

— Так, так! Ніякага страху. Бывайце!

Войтак, падаць сюды валізы!

— Гатова, пане капітане! Валізы ў абозе.

— Давай коні!

— Слухаю, пане капітане!

Ключка бразнулася вобземлю.

Пані Агнешка віхрам узьляцела з дзеткамі на ганкі. Нутраная бура перамагла прыцяжэньне цела.

— Я ўсё чула, я ўсё чула.

— Сакрэтна і бясспрэчна. Малеце бога!

Полк рушыўся на ўсход на дарогу.

Бадзёра загрымеў марш і закалыхаліся сьпіны.

— На сто лет будзе нашага войска!—

сказала пані Агнешка, заляскаўшы ў ладкі.

„А нашага на тысячы“,—

падумаў Салабута і пляснуў лейцамі.

## 9. Жаўнер ад бочкі

Чыгунка лічылася важным стратэгічным пунктам.

На высокай насыпе загарэліся тры ліхтары. Цягнік татахнуў па рэйках, праляцеў цераз шошу і гулкі пошчак яго, як нажом, разрэзаў лес.

Па чыгунцы тасаваліся змораныя патрулі.

Як павукі павучыньне, сапёры снавалі калючы дрот з вялізных іржавых клубкоў, часта раскіданых па полі перад зыгзагам цэлае сыстэмы акопаў.

Рыхтаваліся загадзя.

Коннай выведцы паднялі шлягбаўм і пазнанскі пяхотны полк, апынуўшыся ў прыфрантовай паласе, рушыў пасьпешна далей, каб заняць позыцыю.

Днела на пагоду. Зямля была росная. Паветра чыстае.
І здавалася Салабуту: вось ён едзе дамоў, канчае сваю пакуту.
Сэрца працавала роўна, спакойна. Думкі ачысьціліся пад бой.

Калі полк раскінуўся на прывал, Салабута адпрог каня, каб аддыхаўся, а сам пашоў у быткі-раздабыткі да жаўнераў па сваю порцыю. Але куды-б ён ні прыткнуўся, усюды адпіхвалі яго назад, кожны абносіў яго місаю бурае цёплае кавы, піў, і смактаў, і закусваў хлебам.

І толькі як апошні жаўнер абнёс апошняга місай, кашавар паглядзеў, чарпануў і бабахнуў яму гушчы.

Апошнім быў жаўнер ад бочкі:

— Ці ты яшчэ тут, чалавеча?

— Тут.

— Толькі ня тут!

Жаўнер адышоў у бок, паклікаўшы Салабуту. Яго ногі матляліся ў халявах, як качалкі ў макотрах.—

— Слухай, чалавеча, уцякаў-бы пакуль ня позна.

— А ў мяне-ж конь.

— Каму гэта клопат, што ў цябе конь!

— Куды-ж я каня дзену?

— Ты бачыш, што робіцца?

— Ліха ведае, што робіцца! Вайна.

Салабута боўтаў у кубку каву.

— А ты ўсё яшчэ на бочцы служыш?

— Не. Цяпер я бяз бочкі.

— Яно, мабыць, так лепей.

— Я цяпер шэраговы.

— Вось як? Павысілі, значыцца.

— Павысілі.

Жаўнер стуліў плечкі; мундзір, як на калу, сабраўся на вострых лапатках.

— Кругом мае непрыяцелі. Нічога мне ня вольна.

— Усім-жа так.

— Хто яго ведае! Нешта я сумняваюся. Хаджу і сумняваюся, хаджу і сумняваюся.

Яны паселі на траву.

У няглыбокай гладкай лашчынцы сярод хутарскіх выгод было зацішна.

Дзесьці коратка кукарэкаў певень раз-по-раз, як пабіты звон.

Саламяныя стрэхі там-сям пускалі праз коміны дым, які ўзыходзіў тонкімі цурочкамі, ружаваты на сонцы.

Салабута выеў каву і закурыў:

— Тое, што ты сумняваешся, мне здаецца, у гэтым няма ніякага толку. Я, браце ты мой, таксама сумняваюся.

Салабута глядзеў жаўнеру ў вочы і абсыпаў попел сабе на халат.

Глядзеў хвілін дзесяць, нарэшце разгледзеў.

Вочы ў жаўнера блакітныя, палінялыя і бліскучыя; рот маленькі, кругленькі; нос крыху кірпаты, вельмі маленькі; шыя высокая, а на шыі мяккі мокры кадык, такі няўрымсьлівы і такі безабаронны, што хацелася наставіць каўнер мундзіра, каб закрыць яго; на барадзе русая кучаравая шчаціна; шчокі плямістыя, плесьненыя: то гарадь, то тухнуць.

Салабута патупіўся долу:

— А можа ты, браце, і маеш права сумнявацца. Такі ты чалавек нейкі.

— Я—вясьняк.

— І я вясьняк.

Салабута зьняў з жаўнера конфэдэратку, памераў, пахваліў матэрыю, пахваліў арла, аддаў назад і сказаў:

— Пагляджу я на цябе, дык мне здаецца, браце, сядзіць на табе гэты арол, як на зайцу.

— Сядзіць, чалавеча, любы. Ня вольна мне.

— Глядзі, каб не праглынуў зусім.

Жаўнер замаркоціўся.

— Глядзі, браце!

Салабута папляваў на недакурак і кінуў папяросу.

— Гэта аднойчы лавіў я рыбу. Невадок, бачыш, маю, плёвенькі, але ўсё-ж невадок, як той казаў. Пашлі гэта мы з цесьцем маім Савасьціянам лавіць рыбу. Пацягалі мы гэта невадок па бродзе. Вядома якая рыба — брод. То мы ў затоку, чаратамі гэта й цягнем. Так шчучак некалькі й выцяглі. Была там адна шчучка, от так на поўпядзі ня больш, у куль убілася. Хацеў я выкінуць, бо малая, але цесьць мой Савасьціян і кажа: нешта яна тоўстая, мы зварым, усё спажыва будзе, няма чаго выкідаць, калі злавілася.

Прынесьлі мы тое, што налавілі, дахаты, папаролі рыб, распаролі і тую шчучку, маленькая шчучка, а ў шчучцы плотка, малым малым меншая, здаецца, пусьці на ваду—паплыве...—

Салабута спыніўся і паглядзеў на жаўнера.—

Дык вось і твой арол на шапцы, хоць бляшаны, хоць маленькі, а праглынуў цябе з усімі цапстрыкамі, як мае быць.

Салабута лёг. Смолкі і травы зашамацелі пад ім.

— І ты такі самы, як я, чалавеча любы.

— Думаеш я не? Чаго-ж бы я гаварыў тут з табою?

— Табе ўцякаць можна.

— Чаму-ж ты не ўцякаеш?

— Мне ня вольна.

— А ў мяне конь.

Салабута перакаціўся на сьпіну, падлажыўшы пад галаву рукі.

Кропля расы ўпала яму на лоб, засьвіцілася дыямэнтам, расплылася і высахла.

Раскошнае сонца кругамі падымалася ўгару.

— Скажы мне, жаўнер, майго таварыша расстралялі?

— Якога?

— Таго, помніш?

— Так, помню. Яго павялі ў жандармэрыю на допыт.

— На допыт?

— Так, бо можа ён шпіён які.

— А ты як думаеш?

— Мне ня вольна. Хто есьць бутэрброды з кавіяркай, альбо мазурак запяканы, альбо сардынське сьледзі, таму вольна.

— Але-ж ён ня шпіён.

— О, ён такі здаровы чалавек, што ня можа быць шпіён.

— Бяда наша!

— Я ведаў шпіёнаў, шпіёны—плюгавыя.

— Гады, гады!

— Мабыць, ён—бальшавік.

— Закатуюць!..

— А я сумняваюся, сяджу і сумняваюся.

Жаўнер схапіўся за кадык і скурчыўся так, нібы ў яго забалеў жывот.

— Што?.. Ты сумняваешся? Яго не расстраляюць?

— Матуля мая, матуленька!..

— Можа й выпусьцяць.

Салабута сеў.

— Калі яна мяне выпраўляла, яна казала:

— Клемусь, будзь разумным, не нажывай сабе ворагаў! Цябе ніхто не пашкадуе, Клямусю! Ніхто, толькі я, твая мама, не забывай мяне!..

— Аб чым тут саймуеце, панове?—азваўся над ім раптам вартавы.

— Ды вось, бачыце, сьнедаем, адпачываем,—спужаўся Салабута.

— Ніц, пане!

Жаўнер пабялеў і ўсхапіўся.

— Панове, няўчэсныя пагулянкі!

— Перапрашаю!

— Расходзься!

Прымятыя смолкі паднялі свае бадылі.

У місе на траве застыла недапітая жаўнерава кава.

---

Цэлы дзень бадзяўся Салабута каля акопаў.

Бачыў капітана Непакайчыцкага: ён пашарэў, запыліўся, забрудзіў боты, хадзіў і крычаў і ніхто, як сьлед, ня слухаўся яго каманды.

Зграбны капітан, пазнаўшы многа слодычы: і жанчын, і парфумы, і віна тут, перад боем, вывучаў на практыцы, што такое залежнасьць.

— Будзе яму заўтра няслава,—прадказаў Салабута.

Абозьнікі распырхваліся, як птушкі. Фурманкі радзелі. Конфіскаванага Латашова каня прыпраглі да вайсковых і нічым ён, небарака, не адрозьніваўся: пакорны і просты, гнядзенькі ў пары з гнядзенькім, валок гару мяса на няўклюжай чатырохколцы.

Каб паддаць духу, загадалі павялічыць мясныя порцыі жаўнерам.

Салабута паабедаў у запас; адвячоркам павёў на повадзе Ваську ў лес да крынічнае ручаінкі паіць, а калі Васька напіўся, падняў сваю доўгую галаву, з якое бясшумна капала вада, і стаў чакаць, што будзе далей, паглядаючы на гаспадара сінязорым вокам—у таго задрыжалі рукі, сухія, гарачыя, зладзейскія.

Салабута сеў верхам і паскакаў у гушчар, у цёмныя волкія нетры.

„От я і ў легцы“,—падумаў ён.—

„Забрала такі вайна мой воз на жалезных восях“.

## 10. Пропуск

Сумна і сьпешна выехаў з фальварку Апанас Чарнаваты.

Ніхто яго ня пытаў, ніхто не затрымаў, але ён трывожна прыглядаўся да кожнага стрэчнага жаўнера, як бы напрашваючыся паказаць свой пропуск.

Ня лёгка прышлася яму гэта дурная паперка ад капітана і ён хацеў барджджэй праверыць яе сілу. Ён трымаў у руцэ пропуск, як поп— эвангелію, пляскаў зрэдку лейцамі па худых парэбрынах свайго каня і, зьвесіўшы пушыстую бараду на сьвітку, сядзеў на драбінах, як прарок Гальляш на калясьніцы пасьля падарожжа ў пекла.

Бела-мушасты конь бег падбрыкваючы.

„Нарвецца хто, дык я вось на табе, ня дужа нарывайся.

Як ты мяне ня пусьціш, калі я дазвол маю?

Годзі, годзі, мілыя, вазіць мне вашыя крупы, а ўжо годзі!“

„От толькі няма сваіх: ні Андрэя, ні Дзям‘яна.

Я, слава богу, еду дамоў, а яны са сваімі языкамі пад арышт папалі.

Як гэтае крыўды многа на сьвеце.

Чорны, як хмара, быў Дзям‘ян, я хоць стары, слава богу, а ён стары бяз старасьці, ня дай божа.

Ну вось што я зраблю—схаваю пропуск“.

Чарнаваты расшпіліў кашулю.

На брудным шнурку калыхаўся сьцёрты медзяны крыжык. Ён зьняў шнурок, палажыў туды паперку і завязаў яе на зашмарг разам з крыжыкам.

„Яно, вядома, ня трымаць у руках усю дарогу, а ў кішэні згубіцца, гэта спрат самы пэўны, калі на целе ды яшчэ ў такім сьвятым месцы. Госпадзі, памажы!“

Пачынала смактаць пад лыжачкай.

Праяжджаючы праз вялікую вёску, Чарнаваты рашыў затрымацца. Ен доўга перабіраў хаты, мінаючы прасторныя і новыя, пакуль не знайшоў сабе пад густ такую хату, што была вельмі падобна да яго ўласную хлявом на вуліцу, вокнамі ў сад.

„Багатыр любіць, каб яму тое ды каб яму гэтае, а ня то што, каб яму так. Адкрый яму душу, дык ён туды, крый божа, плюне, вось табе і ўсё“.

— Дзень добры вам у падворак, харошыя людзі!

— Дзень добры!—

падазрона прамовіў гаспадар.

— То, значыцца, хачу запытаць у вас якое гэта сяло?

— Сяло, як сяло,—Крайнабова сяло.

— От я й бачу гэтае. Ї сяло, і хатка, і садок, дык я й думаю...—

Чарнаваты церабіў бараду, шукаючы слоў.

— Я гэта, абозьнік адпушчаны, дадому кіруюся, трэці тыдзень, значыцца, як у дарозе. Ліха на яго, якое гэта няшчасьце! Усе чыслы пераблыталіся.

— Сёньня які дзень?

— Здэцца, нядзелька сьвятая?

— Панядзелак.

— Значыцца, учора была сьвятая нядзелька, то-то я й чуў—у касьцеле блямкалі.

Чарнаваты зьняў брыль і трымаў яго перад сабою, як талерку для міласьціны:

— Дайце мне што-кольвек зьесьці!

Гаспадар адчыніў вароты і ўпусьціў яго з канём у двор.

— На нішчымніцу прыехаў, дзеду, Пуста ў нас.

— А мой гаспадарочку, я й нішчымніцы зьем.

Хоць сабе ні з чым, абы з добрым сэрцам.

— Сэрца, як сэрца.

— Ды я, мой гаспадарочку, ні то што які, гэта я-ж кажу, нядоля мая. От маю пропуск тут, што, значыцца, адслужыў панскаму войску. От ён тутака ў мяне,—

і Чарнаваты, палажыўшы далонь на грудзі, адчыніў дзьверы ў хату. Хоць і сам нізкі, але ён сагнуўся, баючыся, каб ня былі дзьверы яшча ніжэйшыя, бо настукаўся за жыцьцё нямала.

Не ўвайшоў, а ўкаціўся:

— Пахвалёны, пахвалёны!

Чарнаваты стаў перад покуць і адбіў барадою паклон.

Папяровыя абразы між саматканых рушнікоў і кручаных кітайцамі цацак відочне падабаліся яму.

Памаліўшыся, ён заўважыў поўную хату дзяцей.

Гаспадыня стаяла ля печы і гушкала калыску.

Чарнаваты хацеў пагладзіць па галоўцы кучаравага хлопчыка, але той ускочыў на пол, з полу на печ, і схаваўся за комін.

— Нешта пудкія дзеці цяпер пашлі, хай здаровы гадуюцца!

А сямейка ваша вялікая, вялікая, слава богу.

— Вялікая, не вялікая—драбяза адна. Можа, як вырастуць, то што і будзе, а тымчасам хай!—сказаў гаспадар.

— Соль табе ў вочы, соль табе ў вочы,—шаптала гаспадыня, гушкаючы калыску.

— Пагадуюцца здаровенькі.

— Уг-га, уг-га, уг-га-а-а!..

— Ціха ты, бо дзеду аддам! У мех цябе забярэ і ў роў закіне.

— Уг-га, уг-га!—нясьціханна крычала малое.

Чарнаваты падышоў да калыскі, як толькі зьвесіў туды сваю сівую бараду, дзіця пачырванела, падкінулася і затраслося ў курчы, дзіка плачучы.

Гаспадыня грозна адапхнула Чарнаватага і пачала мацней калыхаць, прыпяваючы:

А-а, а-а, люлі!
Майму Сему гулі!

— Ня плач, ня плач!

— Божачка, якія цяпер дзеці пудкія!

Чарнаваты адышоў і сеў на лаве.

— А я вам скажу, мае людзі, што я да дзяцей, як ня ведаю да чаго. І дзеці мяне не баяцца, дарма, што чужы. Гэта я сам ня ведаю.

— Трасуць нас: і немцы трасьлі, і палякі трэсьлі, а то кажуць, яшчэ бальшавікі скора прыдуць, дык ня дзіва, што дзеці напужаны. Калі мы цяпер самі, як трава: хто йдзе, той косіць.

— Праўда вашая, гаспадарочку! Я-ж, бачыце, сам зазнаў смаку. То ўжо колькі трусу таго, ледзь выратаваўся. От нясу душу, а што ў душы, бог сьвяты ведае.

...А-а, а-а, люлі!
Майму Сему гулі!

— От як малому, то добра кажаце, гулі на ўме. Але як усходзіцца, то ня сунімеш і малога. Такі цяпер сьвет пашоў, што а-яй!

— Цяжка.

Кучаравы хлопчык, абняўшы комін, пільна слухаў.

— Цяпер, мае людзі, сьвет, як бонба.

— Трахім, ты зашчапіў вароты?

— Зашчапіў.

— Ды яшчэ, значыцца, і голад. Едзеш, едзеш: ні табе аддыхаць, ні табе прылегчы. Хоць-бы ўзяць мяне: чыста прагаладаўся едучы. Ці ў вашым Крайнабове жаўнеры ёсьць?

— Ёсьць. Колькі хочаш!

— Добра, што пропуск маю пры сабе. Гэта, значыцца, калі што якое, дык я забясьпечаны.

Чарнаваты сядзеў і чухаўся.

— Вы па абедзе?

— Які там абед.

— Чыста стапталіся лапці дарогаю, а тыя анучы—гразь адна, смурод. Калі дазволіце, скіну?

— Ідзі на двор скінь, ды пастаў дзе, каб выпетралі.

— Чарнаваты борзда вышаў.

— Нашто ты гэтага дзеда пусьціў? От яшчэ ня мелі клопату! І з канём і з возам, а каб цябе чэрві елі!—

Гаспадыня перастала калыхаць.

— А куды-ж яму дзецца. Ну пусьціў, ну дык што?

— Мо' і карміць будзеш?

— А ня буду,—ты накорміш.

— Я? А не даждаў ты! А не даждаў ён! А як мне гэтую часіну перажыць! А лепш-бы я памерла і нічога ня бачыла: ні вайны гэтае, ні цябе, ні ўсяго!

— Вера, злазь са стала, злазь! Дзе мае пaскі? Ось я табе дам!

Дзяўчынка гадоў тры ціхенька адпаўзла ад стала і села, падпёршыся кулачком.

— Ты не галасі! Няма чаго. А дзеду есьці даць трэба. Што ты зробіш? Раз трэба, дык трэба.

— Ну то дам, ну то дам, каб вас чэрві елі з дзедам разам! Хай-жа б ён насупраць папёрся, а то сюды. Што я дам?

— Што-небудзь, мая панюхна!—сказаў Чарнаваты, уваходзячы басонаж.

Гаспадыня дастала міску прэснага шчаўя і ўкроіла хлеба. Чарнаваты памаліўся пасьпешнаю малітваю, ачэрпаў лыжку і сказаў:

— Няма нічога лепшага, як улетку шчаўе.

На стол наляцелі роем мухі і пачалі тапіцца ў місцы; некаторыя селі на бараду Чарнаватаму і чакалі мо' што капне.

Гаспадыня яшчэ ўкроіла хлеба і дала дзецям.

Была яна вельмі сярдзітая, але віду перад чужым чалавекам не падала.

Уся сям'я трымалася так, што Чарнаваты і яшчэ папрасіў, і яшчэ зьеў, і нават дажаваў скарыначкі.

— Дзякуй вам, добрыя людзі! Даўно ня еў свойскае варанае стравы, то цяпер передышкі хочацца. Здарожыўся, значыцца, то хоць-бы вока зьвесьці. Каб гэта як у гумно?

— О!—маленькае вашае ўжо сьпіць. Хай бог гадуе!

— Ты, хлопчык, ня бойся, я цябе не чапацьму.

— Ну й сьвет цяпер настаў: ні цукеркі, ні абаранка, няма нават чым дзіця пацешыць.

— Смачнае шчаўе, смачнае шчаўе!..

— І ерапрэлі мае ногі, то, разбуўшыся палегчала. Ног ня чую, а галава легчы просіць. Нават горача робіцца.

Гаспадар вывеў Чарнаватага, а гаспадыня, праклінаючы жыцьцё, прыбрала са стала, зьмёўшы ў жменю кожную крышачку хлеба.

Твар яе быў доўгі і жоўты, як гурок—насеньнік.

Праз цёмнае вакно яна бачыла як вывалаклі з гумна цэлую вязку сена чужому каню, хацела пабегчы ня даць, але не пасьмела, падыйшла да калыскі і злосна выцягла з-пад дзіцяці мокрую пялёнку.

— Уг-га!

...Люлі, люлі, люлі!
Майму Сему гулі!

---

Чарнаваты ўстаў раненька, нацямочку, папасьвіў недзе каня, а як вярнуўся, разьвесіў усе свае апранахі, а сам сеў за гумном і накрыўся барадою, каб ніхто ня бачыў.

„Што зямля, што сарочка! Выверну й сарочку, хай усё ліхое адвернецца!“

Перад ім вырысоўваліся мурожныя прасторы поплаву, над якім кружыліся кнігаўкі, і стогны гэтых тупакрылых птушак, і гудзеньне пчол, што ляцелі на раньні мёд, падабаліся-б яму напэўна, каб не турбавала другое.

З некаторага часу Чарнаваты стаў ненажэрным.

Ці то дарога так ператрэсла яго, ці мо' адчуваньне волі абмаладзіла, але куды-б ён ні глянуў, крычала ўсё: есьці, есьці.

Зялёныя яблыкі віселі ў яго над галавою і ён маніў сябе, каўтаючы сьліну.

Ня выцерпеўшы, Чарнаваты апрануўся і пашоў у хату.

— Дзеду, а дзеду, ты не паехаў?

— Не, панюхна. Вельмі-ж вашае шчаўе смачнае, дзякуй вам.

— Ці не пасобіць што?

— Гэта я йду цыбулі ўшчыкнуць на затаўку, кашу паліць.

— То я вам ўшчыкну цыбулі, мая панюхна.

— Ты мне, дзеду, не памочнік, а я табе ня панюхна.

Чарнаваты ўшчыкнуў бараду.

Гаспадыня, ведаючы, на што ён намякае, пачала адгаварвацца:

— Табе, дзедка, ехаць пара.

— Але, гаспадынька, дарога дальняя.—

Чарнаваты прылажыў далонь, памераў сонца і калупнуў лапцем зямлю. Такая дарога дальняя, што боязна кратацца.

— А ты кратайся.

— Ці вы сьнедацьмеце?

— Сьнедацьмем.

— От-бы дзякаваў богу й вам, каб далі што.

— Няма чаго даць.

— Я-б вам памог што. Гэта нічога, што я стары і што мая костка маленькая.

— Пашоў-бы ў другую хату паказаў сваю костку.

— Ой, божа-ж мой, божа!

— Ты ня божкай, а едзь!

Чарнаваты яшчэ раз калупнуў лапцем зямлю і адступіўся маркотны.

На дварэ гаспадар дому мазаў дзёгцем калёсы.

Каля сьвінуха тузалася прывязаная за ногу курыца і бесьпярэстанку квактала, настабурчыўшы пер'е.

Кучаравы хлопчык глядзеў то на тату, то на квочку, пасьля надумаўся, занёс квочку і пакачаў яе ў лужыне ля калодзіжа, прыгаварваючы:

Квочка, квочка,
Курыная дочка!..

— Не мачы, сукін сын, у яе галава балець будзе!

— Тата, чаму ты завеш мяне сукіным сынам? Я-ж—твой сын.

...Квочка, квочка,
Курыная дочка!

Ен прывязаў курыцу назад да сьвінуха і радаваўся, што яна мокрая.

— Я табе дзёгцем язык памажу, каб дарма не целяпаўся. Чаго дурэеш!

— Ты лепей, тата, калёсы памаж, а на язык ня псуй дзёгцю, ён у мяне і так добра круціцца.

— От, дзіця, от дзіця!

— Пачакай-жа я табе зараз накручу!

Гаспадар падышоў, ухапіў яго за вушы і павёў у хату.

— От я вам скажу, пане-гаспадару, у вас разумны сынок, дасьціпное дзіця, то вы яго за вушкі не бярэце, не бярэце, можа, бог дасьць, пісарам будзе, а то, усё ў божых руках, паглядзіце, і старшынёю. У мяне гэтакі быў, то, хваліць бога, дзьве клясы скончыў і прашэньні сам пісаў, а як ударыла японска вайна, то пагналі на край сьвету. Палажыў там галоўку...

Чарнаваты цяжка ўздыхнуў і абыйшоў кругом воза:

— А мой гаспадарочку, як-жа ў вас дзёгцю многа. Каб гэта вы мне квачыка далі, я-б вам памазаў і сабе. Зусім буксы перагарэлі, няма таго ходу, а дарога дальняя, калі вашая ласка.

Чарнаваты падняў воз і пакруціў з захапленьнем кола.

— Куды ж гэта вы мяркуеце сёньнешнім дзянёчкам?

— Паеду праўды шукаць.

— Вось як?!

— Ды так, рэквізыцыя на сяле была на каровы, то й маю прыхапілі

— А як з платаю?

— Як з кароваю, так і з платаю.

— А вы, мой гаспадарочку, не пакладайцеся, яно вам павінны квіток такі выпісаць, каб усё па форме. Трэба, каб уважылі беднасьць. Вы прасецеся, то мо' вам зьвернуць. Я таксама, але дзякуй богу, атрымаў пропуск.

— Ну, то на квач, памаж!

— Але, але, дарога дальняя!

Адчыніліся сенцы і адтуль, як з сялёдаўкі, навылазіла дзятвы: у майтках, у спаднічках, у споднім, адно нават у кажусе: само малое, а кажух вялікі, дык ня відаць было хлопчык, ці дзяўчынка.

Яны пабеглі ў сад і там пачалі крычаць:

Ясцэ Польска ня згінэла!..

Кучаравы трубіў у кулак і кіраваў за рэгента, рухавы, як вавёрка.

...Яшчэ Польска!
...Ясцэ Польска!

— А-а-а, у-у-у!—раўло дзіцянё ў споднім, перакінуўшыся дагары.—

— Я хацу ў сад. Яны без мяне сьпяваюць Польску.

— Мама-а-а!..

— Што гэта яшчэ за мазур-танцы такія?

— Трахім, ты чаго глядзіш!

— Ціха, каб на вас упадкі! Наце!

— І мне, і мне!..

— Хто паесьць цыбулі, таму ня дам картаплянае кашы.

— Касы, касы!

Абганяючы матку, дзеці рынуліся назад, суняўшы і крык свой і плач.

— А гэта, ведаеце, яшчэ вельмі добра, калі картоплі маеце,—заўважыў Чарнаваты ліслíва.—

— Дзеткі кашкі пад'ядуць. Камячок са сиваркамі, альбо з цыбулькаю гэтак смачна!

— Картопляю ды зельлем толькі й душымся.

— Хваліць бога й за гэта. Зелейка ды картопелька—божы дар.

Чарнаваты мачаў у мазьніцу і ўсё квэцаў і ўсё квэцаў:

— За вашае здароўе мой воз дзёгцю нап'ецца.

— От, пане-гаспадару, выратавалі мяне!

„Чужым дабром сваё ладзіць. Так і мажа, так і мажа, храновіна старая!"—і, ня выцерпеўшы, гаспадар адабраў квач:

— Годзі, годзі!

Чарнаваты даквэцаў трэскаю.

— Ці вы, пане-гаспадару, пасьнедалі? Мабыць, не?

— Не,—адказаў той, бразнуўшы возам.

— То пасьнедаем разам.

Адставіўшы бараду, Чарнаваты бадзёра паглядаў на гаспадара:

— От можа, бог дасьць, зьвернуць карову.

На асмуглым худым гаспадаровым твары дрыгнула жылка і паклаўся цень:

— От што, дзеду, калі дзеці ўсяго не паелі, будзе й табе камяк, толькі ня рэж ты без нажа маё сэрца. І так яно парэзана, без цябе пастараліся. Едзь ты шчасьліва, да свае хаты, і там жыві, як хочаш. Не магу я бачыць гэтага твайго дагаджэньня.

— Чуеш, не магу я бачыць, як ты гэта, стары такі, а, як пстрычка якая, каля носу круцішся, у вочы мне зазіраеш.

— Я-ж табе ня дурань, я ведаю ўсё.

— Ведаю, што ты есьці хочаш. Ведаю, што ніякі чорт мне каровы ня зьверне. І ня лёгка мне ўсю тваю гэту гаворку слухаць і ня люблю я, калі мяне цешаць. Эх, як ня люблю!

Гаспадар прышчаміў атосы, пазатыкаў колы і павёў Чарнаватага.

— А мой гаспадарочку, гэта-ж вашая ласка, а вы так!..

— Ці-ж я?

— Ды я й так паеду, ня сьнедаўшы.

— Каб мне заўтрашняга дзянёчка ня ўбачыць, калі я!..

— Божа-ж мой, божа, гэта-ж я...

Гаспадар павярнуўся, трымаючы клямку:

— Кажаш, каб па форме квіток. Навошта мне той квіток! Карова мне трэба, а ня квіток. Чуеш, ня квіток, а карова. Мае дзеці галадуюць—карміць я іх квітком ня буду.

— От выбіраюся, сам ня ведаю куды. Думаеш, весела мне гэта? Думаеш, весела? Кожны аб сабе дбае, дзеду. Ты аб сабе, я аб сабе. У кожнага свая бяда. І ня трэбу слакатаць пяты таму, хто... можа з вісельні імі дрыгае.

Чарнаваты ўтуліў бараду і стаяў прыбіты, прыніжаны:

— Горныя вашы словы, пане-гаспадару. Каб я не дваждаў заўтрашняга дзянёчка, калі я!..

— Бог дасьць...

— Даў мне бог дзесяцера дзяцей і яшчэ, мабыць, дасьць. Жонка і хворая і плодная, ходзіць, як гарбуз. Затое ў хляве ў мяне вецер сьвішча. Чуеш, дзеду!

— Абы вы ня сьвісталі, пане-гаспадару!

Чалавек жыве спадзяваньнем, павінен тузацца.

— Дзеду, дзеду, сівая барада твая, кормяць цябе, а мяне, брат, ня кормяць. Ня сьвішчу я, дзеду, чуеш? Мною сьвішчуць.

— Я... затузаўся.

— Божа-ж мой, божа, які сьвет настаў! Як бонба.

— Маўчыць, маўчыць душа, а тады як прарвецца!..

— Эх эх-эх, пане-гаспадару!

... Ку-ка-рэку!—засьпяваў певень.

У хаце гаспадыня таўкла качалкаю бульбу. Вялікі шчарбаты чыгун духавіты і парны, красаваўся на ўслоне. У печы скварылася зялёная цыбуля.

Чарнаваты памаліўся і сеў.

Яму далі гарачы камяк, сьлізкі, ліпкі, як сьлед недатоўчаны, і такі кіслы, што прышлося каўтаць не смакуючы.

Вадкая бульба захрасвала ў горле і распаўзалася па зубох, як жабурыньне.

Чарнаваты памагаў пальцам і, забрудзіўшы бараду, сказаў нясьмела:

— Картопелька, дзякуй богу і вам, як мядок!

— Спажывай здароў!

— От укусіў картопелькі з вашае ласкі, хай бог пашле вам долю добрую!

— Бывайце, мілыя людзі!

— Кацiся, дзеду!

Чарнаваты абцёр бараду, перахрысьціўся, вышаў, запрог каня, сеў на воз і патарабаніў.

Пыльная сельская вуліца, прасторная і глухая, раздвоіўшыся за плошчаю, віламі ўторквалася ў балота.

На абсыпаным, пакапаным узгорку, паўз які пралягаў тракт, між дрэў сінела царкаўка.

— „Госпадзі памажы!“—супыніўся Чарнаваты.

„На горы божы дом, а я пад гарою“,—і, скінуўшы брыль, доўга, доўга шаптаў малітвы.

Ён памянуў і сябе, і сваякоў, і тых, хто плавае, і хто езьдзіць, і калек, і нябожчыкаў і ўсіх і ўсіх праваслаўных хрысьціян.

Колькі сонца было, колькі мяккасьці ў вольных павевах ветру у пругкім буяньні расьлін, у звоне жаўранкаў, што, як стрэлы, узьляталі з палёў і сьмяяліся і аплаквалі там любоў сваю.

І лес і гай, падружыўшыся між сабою, узаемна пасплятамі маладое вецьце і лісьцяны ўбор свой распасьцерлі ў адзін бяскрайні смарагд. Ні шолаху, ні крыўды, ні разлукі!

„Каб хаця не зашкодзілі гэтыя картоплі!"—занепакоіўся Чарнаваты, мацаючы жывот.

---

Таго-ж дня ён быў каля фронту.

Ён ехаў адкрыта трактам, мяркуючы дзе-небудзь на вёсцы перачакаць бойку і, як усё ўляжацца, міне навала, выбрацца ў свае Прыточы.

Па дарозе ішлі два жаўнеры.

Адзін нёс каваны жалезам куфэрак, другі начапляў на сябе розных мяшэчкаў, торбачак, пакункаў і здалёку нагадваў вясковага крамніка.

Абодва пры карабінах і цесаках.

— Стой, чалавек!

— А паночкі мае!

— Ты куды?

— Нікуды, паночкі! Я гэта, як адпушчаны абозьнік, то маю права

— Еду, значыцца, дадому. Вось і пропуск.—

Чарнаваты выцягнуў з-за пазухі крыжык і адвязаў скамечаную паперку.

— Які там пропуск?

— От ён, мае любыя!

— Замарыліся, як бачу, йдучы, дарога дальняя!

Чарнаваты ветліва пазіраў на жаўнераў:

— Як вока, мае любыя, хаваю. Вы пачытайце!

Жаўнеры разгарнулі паперку, пачыталі і аддалі назад:

— Вярні аглоблі!

Чарнаваты ня кратаўся з месца і глядзеў, вытрашчыўшы вочы.

— Чуеш ты, аглух? Круціся!

— А паночкі, а любенькія, як-жа гэта? А пропуск?

— Накруці яго сабе на бараду!

Жаўнеры паўскідалі клункі, паселі і самі пагналі каня, тэрорызаваўшы Чарнаватага.

— „От, мой божа, які сьвет цяпер, як бонба! Эх эх-эх, мая долечка!"

Чарнаваты скурчыўся ў перадку і з роспачы пачаў махаць пугаю.

Праехаўшы вёрст пяць, жаўнеры пашапталіся, схапілі Чарнаватага за плечы і шпурнулі ў роў.

— А-я-яй! А бо-жачка!..

Чарнаваты кінуўся за возам:

— А паночкі, а любенькія, а добранькія, а міленькія, а харошанькія, а зьвярнеце ўвагу на маю старасьць, а зьлітуйцеся на маю беднасьць! А гэта-ж мой конічак, пацеха мая адзіная, усё маё багацьце!

— А ня жыць мне без яго, ня жыць! Чаго я цяпер варты? А мае жаўнерыкі дарагія, добрыя, а нашто-ж ён вам? А як-жа мне цяпер дадому паказацца?

Міленькія мае, рукі цалавацьму, аддайце!—

Чарнаваты ўчапіўся за лёсткі і хацеў ускочыць на воз.

— Пашоў прэч!

— Родненькія, любенькія, жаўнерыкі дарагія, рукі цалавацьму!..

— Пацалуй зямлю, дзед!

На яго наставілі карабіны.

Тады Чарнаваты выпусьціў лёсткі і яго адкінула колам.

Ён упаў на дарогу і ляжаў там бяз гуку, цалуючы пыл.

## 11. Вàзон навукі

Ад фальварку да мястэчка Дабрагост—гадзіна ходу.

Там быў касьцёл сьвятое Барбары з готычнаю вежай, прыгожы прасторны бровар і школа, імя Тадэуша Касьцюшкі.

На фронтоне школы—белы арол высока мастацкай работы, пілаваны з фанеры ўласнаручна панам Зыгмунтам Бабінскім.

Пан Зыгмунт паднёс яго ў дар на адчыненьні пасьля доўгай прамовы, якую, ускінуўшы дагары далонь, скончыў так: „Ото вáзон навукі для малых дзеці! Нех сьвента Барбара опекуе тэн вáзон!“

Амарантовы сьцяг, заткнуты ў слухавое вакно, вісеў урачыста на даху. З прычыны адсутнасьці вучняў у школе спынілася жандармэрыя.

Вакол будынку, як Марс вакол Сонца, кружыўся вартавы. Ён лічыў сам сабе „раз-два“ і нудзіўся.

Па вуліцы хадзілі жаўнеры кучамі і чуваць было грукат капыт, і рыпеньне варот, і муканьне, нагнаных на зарэз, скарбовых кароў.

— Ото хамская морда, як мядзьведзь!

А ну, паддай!

— Хутчэй, пся маць сабача!

Зьвязанага Латаша ўвялі ў школу.

У пакоі, прызначаным настаўніку, якога меліся выпісаць з Варшавы, за сталом на зэдліку сядзеў высокі афіцэр.

Пакой быў амаль парожні: у кутку тапчан, а над ім пара алейных малюнкаў з біблійнага альбому (дары пана Зыгмунта)—цар Давыд грае на гусьлях і ўваскрошаньне Лазара; на тапчане стос вінтовак; на сьцяне гарапнік і гадзіньнік.

Падпёршы рукою вуха, афіцэр пісаў адозву да насельніцтва:

... Кожны жыхар павету, кожная гміна, кожны кмётак мусяць прыкласьці стараньне да выняцьця забойскіх банд з лясоў і нетраў

нашых. Ваяўнічая бронь даўняга і новага часу зносіцца да комэндатуры безадкладна.

За аслушэньне кара сьмярцёва, вянзеньнем, а таксама іншая па меры злачынства.

Кожны жыхар павету, кожная гміна, кожны кмётак, хай перакажуць гэты наш чацьверты і апошні загад прыяцелям сваім, а таксама суседзям паводле свайго шчырага жаданьня, сумленьня, і пад страхам кары.

Начальнік жандармэрыі Тхуж.

— Пане паручніку, ото бандыта!

— Бандыта? Падаць!

Афіцэр павярнуў галаву. Быў ён голены, стрыжаны і меў шэрыя пустацьветы—вочы:

— Хто такі?

— За зьневажэньне ўлады арыштаваны праз пана капітана Непакайчыцкага на гарачым учынку.

— На гарачым учынку?

— Так, пане паручніку!

Афіцэр палажыў перад сабою чысты аркуш паперы:

— Імя?

— Андрэй.

— Па бацьку?

— Іванаў.

— Пся крэў, трымаць яго! Не налазь на стол!

Значыцца, на гарачым учынку?

— На гарачым учынку.

— Прозьвішча, пся крэў?

— Латаш.

Занатаваўшы формальнасьці, афіцэр пагладзіў свой стаўбунаваты чэрап, пагладзіў лоб і шызыя скроні, палажыў на паперу гарапнік і мякка хруснуў пальцамі:

— Мне вельмі няпрыемна, вельмі няпрыемна! Але ты ўсё парадкам Раскажы, як было! Парадкам, парадкам, котэк!..

Латаш маўчаў.

— Ты ня бойся! Я табе ня вораг. Я цябе можа нават адпушчу, бо маю любоў да чалавека, хто-б ён ні быў. Калі хто кажа праўду, то я веру, котэк. Ну?..

Гэта, што ты там нарабіў, гэта бывае, гэта з усякім бывае, і можа нават ня прыдзецца цябе караць за гэта. Думаеш, у кары справа? Думаеш, я ня маю сэрца? Ну?..

Мне вельмі няпрыемна, вельмі няпрыемна! Ты ня бойся! Парадкам, парадкам, котэк!

Латаш маўчаў. Быў ён падобны да зьвера, які сам увайшоў у клетку, заблудзіўшыся на волі.

У цеснай пацёртай сьвітцы ён стаяў ля стала багровы і глядзеў на біблійныя малюнкі, на афіцэравы пальцы і на гарапнік.

— Гэта на мяне гарапнік?—кіўнуў ён на стол.

— Што ты, котэк? Расказвай!

— Што я вам буду расказваць? Няма чаго расказваць.

— Пане паручніку, ён папусьціў цэглаю. Злоўлены на гарачым учынку.

— Хочаш кулі, котэк!

— Беце! Не баюся вас!

— Які нецярплівы! Яшчэ паб'ю, пасьпееш.

— Беце!

Афіцэр уздыхнуў:

— Няма апэтыту. Пачакаць прыдзецца.

— У-гу-гу-гу-гу!..—паслужна зарагаталі канвойныя.

— Прызнайся, выпушчу!

— Што мне прызнацца?

Афіцэр памахаў гарапнікам:

— Што ты бальшавік, бандыта!

Латаш маўчаў.

— Прызнайся!

— Што мне прызнацца?

— Што ты мяне любіш, бальшавіцка юха!

— Я вас люблю, пане паручніку, так люблю, так люблю... Можа рукі разьвяжаце?

— З цябе быў-бы пекны партызан!

Шырокія Латашовы грудзі падняліся і ўпалі:

— Канчайце! Ні ў чым я не вінаваты.

— Ну што-ж, кончым!

Афіцэр хруснуў пальцамі:

— Будзеш у пекле партызанам, д'ябэльскае мяса!

Афіцэр ляснуў далонямі і падняўся, перакінуўшы зэдлік:

— Ачысьціць тапчан!

Тапчан адцягнулі, вінтоўкі прыбралі, дзьверы замкнулі і ў настаўніцкім пакоі стала зусім ціха.

За шырокім акном віднелася бяроза. Зьвесіўшы свае доўгія розгі, кучаравая, яна гарэла і вяла на сонцы.

Бліскучыя акрайкі хмар павольна плылі па ветры, плылі на лес і раставалі, як шума, за небасхілам.

Вартавы падышоў да вакна, абцёр лоб рукавом, чыхнуў і прымасьціўся пад бярозаю.

Праз калідорчык у клясе бубнілі пасаджаныя на адвахту жаўнеры.

Гадзіньнік татакаў, татакаў...

Латаш скамянелы стаяў пасярэдзіне пакою і ні адна драбніца ня мінала яго, урэзвалася ў сурова адкрытую памяць лёгка і вечна: „У Лазара пялёнкі... Як гэта можна спавіваць дарослага чалавека...

Шмат вінтовак рускіх аднекулв назвалакалі... Ня ўсе спраўныя... Тапчан... Прасторны тапчан... Добра біць на прасторным тапчане... Вартавы пад бярозаю цікуе чым людзі жывы...

От так, так!..“

І Латаш адчуў віну.

Яму стала брыдка. Ён шмат чаго бачыў, шмат чаго знаў, гаварыў і раіў, працаваў і на зямлі і рабочым, і перанёс многа, і хвалілі яго, але тут перад самім сабою і жандарамі пахваліцца ня было чым: ніхто не кіраваў яго сілу і ён раскідаўся ёю, прападаў дарэмна, хоць ведаў чаго шукаць.

„Хто церпіць за справу, а я?.. А я здуру!“—падумаў ён горка і гнеўна.

Яго пакацілі на тапчан.

— Расшпіліць сьвітку, задраць сарочку!—

Афіцэр хруснуў пальцамі і ўзяў гарапнік.

Сьвітку расшпілілі, сарочку задралі.

Латашовы лапаткі, як жорны, прыдавілі тапчан.

— Бі ў жывот!—

Афіцэр перадаў гарапнік канвойнаму.—

Ня так! Я сам! Ня ўмееш, сморк!

Губы афіцэра скрывіліся, як дохлыя сьлімакі:

— Ня так!

Афіцэр ударыў...

Латаш захрыпеў, ірвануўся ўсімі мускуламі і вылузаў рукі.

Ён падняўся ўвесь у крыві, схапіў афіцэра за горла і шпурнуў, як трэску, даў кулаком у раму, высадзіў акно і з громам зваліўся на вартавога, лёпнуў яго аб бярозу і пабег і пабег не сваёю сілаю...

Перад ім зелянеў лес.

... Трах, тах, бах!..

— Лаві бандыта, лаві бандыта, лаві бандыта-а-а!..

## 12. Памятка

... Вву-у, вву-у!..

... Та-та-та-та-та-та-та-та-та!..

Ранены месяц паблядне́ў і сканаў. Нарадзілася чырвоная раніца: пурпурам, золатам запаланіла прасторы, магутным роскатам страсянула неба,—і ў нявымерным надужыцьці сіл бяз хістаньня ўзьнялося сонца.

Любыя, дарагія, зазюзюкалі звонкія птушкі, зашумелі, утуруючы, дрэвы.

... Піць, піць-піць!.. Цю-і, цю-і-і!.. Чок, чок!..

... Вву-у, вву-у, вву-у!..

... Га-ах, га-ах!..—зараўла зямля.

Як шэрая пошасьць, хлынулі на мяккіх шынах паўзучыя бранявікі, і гарачае волава пралілося крывавай навальніцай.

... Ззз!.. Ззз!..

Людзі рвалі і рваліся аб калючы дрот, ранялі гранаты, як мячыкі, дзяўбліся штыхамі і пікамі, бароліся, біліся, паміралі, разьятранай зграяй самкнёных цел нападалі адны на другіх і натхненна цалаваліся жалезам.

... Марш, марш, Дамброўскі,
Марш, марш, да Польскі!..

... Ура-а-а-а!..

Салабута пакаціў каня ў глінішчах і прыкінуўся забітым.

„Пранясіся навала!“

Ня чулі вушы, ня бачылі вочы.

Чалавек і конь мелі адно жаданьне, адзін страх—уцалець.

Салабута туліўся да Ваські і трымаў яго за шыю, каб той ня ўстаў.

Хвіліны цяклі гадамі.

— Гадуноў, Гадуноў, братва, сюды, сюды!

— А?..

— Здаецца, забіты.

— А мала тут, чорт, забітых, чаго вароніш!

— Конь, здаецца, жывы.

— Што?

— У яме тут, жывы.

— А ну што там, які чорт, ну ды ладна!

— Брацішка, уставай!

Салабута млява падняўся. Вакол ясны дзень. На краі глінішчаў стаяць два чырвонаармейцы: конны і пешы.

— Добры дзень, таварышы!

— А мы думалі ты забіты.

— Не, жыў. Добры дзень, таварышы!

— Ты чаго тут?

— Ад бою ратаваўся.

— Дурак! Я паеду, Стэцэнка, а ты пагавары з ім.

— Пачакай!

— А ну цябе!

Ура-а-а-а!..

Конны чырвонаармеец паскакаў так, што аж пыл закурэў.

— Ты хто будзеш?

— Ой, гэта-ж я пайду цяпер, куды хачу.

Васька, а ну! А ну, падла, разьлежаўся, каб ты здох! А ну, дубіна!

Дзякуй табе, брацішка, гэта-ж у мяне ёсьць такі самы сын чырвонаармеец, як ты. Гэта-ж я зажыў цяпер.

— Што, крута прышлося?

А каб ты ведаў.

Салабута таптаўся, як жэўжык, як блазен, задыхаючыся ад радасьці. Дабрадушны чырвонаармеец шырока, раставіўшы ногі, чуць-чуць крываваты, у сініх задымленых портках, меднатвары і круглы, паглядаў на яго з абрыву, насьмешліва трымаючыся за пояс. На ім ляжала пахучая цяжкасьць стомленага юнака і цёплае хараство гарачага мужнага ваякі. Аграмадная шашка, упёршыся чуць не пад самую паху, нязграбна скраблася па зямлі і замінала яму. Кароткая вінтоўка абвісла за плячыма, перавязанымі парожняй патроннай істужкай; гімнасьцёрка прыліпла да грудзей.

Ён ціха пагойдваў шашкаю.

... Цю-у-у! Цю-у-у!..

... Та-та-та-та-та-та-та!..

... Таку-таку-таку-таку!.. Та-тах! Та-тах!..

... Ать-два, ать-два!..

Высока над галавою ў сінязорым паветры завіваліся клубамі дымкі, пранізваліся агнём і плылі сьнежнабелымі хмарамі—п!

Глінішча поўнілася рэхам.

— Ну што-ж ты, носа даў шляхце?

— Ды, як табе сказаць, таварыш, наслужыўся. Хай яны, брацішка, сваім гонарам табе ножкі мыюць, дзякуй табе!

— Пры якой часьці служыў?

— З пазнанцамі цягаўся, таварыш. Як іх там: пазнанцы, галерцы, пілсудцы, ці як у іх там, усё на чыкі-чыкі.

— А ты сам хто будзеш?

— Прасіўся нанач да хутаранца, то брадзягай назваў, а дасі паляку масла, яек, то цябе прыкладам перыць, з роднае вёскі жыўцом забірае і бізуном смаліць. Я, брацішка, такі самы, як і ты, пралетарыя дзеравенская.

А ты сам, мабыць, з Сібіры?

— Я—украінец.

— А я тутэйшы.

Маеш закурыць, брацішка?

— Не, ня маю.

— А, упрочым, ёсьць.

Чырвонаармеец грузна саскочыў у глінішча, паглядзеў падазрона на Ваську і дастаў з кішэні шчопць нячыстай махоркі:

— Куды табе цяпер ехаць?

— А вярстоў, мабыць, дзьвесьце, от куды загналі. Як там дабяруся сам ня ведаю.

Быў у мяне воз, таварыш, новы, на жалезным хаду, панарад справіў такі, што лялька, дык той мой воз, таварыш, гакнуў. Дзе тут з возам, хаця-б з канём, ды хаця-б душу тую гнілую вынесьці.

— Гарны конь.

Чырвонаармеец спрытна схапіў Ваську за морду і паглядзеў у зубы:

— Ой, які стары конь!

Гарны конь, гарны конь!

— Няма цела. Зьбіўся з цела, таварыш.

— Фігурны конь!

— І будзе фігурны, бо гэта яго фігура от дзе сядзіць,—Салабута горда ткнуў сабе ў грудзі.—

Гэта ўся мая акраса. Калі хочаце ведаць, зладзеяваць прышлося. Украдзь аўса, але дай. Порцыю сваю дзяліў, апошні хлеба кавалак. Але дарога, дарога, таварыш. Хай яна проклята будзе, насільная дарога!

Ты ведаеш, брацішка, да таго змучыўся, як-бы табе сказаць, ссухарэў.

Высмакталі сок, от што.

Аднаго разу...

— А конь яшчэ гарны.

Чырвонаармеец стаяў, абхапіўшы вялікімі рукамі шашку. Салабута з любасьцю назіраў дрыжаньне жылак і рух яго пальцаў.

— От мой сын Хведар...

— А ну, ну!

— Ён слабейшы за цябе, але разумны.

Сярдзітая была бойка?

— Ат, так сабе.

— Мабыць-жа народу палягло—а-яй! Нясуць людзі галовы, як гарбузы, а сыплюць, як мак.

— Сыплюць, таварыш...—

Чырвонаармеец уздыхнуў, хацеў яшчэ нешта сказаць, нахмурыўся і выпусьціў шашку.

— Навошта тое пекла, калі цяпер на зямлі пекла.

Чырвонаармеец думаў.

— Як кажуць, і ў пекле пекне, а тут як каму. Ссухарэў я, брацішка. Мо' яшчэ дасі закурыць?

— На.

Чырвонаармеец вытрас кішэню.

— Курэц я, брацішка, заядлы, люблю курнуць.

— Оцэ гарно, а выпіць?

— Не, бо мой бацька быў п'яніца, то я ня ўжываю.

Чырвонаармеец пільна глядзеў на Ваську.

— Што, разумны конь?—запытаў задаволены Салабута.

Чырвонаармеец адказаў нехаця і рэзка:

— Я, таварыш, пры паходзе на Слупавічы, пяць вёрст адсюль, загубіў свайго каня. Быў конь Мэтэліца, ездавы конь, біс, а ня конь, стэпавік. Яму асколкам рассадзіла бруха. Мусіў загубіць. Куляй у вока, каб ня бачыў доўгае сьмерці. Оцэ я зараз пешы кавалерыст. Эх, Мэтэліца!..

Нездагадлівы Салабута зразумеў усё. Як бацян, стаў каля Ваські і кінуў папяросу:

— Таварыш, я каня ня дам. Мне мой конь дарагі. Мне ён кроўю прышоўся. Ты, брацішка, забіраць ня думай: сам ведаеш, што значыць конь. Калі гора табе, дык не рабі гора мне.

Чырвонаармеец насьмешліва і хмура церабіў пояс:

— Чаго спужаўся! Ня буду браць твайго каня.

Вінаваты Салабута моцна патрос яго за руку;

— Дзякуй, брацішка! Ты—мой збавіцель.

— За што дзякуеш? Хіба я цябе збаўляў.

— Ї ты, і вашы, і Чырвоная армія. Мы цяпер зажылі, брацішка. Я дадому паеду. У нас там яблыкі сьпеюць, грушы-сапяжанкі.

— Эх, Мэтэліца!...

Чырвонаармеец нясьмела палажыў шырокую далонь на Ваську, шыбка лясвуў ёю і забіў авадня.

— Ты знаеш, таварыш, кавалерысту без каня ня добра, праўда, ня добра.

— Гэта я знаю.

— От, каб у мяне два было, аддаў-бы табе аднаго.

— Ат, што гаварыць. Быў у мяне свой конь.

— Ї, кажаш, у вока?

— Каб ня любіў-бы, то не застрэліў. Усёроўна, як сам сябе застрэліў. Я бяру вінтоўку, а ён і голаў падвярнуў, каб ямчэй.

— Ой, не кажы, не кажы!

Салабута замахаў рукамі.

Я разумею тваё гора, але чым-жа я табе памагу, брацішка. Не аддам-жа я табе свайго каня.

— Та я й не бяру.

Чырвонаармеец нерашуча гладзіў Васькаву шыю:

— Та якэ-ж я права маю браці чужога каня.

— От, брацішка, адразу відаць, што ты—чалавек. Бо другі ня пытаў-бы права.

— Та якэ тут права! Мае баштаны дома варагі патапталі, та ‘шчэ й насьміяліся. У мяне ў грудзях боль кіпіць. Я сэрца маю. От-жа, сэрца ня дам стаптаці, на волю ня дам пляваці. Будзе нам вяліка бітва, але здолеем.

Эх, Мэтэліца, ясныя твае вочы!

Чырвонаармеец так прыцісвуў руку да Ваські, што той адсунуўся.

У мяне сястра ёсьць, так ёй махноўцы гвалт учыніць хацелі, так яна сама таго махноўца касою зарэзала, так яны за косы цягалі, а яна землю грызла—паміраць не хацела. Так я-ж не дарую!

Та яна-ж краля была, подступу ня было, як зьмеі косы чорныя,— жыці хацела! Та няма сястры мае! Та я-ж не дарую!

Таварыш, дай мне каня!

Салабута захінуў халат і выпрастаўся бледны:

— Не магу, брацішка!

Чырвонаармеец адышоў і стаў паводдаль.

— Брацішка, не карай мяне, пашкадуй мяне адзінокага ў чыстым полі! Я век патолі ня ведаў. Слабы я.

— Та я свайго бацька маю, 'шчэ ўсі жыці хочуць.

— Брацішка, любы мой брацішка!..

Дзямян Салабута задрыжаў, як ліст, кінуўся да Ваські, галавою ў жорсткія рэбры, і зарыдаў нястрымана.

Харчаваў я цябе, мой конік, жарабяткам, а цяпер паглядзі, як я, зьвекаваўшы, плачу...

Ён павіс на кані, рваўся і ня бачыў сьвету:

— Навошта мне мае жыцьцё, брацішачка!

Ідзі сабе, прабач маё паніжэньне, ідзі сабе!

Чырвонаармеец падышоў і паважна ўзяў Салабуту за плечы:

— Ты чаго разьмяк, таварыш?

— З жыцьця зьбіўся.

— Нічога, будзе новае.

Яны пазіралі адзін на аднаго, нейк шчыра пагадзіўшыся, двое далёкіх чужых людзей, задумліва і засмучона.

— Яжджай здароў!

Не памінай ліхам!

Бывай, таварыш!—

Чырвонаармеец хутка падняўся на абрыў і пашоў, не азіраючыся. Цьвёрдая постаць яго са звонам калыхалася па дарозе.

Салабута замітусіўся і раптам пацягнуў Ваську:

— Пастой, пастой!—закрычаў ён спустошаным голасам.

Чырвонаармеец вярнуўся ня скора.

— Ты што, таварыш?

Салабута падвёў Ваську:

— На, вазьмі майго каня!

— Я не вазьму.

Салабута ўсунуў яму повад:

— Вазьмі, брацішка! Прашу цябе!

Чырвонаармеец ніякавата таптаўся:

— Не шкадуеш?

— Шкадаваць буду, калі ня возьмеш.

Чырвонаармеец асьцярожна пагладзіў Ваську, зьмерыў поглядам заклапочанага Салабуту, адступіў поўкрока і лёгка сеў верхам.

Твар яго азалаціўся сонцам. Салабуце пад ногі лёг ценярыс.

— Хай і мая памятка, паможа табе!—пажадаў Салабута скромна.— Бывай, таварыш!

— Бувай, тато... мій рідний!—адказаў той мякка і глуха.

Кавалерыст паехаў шпаркім бегам. Аграмадная шашка яго зграбна прыстала да Ваські.

Зьняўшы шапку, Салабута стаяў нярухома з вачамі поўнымі сьлёз. На чорных скронях серабрылася сівізна.

„Цяпер я вольны, вольны, іду дамоў вольны, вольны! Ніхто не папракне, не пазайздросьціць“.

... Чок, чок! Цю-і-і! Ту-туі-і-туі-тау-у!..

... У-у-у! У-у-у! У-у-у!..—канала расстрэляная зямля.

*(Далей будзе).*

## ГОРАД НЯ ТОЛЬКІ ГОРАДАМ МАЛАДЫХ САМАГУБЦАЎ

**С. Ліхадзіеўскі**

*(З накідаў новай поэмы [1])*

Находзішся за ўвесь дзень
І ногі да болю здраньцьвеюць...
І млосна на сьвет глядзець,
на сэрцы адчаю завельмі.

Ня бачыш і шляху свайго...
І голад няспынна рупіць...
Загоніць краіна свабод
у чэргі па лыжку зупы.

Скачы пад зазыўны чарльстон,
Дзівіся на тыя забавы...
А хочаш—у хвалях стом,
ляжы, скрыгачы зубамі...

Бяз працы прыходзіш дамоў,
хоць рукі на многае здольны.
Ды радуйся, хлопча мой,
што дні каратаеш *вольна*.

Намацаюць пальцы курок,
пятлю адзяюць на шыю.
Зрабі для сябе дабро,
а ўбёраў жалобных нашыюць.

Ды хто так пасьмеў сказаць.
што ў гэтым адзінае выйсьце?!
Ня нам той нікчэмны азарт,
ня нам і бясьсільля высьціл.

---

[1]) Поэма побач з малюнкамі работы комсамолу Краіны Саветаў дае малюнкі работы й барацьбы комсамолу капіталістычнага заходу на фоне жорсткай эксплёатацыі.

І ноч расстаўляе сутонь,
джэнтльмэны ідуць вячэраць...
І вее нязнанай жудой
з вачыма упалымі чэрап.

Маланка дае зігзаг,
раскладзены накрыж дзьве косткі.
Крані... І растане вокзал...
І ток, як на крэсьле, скосіць.

І стыне, стаіць трансформатар,
захочаш—і сьмерць разьмяркуе...
І прагнуць агню казэматы,
і чырвана сьвеціць Мэркуры.

... І чэрап скрывіўся ўміг—
яму небясьпечна й самому:
расклеен пад ім дынаміт,
якога і зьняць ня могуць.

Ня толькі-ж павіснуць тарчма
тэй сіле ў сутоні чорнай—
між імі-ж і тэхнікаў шмат.
і добрых, ліхіх манцёраў!

А ноч рассыпала мроі.
Чыталі, як стала днець:
„Салдаты! Рыхтуйце зброю!
Салдаты!
Вайна—
вайне!“

Лiпень, 1931 г.
Бабруйск.

## ПАНТОМІМІЧНЫ ГЕСТ

**Зяма Півавараў**

Россыпамі літараў
папера ўвабрана,
Мозак узрушан
нясьлінянымі ямбамі.
Што гэта?
Гісторычная панорама,
Расквечаная тлустымі
фарбамі?
Друкуй рубільнікам!
каб сьвятла болей!
Замала сонечнага
сьвятла для нас,
Рух трымаць
не па крывой параболе,
А па зямлі,
намі ўслаўленай.
Вось яно:
рукі закасаны,—
ня шукай ратунку,
Галава ня скінецца
ад трансмісыйных
казусаў.
І...
сэрца,
здэцца,
выскачыць
прастрэленым ладункам—
радасна.
Ідзем ад Нараўскай брамы
ды на вуліцу Стачак,
на штурм,—высокі набой.
Там, дзе колісь месяц,
як бядак,
жабрачыў.

Там, дзе
нашы хлопцы
ляглі галавой.
Туды ідзем,
дзе перабльталіся
правады антэн;
Ня вамі ўсё здабыта,
абтлусьцелыя каркі,
Гэта вам ня боская комэдыя
Дантэ
І ня сонэцікі
славутага Пэтраркі.
Бач, як жыцьцёвы карабель
распростваецца,—
Здорава навучыўся
мінаць
мелі,
А поэты пілікаюць (можа мне здаецца)—
Адчыніць-бы душ іхніх
зачыненыя
разьмеркавацелі.
Вось яно:
рукі закасаны,—
ня шукай ратунку,
Галава ня скінецца
ад трансмісыйных
казусаў.
І...
сэрца,
здэцца,
выскачыць
прастрэленым ладункам—
радасна!

Менск, ліпень, 1931 г.

# ЛІСТ ДА РЭДАКТАРА

**Ал. Дудар**

З лістом зьвяртаюся, таварыш, я да вас.
Магчыма, здасца ён вам крышку нязвычайным
Ды мо' й ня надта вам цікавы пераказ
Маіх сумненьняў і маіх расчараваньняў.
Так многа шкоднага я напісаў калісь,
Глыбока так угруз я у балотнай твані...
Супроць мінулага свайго праз гэты ліст
Я выступаю, як поэт і грамадзянін.
Калі, апраўлены ў высокія страі,
Пачатак соцыялістычных дзён заняўся,
Расталі межы у расплаўленай ральлі
І у рашучы бой на клясу вышла кляса;
Калі жыцьцё вышэй ўставала ад праграм,
І кожны мускул быў энэргіяй наліты,—
Тады з патайных нор, тады з-пад цёмных брам
Стаў вораг выпаўзаць, калісьці недабіты.
На дыбы вораг стаў, каб свой пасаг стары
Вярнуць і аднавіць, і ўваскрасіць з нябыту
Са сьцягам Вітаўта маёнткі, хутары,
І казаньні айца Касьяна Вераміты.
Каб у засьценках зноў крывавіўся абцас,
Каб для жмутка пражэр гнуў горб мільён галодных,
Каб путы бразгалі, як некалі, у нас,
Як і цяпер яшчэ у Вільні і Гародні.
Ці мала знойдзецца ў Парыжы махляроў,
Ці мала знойдзецца ў Варшаве ягамосьцяў,
Што рады б за працоўных пот і кроў
Даць місу сытую нацдэмаўскім прахвостам?!
І з кожнага кутка атрута пацякла:
З сяброўскага ліста, з вучонага дакладу...
Як пошасьць чорная, як каінава мгла,
З усіх глухіх шчылін насунулася здрада.
Хто вочы не закрыў, хто вушы меў, каб чуць,
У кім ненавісьць жыла, забіўшы лёгкавернасьць,

111

Той пільна глянуў скрозь хлусьні і здрады муць
І ўбачыў змрочны твар навалы крыважэрнай.
Самкнулася шчыльней рабочая сям'я
З працоўным сейбітам—сваім адвечным другам—
І адштурхнула ўсіх, хто вышаў у імя
І самабытнай і несамабытнай пугі.
А я, нікчэмнасьцю прываблены юнак,
Атручаны ушчэнт шовіністычнай муцьцю,
З дарогі сасьлізнуў і ворагам няўзнак
Аддаў на службу ўсё—і сілы і пачуцьці.
І ўвесь загіпнотызаваны іх маной
У маскі іх фальшывыя я верыў,
Ня бачыўшы таго, што й за маёй сьпіной
Ужо маячыць цень крывавы Бэльвэдэру.
Я зброю скіраваў сваю супроць таго,
З кім ад сьвітаньня дзён ісьці імкнуўся поплеч;
Аж гаснуць стаў у душы імклівасьці агонь
І кветкі сэрца ўсе павялі і пасохлі.
Калі-ж рашучы і руйнуючы удар
Ўсе маскі пазрываў і твары ўсе зьначыў.
Я не паверыў сам, сярод якіх пачвар,
Сярод якіх зьвяроў я сам сябе пабачыў.
Страшыдлы, касьцякі з магільнікаў старых,
Што ўжо, здавалася, даўно згнілі і зьніклі,
Як вострыя нажы бліснулі пазуры,
Забойства прагныя наставіліся іклы.
І жудка стала мне і з воч тады маіх
Упала лухта ўся, што зірк мой затуляла:
Убачыў прорву я ля самых ног сваіх,
Адчуў вакол сябе варожую навалу.
Тады я ворагам зрабіўся сам сабе
І свой прысуд цяпер падпісваю сам я:
Ў бязьлітаснай вайне, ў зацятай барацьбе
Я мушу змыць з сябе ганебнай здрады пляму.
Зноў ясны погляд мой і сэрца ня дрыжыць,
І, калі вораг зноў ўзьнясецца згубнай зданьню,
Дык у апошні бой на першым рубяжы
Я з песьняй і штыхом яму насустрач стану.
Хай полымя мастоў за мной гарыць да зор,
На бёрды новыя я навіваю ніці
І буду ткаць на іх квітнеючы узор
Нязломнай барацьбы, жыцьця і будаўніцтва.

# НАТАТКІ ПРА ТВОРЧАСЬЦЬ АНДРЭЯ АЛЕКСАНДРОВІЧА

**Мік. Аляхновіч**

*(Да дзесяцігадовага юбілею яго творчасьці)*

Пролетарская грамадзкасьць, Беларуская Асоцыяцыя Пролетарскіх Пісьменьнікаў зараз сьвяткуюць 10-гадовы юбілей творчай работы аднаго з буйнейшых пролетарскіх поэтаў БССР Андрэя Александровіча.

10 год прайшло з таго часу, калі на старонках газэты „Савецкая Беларусь" зьявіўся першы твор поэты—верш „Да моладзі".

За гады сваёй працы шмат чаго зрабіў Александровіч. Шмат новых тэм і мотываў унёс ён у нашую пролетарскую літаратуру. Творчы рост Александровіча ішоў разам з ростам нашай пролетарскай поэзіі. Шлях нашай пасьлякастрычнікавай пролетарскай поэзіі, пачынаючы з „Босых на вогнішчы" Чарота і канчаючы новай п'есай Александровіча „Напор", гэта шлях па якому, ішоў поэта. А. Александровіч шмат чаго новага, якасна адрозьніваючагася ад старой поэзіі, унёс у нашу пролетарскую літаратуру. Неабходна падкрэсьліць сугучнасьць яго поэзіі нашаму часу, часу гіганцкага росту новай Беларусі, Беларусі індустрыяльна-колгаснай. На поэтычную арэну Александровіч выступіў як акрэсьлены поэта гораду. Ён унёс у нашу поэзію новыя для яе ўрбаністычныя мотывы.

Калі чытаеш творы поэты цябе захапляе глыбокі энтузіязм і вера ў канчатковую перамогу пролетарыяту, якая крынічыць з яго радкоў. Не як староньні наглядач, а як непасрэдны актыўны ўдзельнік у нашым пасьпяховым соцыялістычным будаўніцтве паўстае перад намі поэта. Ён імкнецца зрабіць сваю творчасьць актуальна-дзейнай, адпавядаючай нашай эпосе.

Новая кніжка поэты „Вершы і поэмы", якая выйшла ня гэтак даўно, падагульняе пройдзены ім шлях. Лепшыя творы, якія ён напісаў за час сваёй творчай дзейнасьці сабраны тут. Перагортваючы старонкі гэтай кніжкі адразу кідаецца ў вочы політычная накіраванасьць, ваяўнічасьць, баявы характар асноўнай масы твораў.

Поэта, які выдаў ужо звыш 10 зборнікаў сваіх твораў (шмат якія з іх вышлі другім выданьнем), творы якога перакладзены на цэлы шэраг іншых моў, гэтай кніжкай падагульняе свой творчы шлях.

Што новага характэрнага маем мы ў гэтай кніжцы? Калі поэтычны арсэнал мінулага складаўся, галоўным чынам, з сузіраньня, любаваньня,

захапленьня—то ў творах Александровіча мы маем зусім іншыя катэгорыі адчуваньняў, іншыя эмоцыянальныя станы—актыўнасьці, удзелу ў зьявах жыцьця, іх рэконструкцыі. Наша эпоха стварае новы тып чалавека. Праўда гэты процэс перараджэньня старога чалавека і росту новага надзвычайна складаны і цяжкі, бо тут не абыходзіцца бяз жорсткай барацьбы з рэшткамі старой псыхолёгіі. У псыхолёгіі людзей элемэнты старога яшчэ займаюць значнае месца.

Асноўнае ў Александровіча—гэта паказ павольнага перараджэньня старога чалавека ў новага на фоне зьмяняючайся экономікі і быту. Пачынаючы з першага зборніку „Па беларускім бруку“ і канчаючы романам „Нараджэньне чалавека“ і п'есай „Напор“ мы бачым разгортваньне гэтай асноўнай тэмы.

Кожны з этапаў, кожны з пэрыёдаў рэволюцыйнага разьвіцьця ставіў перад пролетарскай літаратурай (і поэзіяй) задачы перабудовы ў адпаведнасьці з гэтым пэрыядам, пераўзбраеньня прыстасоўна да яго новых задач і характару. І трэба сказаць, што творчасьць Александровіча ў яе асноўных тэндэнцыях (лініях) разьвіцьця адпавядае гэтым задачам.

Мы бачым, раўналежна творчаму росту поэты, і рост яго ўсьведамленьня запатрабаваньняў эпохі, бачым падвышэньне агульна-культурнага ўзроўню. Поэта навучаецца самастойна мысьліць і політычна і філёзофскі, ён упарта змагаецца за апанаваньне дыялектыка-матэрыялістычным мэтодам работы над словам.

На аднэй з конфэрэнцый МАПП поэта Маякоўскі сказаў: „Апрача рэволюцыі, ёсьць кляса, якая вядзе гэтую рэволюцыю“. Александровіч і зьяўляецца прадстаўніком тэй клясы, якая вядзе рэволюцыю—пролетарыяту. Ня гледзячы на свае паасобныя памылкі, як у мастацкай творчасьці, так і ў грамадзка-політычным жыцьці Александровіч зьяўляецца адным з буйнейшых пролетарскіх поэтаў. Яго творчы шлях вельмі характэрны для агульнага процэсу росту нашай пролетарскай літаратуры. Праўда, нельга сказаць, што яго творчы шлях быў і ёсьць асноўным шляхам нашай пролетарскай поэзіі. Але шмат свайго ён унёс у агульную скарбніцу нашай пролетарскай культуры.

Александровіч імкнецца даць вялізныя вобразы сусьвету, які ствараецца на нашых вачох, паказаць, як у супярэчнасьцях нараджаецца новае:

Мая песьня—
песьня фабрык!
Маё слова—
звон машын!
Мая песьня—
чырвань фарбаў,
Маё слова—
плынь душы.

Мая песьня—
веснавыя ўзоры,
гоман дня
ў рабочую пару.
Мая песьня—
Новы горад,
Маладняк,
і
Беларусь!..

так характарызуе ў 1925 годзе сваю творчасьць поэта. І сапраўды жыцьцё гораду паўстае перад чытачом з радкоў вершаў поэты. Для дарэволюцыйнай беларускай поэзіі, для поэзіі першых гадоў пасьля Кастрычніка характэрным было апяваньне вясковага жыцьця, нават, рэволюцыя ўспрыймалася на вясковым матэрыяле. Значная колькасьць поэтаў, якія апявалі рэволюцыю бралі для яе выяўленьня вобразы, узятыя з вясковага побыту.

Александровіч, адзін з першых, уводзіць у нашу поэзію новыя вобразы непасрэдна ўзятыя з гораду, з яго жыцьця: вечар у яго „прысеў і сьпявае на рамах фабрычных вакон“, „гул ня спыняе лізаць камяніцы“, „ліхтароў сьвет цалуецца з лужамі“, „машына песьняй госкае“, а ў песьні—„зьвініць новых дзён варштат“.

Уносіць поэта і новую рытміку. Рытміка яго вершаў напорная, віхрыстая, адрыўчатая, адпавядаючая тэмпам гарадзкога жыцьця.

Нырай, фабрычны дым,
у дрыжачую сонную сінь,—
вясёлы юнацкі ўздым
пачуеш у песьнях машын.
Прыкры табе гэты дым?
Точыць сэрца тваё, як туман!
Нырай, фабрычны дым!
Рассьцілай свой дыван...
Зьвіні, сьпеў малады!
Завод, бі ў барабан!

Поэта апявае ня толькі горад, яго вуліцы, пляцы, заводы, фабрыкі. Ён імкнецца паказаць жыхароў гораду, паказаць будаўнікоў новага жыцьця. На першым кругабезе сваёй творчасьці ён пяе аб рамесьніках, аб іх працы, але ўжо сюды ўкліньваюцца рабочыя мотывы. Аўтар імкнецца адлюстраваць процэсы працы рабочых на прадпрыемствах, даць паасобныя малюнкі гэтай працы. „Друкар“, „За іголкай“, „Шавец“, „Машыністы“, „Акцябрыны“, „На заводзе“ ды інш.—вось загалоўкі вершаў з першых кніжок „Па беларускім бруку“ (1925 г.) і „Прозалаць“ (1926 г.). Яго творы прасякнуты радасьцю новага жыцьця і будаўніцтва Але ў Александровіча няма бяспрычыннай радасьці ды оптымізму, ён бачыць і адмоўнае ў жыцьці, гэта адмоўнае ня зьнікае з вачэй поэты. Але вера ў непераможныя сілы пролетарыяту, адчуваньне сябе часткай

агульнага вялікага колектыву працоўных, як змагара за новае жыцьцё— робіць поэзію яго бадзёрай, оптымістычна-здаровай.

Гэй браты, kавалі жыцьця новага,
вы прыміце мяне ў грамаду сваю.
Разам з вамі пайду ўперад сьмела я,
нясучы сьветач волі здабытае

піша яшчэ ў пачатку 1923 года поэта ў вершы „Кавалям жыцьця“. У вершы „На лева леваю“ Александровіч паказвае з якімі цяжкасьцямі нам прышлося будаваць новае жыцьцё, будаваць Беларусь Савецкую.

Былі цяжкія дні.
Жыцьцё падтрымлівалі
Тухлай кукурузай,
Мякінай чэрстваю
І сокамі брусьніц.
Параскіданымі
Нам сталіся сялібы.
І там, дзе фабрыкі—
Шкілеты шэрых сьцен.
Ня лёгка сталася
На слаўным перагібе.
Ня лёгкім быў
Прыход
Жаданых зьмен.

Але гэтыя цяжкасьці пераможаны і поэта пяе тое новае, што прынёс Кастрычнік. Яскравыя малюнкі соцыялістычнага будаўніцтва разгортваюцца перад намі ў вершах Александровіча. Шырачэзнае кола тэм мы маем у поэты: жыцьцё рабочых да рэволюцыі, Кастрычнік, барацьба за яго, пакуты Заходняй Беларусі, змаганьне з шкоднікамі і нац-дэмамі, культурнае будаўніцтва, новы быт, Чырвоная армія, Комсамол, соцыялістычнае будаўніцтва, малюнкі заводзкай працы і інш., і на фоне гэтых тэм асноўнае і галоўнае—рост і станаўленьне новага чалавека.

Поэта ўвесь у сучаснасьці—на кожным этапе гаспадарчага будаўніцтва яго творчасьць шчыльна нітуецца з асноўнымі рысамі часу, мастацкі іх падае. Поэта радуецца нашым дасягненьням, але ён бачыць і „чорныя дні“, дні пакуты працоўных Беларусі.

І па цаглінцы... Так з году ў год
разбураны край будавалі.
Пакутна-сьлязьлівая песьня яго
стала радасным звонам сталі.

Сёньня ў звоне сталі, у шуме варштатаў нараджаецца новае. У выніку напружанай працы рабочых паўстаюць новыя гмахі, новыя фабрыкі і заводы.

Эх, сасоньніца сасна,
дні суровыя...
Бервяно да бервяна—
хата новая!

Ды спрадвечная дрыгва,
нібы раніца,
Буйным цьветам хараства
зарумяніцца.
Гаратлівасьці былой
час пазбыцца нам!
Забудуем шыр балот
камяніцамі!

І поэта з радасьцю і захапленьнем кажа

Як добра жыць!
Цаглінкай румянай
будуем новыя. нязнаныя нам дні!

Зборнікі вершаў апошніх год: „Гудкі“ і „Устаноўка“, поўны таго патосу „віхурыстай працы“, якой занята краіна. Аўтар гавора аб „брыгадах рабочых“, якія ўпарта змагаюцца за выкананьне і перавыкананьне промфінпляну, аўтар кажа аб „краіне ў паходзе“, у паходзе за прыгожую соцыялістычную будучыню.

Падзел спрадвечных „скарбаў абшараў“—„Межы зьнікаюць! Паўстала зямля!—так кажа поэта, рост новай вёскі, якая пад. кіраўніцтвам пролетарыяту і яго авангарду комуністычнай партыі пасьпяхова змагаецца за соцыялістычную гаспадарку—вось тэматыка гэтых зборнікаў.

Мы пачалі
і скончыць здужым
комуне шлях цэмэнтаваць!

Аднак трэба зазначыць, што ў Александровіча, нават у гэтых творах, яшчэ няма пукатага паказу рэальных людзей, якія „руйнуюць спрадвечныя межы“, якія сёньня будуюць новую індустрыяльна-колгасную Беларусь. Аўтар яшчэ ў значнай меры, знаходзіцца ў палоне схэматызму, замяняючы інады лёзунгамі і агульным паказам—будаўніцтва і будаўнікоў.

Калі

Толькі тут ў сям'і фабрычнай —
тут сапраўднае жыцьцё,

то недалёка ад нас за мяжой пакутвуюць нашы браты па клясе, пакутваюць працоўныя масы Заходняй Беларусі. Таму значнае месца ў творчасьці Александровіча займаюць мотывы Заходняй Беларусі. Поэта нават прысьвяціў гэтай тэме спэцыяльны зборнік „Фабрыка сьмерці“ (1929).

Славу здабытую дзён пераможных
стальлю гартуе фабрычны варштат.
А думкі крыляцца, імкнуцца трывожна
ў краіну, дзе голад, дзе тысячы крат.

І поэта яскрава паказвае гэтую краіну, дзе „разьюшаная банда магнатаў“ пры дапамозе жандараў і провакатараў зьдзекваецца над працоўным народам, кідае яго лепшых сыноў у турмы.

Чую крык нястрымны
полем і лясамі:
лепшы сын краіны
сёньня катаржанін.

Няхай яшчэ сёньня калючы дрот падзяляе Беларусь, няхай яшчэ сёньня ў акупаванай частцы пануе галеча і голад, сёньня-ж там працоўныя масы пад кіраўніцтвам КПЗБ уздымаюць сьцяг паўстаньня, сьцяг барацьбы з панамі і асаднікамі. Поэта ўпэўнены ў канчатковай перамозе працоўных Заходняй Беларусі, ён верыць, што хоць шмат і загіне адданых таварышоў, але ўсё-ж такі перамога будзе на баку працоўных.

На полі, на бруку
загінем, паляжам,
адно ўсё-ж запалім
ў відалях
зару.
— Польшча сёньня, як царская Расія.
краіна сьмерці... Краіна цёмных крат!

голасна кажа поэта. Але ў яго ня толькі сум, ня толькі боль за пакуты братоў. Глыбокім гневам і абурэньнем гучаць вершы аб Заходняй Беларусі. Яны організуюць да барацьбы, да змаганьня, да дапамог нашым братом.

Поэта паказвае адзіны фронт працоўных усіх краін у іх барацьбе супроць капіталу.

Якая розьніца?
Адна-ж бяда—пакута
у ткачоў і Беластоку,
і Ліоны і Калькуты.

Якая розьніца?
(хоць шлях змаганьня свой там!)
Ці токар з Токіо,
ці з Вены,
ці з Дэтройту?!
Адным агнём гараць
(агнём зазыўным!) вочы.
Ніякай розьніцы. І там —
і там —
рабочыя!

Поэта паказвае, што аднолькава церпяць рабочыя ў Шанхаі, у Бэрліне і Нью-Ёрку. Ён паказвае барацьбу двух сіл сьвету—працы і капіталу. Ён паказвае, як пад баявымі сьцягамі комуністычнае партыі перамаглі рабочыя ў Савецкім Саюзе, як да сваёй перамогі ідуць яны ва ўсім сьвеце, руйнуючы „завесы констытуцый“. І гэтага вялізарнага руху мільённых мас рабочых „ня стрымаць ні мітральезай ні кулямётам“.

І ня толькі за межамі Савецкага Саюзу яны ўпарта падрыхтоўваюцца да новай інтэрвэнцыі, да новага нападу на Савецкі Саюз. Ня толькі

банкіры Лёндану, Парыжу і Нью-Ёрку мацуюць свой адзіны фронт у супроцьвагу адзінаму пролетарскаму фронту. І ў нас у межах Савецкага Саюзу, у межах Савецкай Беларусі ёсьць людзі, якім

...нашае сёньня варожа —
гатовы атрутай,
— чорнай пакутай,
— чорнай пакутай,
стрыножыць!

Аўтар сьмела і ўпэўнена выкрывае іх у сваіх творах.

Буйным творам, у якім Андрэй Александровіч дае разгорнуты малюнак варожай дзейнасьці нацыянал-дэмократаў, пуката паказвае клясавых ворагаў зьяўляецца поэма „Цені на сонцы". Тут ён паказвае цёмныя „цені" на сьветлым „сонцы" нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

О, сонца, зьвязвай у моцны вузел хмары!
Красуй, жыцьцё рунеючай зямлі!
Сусьвет ахвачан сонечным пажарам,
хоць і пад сонца
цені падпаўзьлі.

Перад чытачом праходзіць цэлая галярэя тыпаў узятых з нядаўняй рэчаіснасьці. Паказваючы іх у нашых умовах, ува ўмовах сучаснасьці, аўтар адначасна раскрывае іх мінулы шлях і ад гэтага іх постаці больш яскрава выпукляюцца перад вачыма чытача. Вось вершы:

Учора —
генэрал-барона сакратар,
а сёньня —
консультантам у Саветаў!

Ен, які калісьці быў чынам у генэрал-барона, пачынае перафарбоўвацца, імкнецца прымазацца да сучаснасьці. Учарайшы сакратар барона сёньня робіцца савецкім чыноўнікам. Але старое, зразумела, застаецца і толькі хаваецца глыбей.

Другімі шляхамі, але да аднэй і тэй-жа мэты, ідуць іншыя. Вось другі, якому не ўдалося стаць архімандрытам і ён мяняе свой грым — „І гляньце—сёньня ён дырэктар не на жарты".

Былыя земгусары, чыноўнікі, міністры буржуазных урадаў сёньня ўсе—тады калі „мы карчуем пні—яны ў кустах прылеглі", чакаючы зручнай хвіліны, каб усадзіць нож нам у сьпіну.

Аўтар выводзіць на ясны сьвет цэлую галярэю шкоднікаў і клясавых ворагаў. Як у колейдоскопе зьмяняюцца постаці. З рознымі жыцьцёвымі шляхамі, з рознымі густамі і падыходам да жыцьця. Вось новы экспонат:

Ён земгусарам быў,
чыноўнікам,
міністрам
у Скарапэдзкага па справам нутраным.

Калі Чырвоная армія прымусіла яго ўцячы з Кіева ён апынуўся ў Празе. Прайшло крыху часу і вось гэты „грамадзянін“ сёньня разам са сваім зяцем

Абодва ў нас цяпер,
на „бальшавіцкіх крэсах“,
Зьмянілі гальштукі, дый што далей казаць;
Чудэсны кум чырвоны стаў профэсар
вянок выдатнасьці набыў цудоўны зяць.

„І пяты друг“ гэтай буржуазнай хэўры таксама калісьці

Першы рынуўся на фронт,
на абарону —
„Единой неделимой“.

Але зьмяніўся час і яму прышлося бяз бою здаць свае позыцыі. Дзякуючы сваяцтву „сёньня ўжо, дзівіцца, ён доцэнт“.

Сярод пэрсонажаў поэмы ёсьць нямала такіх, якія калісьці расстрэльвалі паўстаўшых беларускіх рабочых і сялян, якія падпісвалі акрываўленай рукой тэлеграму на вернасьць кайзэру Вільгельму, абараняючы сваі фальваркі і маёнткі.

Але сёньня

Яны жывуць, як сьлед
Жывуць, прыкрыўшыся
Савецкім дабрадушшам.

Вонкава яны з намі і не здарма адзін з іх, які атрымоўвае з нагрузкаю аклад, які ўжо амаль дабраўся да акадэміка, так расьпінаецца перад начальствам:

— Вайна хай загрукоча —
Чырвонай арміі мы верныя сыны.
І ў грудзі б'е сябе, і хітра жмурыць вочы.

І наступнымі двума радкамі аўтар глыбока і яскрава ўскрывае прычыны такой вернасьці і адданасьці:

бо ў канізэльцы схована „отсрочка
на два месяца в случае войны“...

Але ўсе гэтыя і цэлы шэраг іншых пэрсонажаў, якіх выводзіць Александровіч у гэтай поэме не дадзены самі па сабе. Яны шчыльна ўвязаны з агульным сюжэтам поэмы. Аўтар паказвае той ланцуг, якім моцна злучаны яны ўсе. Ён паказвае як усе гэтыя нац.-дэмократычныя „кумы і зяці“ дапамагаюць адзін другому:

Сваяцтва зноў:
дырэктару—зямляк,
кум—куму,
а консультанту—шафер.

Калі не дапамагае сваяцтва, ці калі сваяцтва аказваецца недастатковым, то на зьмену яму прыходзіць падхалімаж:

Дзе трэба—лі сьлёзы
дзе трэба—падмаж.
Помніць свой лёзунг—
падхалімаж.

Калі ня ўдаўся просты наступ франтавая атака—ціха і з падцішка ідзе падхалімаж.

Для нас важна палітычная актуальнасьць гэтай поэмы, насычанасьць яе пачуцьцём клясавай ненавісьці да тых, хто перашкаджае нам будаваць новы соцыялістычны лад. Александровіч тут выступае як барацьбіт, як змагар з конкрэтнымі носьбітамі зла. Ён ускрывае іх клясавую сутнасьць. Ен паказвае як гэтыя, здавалася-б розныя людзі, з розных клясавых асяродзьдзяў групуюцца для барацьбы адзіным фронтам супроць Савецкай Беларусі, супроць дыктатуры пролетарыяту.

У гэтай поэме аўтар стыпізаваў шмат глыбокіх жыцьцёвых наглядаяньняў і замалёвак тэй жорсткай клясавай барацьбы, якая адбываецца ў краіне. Александровіч ускрывае тыя ўнутраныя супярэчнасьці, якія маюць месца ў гэтым жыцьці. Для аўтара героі яго поэмы ня проста паасобныя пэрсонажы, паасобныя клясавыя ворагі — наадварот, аўтар паказвае іх адзіны фронт для змаганьня з дыктатурай пролетарыяту.

У сваёй працы яны імкнуліся паказаць працоўным, што нацыянальная політыка савецкай улады зьяўляецца простай фікцыяй.

У той-жа час у сваёй ненавісьці да дыктатуры пролетарыяту, у сваім змаганьні за рэстаўрацыю капіталізму яны зьмянялі свае орыентацыі ад фашыста Пілсудзкага да расійскага эсэра і Дзянікіна.

А неўзабаве
на сходзе...
з закускай
з эсэра
расійскага
стаў
беларускім

кажа ён аб адным з герояў.

Гэта рыса зьяўляецца вельмі характэрнай для часткі гэтых ценяў— „былых грамадзян". І словамі глыбокага абурэньня гучаць радкі Александровіча:

— Расіец заўзяты ў расійскім парадзе
выходзіў палякам на польскі парад.
Цяпер беларус пры Савецкай уладзе,—
які дабрадушны Савецкі урад.

Для таго, каб больш выпукліць і падаць чытачу усю нікчэмнасьць гэтых людзей, аўтар падае іх ня толькі ў іх дачыненьнях да атуляючага сусьвету, ня толькі ва ўмовах працы. Ён з мэтаю выкрыць іх нутро падае іх ва ўмовах сям'і, ва ўмовах вузкага кола знаёмых. Вечар у кума, на які зьбіраецца плойма радні, паказвае як сваясаблiва пераламляюцца ў іх лёзунгі будаваньня новага быту, якія дзівосна спалучаюцца з мясцовай самабытнасьцю.

Гэта поэма зьяўляецца ня толькі мастацкі ўпэўніваючым паказам шкоднікаў. Яна адначасна зьяўляецца сыгналам пра небясьпеку. Гэтай поэмай Александровіч завастрае пільнасьць рабочай клясы і яе авангарду — комуністычнай партыі — на неабходнасьці барацьбы з гэтым злом.

І хочацца часьценька,
каб ценяў гэтых — жуць —
узяць і колкім венікам
страхнуць-бы, страсануць!

Нездарма гэта поэма была спаткана ў штыхі нацыянал-дэмократычна настроенай інтэлігенцыяй. Шмат хто з іх (якія ня так даўно займалі досыць адказныя пасады) спазналі ў паасобных пэрсонажах поэмы саміх сябе і сваіх блізкіх. Хоць трэба сказаць, што ў героях гэтай поэмы аўтар даў не портрэты паасобных шкоднікаў, ён у іх асобах стыпізаваў паасобныя, найбольш характэрныя, рысы нацыянал-дэмократычных заправіл.

Гэта пякучая сатыра жорстка бічавала носьбітаў клясава-варожай ідэолёгіі — нацыянал-дэмократаў, концэнтравала на іх галоўную ўвагу чытача. Эпіграфам да поэмы Александровіч паставіў вядомыя словы Маякоўскага.

Это очень плевое дело,
если-б
революция захотела
со счетов особых отделов
эту мелочь
списать в расход.

„Цені на сонцы“ гэта галярэя тыпаў, якія яшчэ ня сьпісаны ў расход і пакуль што смачна пережоўваюць савецкі пірог. Бясспрэчна, што поэма шмат каму з іх „сапсавала апэтыт“, пісала ў свой час „Зьвязда“.

Сёньня да канца выкрыты перад савецкай грамадзкасьцю контр-рэволюцыйны твар беларускіх нацдэмаў. Савецкая грамадзкасьць убачыла іх ува ўсёй няпрыкрытай голасьці падрыхтоўшчыкаў інтэрвэнцыі, змагароў за

капіталістычны шлях разьвіцьця нашай краіны. Поэма да канца выкрыла ідэолёгаў капіталістычнай рэстаўрацыі, „ворагаў у доме“, былых белых эмігрантаў, якія пад маскай савецкай лёяльнасьці, да часу праводзілі сваю шкодніцкую работу. Александровіч сьмела сарваў з іх маскі.

Ня толькі ў „Ценях на сонцы“ але і ў цэлым шэрагу іншых твораў (вершаў) поэта сьмела зрывае маскі з нацдэмаў, мастацкі ўпэўніваюча паказвае іх твар.

У вершы „Міністр“ ён паказвае нам „бяспрытульнага віленчаніна“, былога „бэ-эн-эраўскага міністра“, які, выкінуты з межаў БССР, у кутку піўной Бэрліну сумуе па ранейшым жыцьці і ў марах імкнецца ў Менск на кіраўнічыя пасты. Быломy міністру далі магчымасьць выправіць свае ранейшыя памылкі і шчырай працай заслужыць іх прашчэньне

бо, як кажуць, не зашкодзе
у кожнай хаце лішні цьвік.

Але замест шчырай і сумленнай працы, ён стаў у шэрагі актыўных змагароў супроць дыктатуры пролетарыяту — нацдэмаў. Астановімся на шэрагу вобразаў клясавых ворагаў, якіх так упэўніваюча паказвае Александровіч.

Забыліся?
Забыліся, ой, дзі-ва!..
Ну, што-ж!
Раз цьвёрда сьцеляцца,
То й цьвёрда будуць спаць

кажа Александровіч па адрасу ўдзельнікаў акадэмічнай конфэрэнцыі. Сёньня мы добра ведаем твар і мэты гэтай славутай акадэмічнай конфэрэнцыі, якая зьявілася легальнай магчымасьцю для нацдэмаў групаваньня сваіх сіл, стварэньня адзінага фронту для барацьбы супроць саветаў. Аб гэтай конфэрэнцыі рыжская газэта „Голас беларуса“ з вялікім захапленьнем пісала так: „Мы ня можам не адзначыць усякую адсутнасьць духу партыйнасьці на гэтай конфэрэнцыі“. Варта яшчэ дадаць, што з залі паседжаньня конфэрэнцыі быў вынесены портрэт Леніна і ўся яна была ўпрыгожана ў бела-чырвоны колер, колер сьцягоў калішняй контр-рэволюцыйнай БНР.

Са-бра-лі-ся...
Няма гарачай іскры!
Гатовы выкрасьліць любімае мне „Р“

упікліва кідае ў 1926 г. поэта па іх адрасу. І ўжо пазьней у вершы „Аўкцыён“ і інш. ён паказвае здрадніцкую ролю гэтых дзеячоў больш поўна. Прадаючы гуртом і ў раздроб Беларусь, яе багацьці: торф, фосфарыты, шкло, дзёгаць, сярнічкі, сьпірытус, бульбу, крухмал, лясы і г. д.

Краіну збыць яны хацелі,—
Каб набыць сабе портфэлі

каб прыкрываючыся портфэлямі міністраў „роднай Беларусі“, больш заграбастаць сабе ў кішэню... Але гэты аўкцыён ня ўдаўся, а ня ўдаўся

ён дзякуючы перамогам Чырвонай арміі, яны надзелі новыя маскі і з выглядам шчырых і адданых савецкіх работнікаў

... як калісь краіну
аплесьці павуцінай
жалезных ланцугоў
імкнуліся ізноў.

Але яны пралічыліся. Іх здрадніцкую ролю выкрылі, выкрылі іх намеры. І сваю „Поэму пра ворага“ Александровіч заканчвае наступнымі радкамі:

Маскі далоў!
Рэволюцыі суд
бязьлітасны і
Канчатковы.

Як бачым, ня толькі ў „Ценях на сонцы“, але і ў цэлым шэрагу вершаў напісаных на розных этапах свайго творчага шляху поэта вядзе ўпартае змаганьне з клясавым ворагам, выкрывае яго на кожным кроку.

Барацьба з клясавым ворагам адна з асноўных тэм, якая прасякае творчасьць Александровіча. Поэта паказвае яго ў розных выглядах, пад рознымі маскамі і лёзунгамі, але за гэтымі маскамі, за „рэволюцыйнымі“ лёзунгамі, Александровіч бачыць яго і сьмела б'е сваім бальшавіцкім словам.

Паасобныя творы Александровіча ў асноўным правільна арыентавалі і організоўвалі (а таксама арыентуюць і організоўваюць зараз) волю працоўных на барацьбу з рознастайнымі клясавымі ворагамі.

Хто прагне крыві чалавечае мора—
наш клясавы вораг.
Хто мкнецца вярнуць нам забытае гора—
наш клясавы вораг.
Хто ў штурм пяцігодкі хаваецца ў норы—
наш клясавы вораг,
Хто хоча-ня-хоча, а ворагу ўторыць—
наш клясавы вораг.
Хто ў масках сягоньня, а вораг учора—
наш клясавы вораг.

У сваёй „Поэме імя Вызваленьня“ аўтар спрабуе адлюстраваць шлях барацьбы за Кастрычнік, за Беларусь Савецкую, і адбіць тыя посьпехі і дасягненьні з якімі БССР уваходзіць у новае дзесяцігодзьдзе свайго існаваньня.

Агляд
пачынаю
за дзесяць год
так званага
краю
лясоў і балот

кажа поэта ў эпіграфе да поэмы. І сапраўды ён разгортвае паасобныя малюнкі змаганьня, паказвае тыя дасягненьні, якіх дасягнулі працоў-

ныя БССР у выніку сваёй дзесяцігадовай упартай працы і змаганьня. Бабруйскі комбінат, Гомсельмаш, Сталінстан, фабрыка штучнага шоўку ды інш. вялізарныя дасягненьні на фронце культурнага будаўніцтва ўспамінае аўтар. Адначасна поэта паказвае, што шлях нашага будаўніцтва і перамог ня ёсьць гладкі і роўны шлях. Аўтар паказвае моманты перашкод, якія прышлося асіліць працоўным, каб мець магчымасьць прыйсьці да сваіх дасягненьняў. Александровіч і тут зварачае ўвагу на клясавых ворагаў, якіх і сёньня „ў нас не пералічыць“.

Як сычы
якраз,
глядзяць на нас.
І знойдуць момант
выйсьці з дому
на вуліцу—
на барыкады—
супроць Савецкае ўлады.

Але-ж на барыкады ім не давялося выйсьці. А што гэткія імкненьні былі блізкімі, нават, для часткі (праўда, вельмі нязначнай) нашых літаратараў, сьведчаць хоць-бы такія радкі поэты новай буржуазіі, поэты кулацтва—Пушчы.

Узносім перад сонцам чары
І п'ем віно за сьлёзы продкаў,
Калі зьбяруцца з громам хмары
Тады наноў расставім кропкі.

З-за гэтых радкоў мы яскрава бачым твар разьюшанага кулака, які марыць аб помсьце, аб „новых днёх“, калі можна будзе перайначыць на свой капыл жыцьцё, калі пад грукат гармат новай інтэрвэнцыі можна будзе „расставіць кропкі“ па свайму жаданьню.

Праўда, гэта поэма не пазбаўлена значных недахопаў, якія ідуць па лініі схэматызму. Замест паказу рэальных жывых клясавых людзей, якія змагаліся за Кастрычнік, замест паказу процэсаў гэтай барацьбы — тут мы маем толькі схэмы, агульныя накіды. Аўтар не падае ўсёй супярэчлівай дыялектыкі жыцьця, а толькі абегла застанаўліваецца на паасобных фактах, схэматызуе іх. Замест глыбокага паказу жыцьця, тут мы ў значнай ступені маем сьлізганьне па паверхні.

Апошні час Александровіч пераходзіць да буйных твораў. Калі ранейшыя гады ў творчасьці поэты пануючае месца займалі невялікія вершы, калі больш буйныя творы (напр. „Паўстанцы“) не зьяўляліся рэалізацыяй асноўнай лініі творчасьці, то апошнія гады якраз — зьяўляюцца гадамі пераходу да больш буйных поэтычных жанраў. Мы ўжо вышэй абегла застанаўліваліся на „Ценях на сонцы“ і „Поэме імя Вызваленьня“. Сёлетні год прынёс новы буйны твор — вершаваны роман

„Нараджэньне чалавека". Гэты роман, першыя часткі якога друкаваліся ў „Полымі" за 1929 г., толькі сёлета ў пераапрацаваным выглядзе ўбачыў сьвет паасобным выданьнем. Тэма гэтага твору—нараджэньне новага чалавека. Нараджэньне ня ў фізычным сэнсе гэтага слова, а ў політычна-соцыяльным. Асноўным зьместам гэтага роману зьяўляецца паказ жыцьцёвага шляху Марылі Надзьвілінай. Паспрабуем больш дэтальна застанавіцца на паасобных пэрсонажах гэтага роману, у прыватнасьці на Марылі.

Бяз маткі—памёрла ў бежанцах, бяз бацькі—забіты белымі, яна сама, раненая выпадковай куляй, трапляе ў шпіталь. Шлях Марылі да шпіталю—шлях дзіцяці гарадзкога рамесьніка.

Радзіўся чалавек. Імя яму Марыля.
Нішто выдатнае ня збылася наўкол.
І, як заўсёды, куры па двары блудзілі,
Падрывалі сьвіньні стлеўшы частакол.

Ды і што магло здарыцца надзвычайнага, асаблівага, калі яе нараджэньне толькі прыбавіла ў хаце „лішні рот". У пролёзе да роману Александровіч застанаўліваецца на дзяцінстве Марылі, на яе першых юнацкіх гадох калі:

Расьце-гадуецца Марылька белакурай,
Гуляе фарбамі заранкавая кроў.

Тут і першае каханьне да такога-ж рамесьніка, такога-ж рабочага, як і бацька, сьлесара Рыгора. Першыя робкія промені каханьня... Першыя нясьмелыя сустрэчы... І вось яна ўжо на парозе да свайго маленькага, асабістага хатняга шчасьця.

— З паўгода, любая, старанна папрацую,
Капейку лішнюю націсну, зараблю,
Тады прыду, вазьму каго люблю я.
А любіш ты?
—„Вось глянь, як ня люблю"—
І вусны злучаны..

Але жыцьцё раскідае ў розныя бакі дзеючых асоб. Рыгор — дзесьці ў Чырвонай арміі абараняе правы працоўных. Марыля трапляе ў самае асяродзьдзе грамадзянскай вайны. Сьмерць бацькі — адзінага, на каго можна было спадзявацца і нікога больш блізкіх і родных. Нечаканая рана, шпіталь і тут першае спатканьне з санітарам Аўзорам Дарубашвілі. Аўтар паказвае як санітар, які да рэчы аказаўся шпіёнам, абвалаківае сваёй клапатлівасьцю Марылю. Ён знаходзіць ёй кватэру, плоціць за яе гаспадаром. І ўсё з аднэй мэтай—пабрацца з Марыляй, назваць яе сваёй жонкай. Але для Марылі ўспаміны аб Рыгору, аб іх першым

шчасьці яшчэ вельмі сьвежы і непазбыўны. З агідай яна адхіляе каханьне чужога для яе чалавека.

— Быць мне жонкаю Аўзора?
Ой, ніколі, не!
Як прыгожа зьзяюць зоры,
Сьцелюць шлях вясьне...
Згіну я адна-адненька
Харчам груганам.
Альбо падкае імкненьне
Любаму аддам

разважае яна ў сваіх думках. Бачучы, што з яго каханьня нічога не атрымоўваецца, што Марыля па ранейшаму кахае Рыгора. Аўзор выкарыстоўвае яе ў якасьці шпіонкі. Ён пасылае яе ў суседні горад з пакетам, у якім перадаюцца сакрэтныя весткі для перадачы за мяжу. Але Марылю арыштоўваюць і яна трапляе ў ЧК.

Яе непрыналежнасьць да шпіонажу хутка высьвятляецца і яе выпушчаюць, але яна ўсё-ж застаецца пад наглядам ЧК. Зноў, бяз родных і блізкіх, у чужым горадзе, Марыля шукае працы, шукае прытулку, нават „важыла ісьці на бульвар“. Усё-ж ёй удаецца ўладзіцца на працу ў пераплётнай:

Цяпер і Марылі лягчэй
Працу знайшла ў пераплётнай.

Перад ёй паўстае пытаньне аб далейшым жыцьці, аб яго шляхох

Куды мне ісьці і якімі шляхамі,
Каб думкі згубіць аб мінулым?

разважае Марыля з комсамольцам Паўлам. Яна адчувае, што яе ранейшы шлях быў шляхам вельмі хісткім, што ідучы па гэтым шляху яна амаль што трапіла ў шэрагі ворагаў рэволюцыі. Работа ў пераплётнай, удзел у грамадзкім жыцьці, у політычным гуртку шырэй адчыняе вочы дзяўчыне. Яна больш акрэсьлена пачынае разьбірацца ў праявах жыцьця, пачынае бачыць ворагаў і прыяцеляў. І даючы ў чацьвертай частцы роману размову Марылі са сьледчым ЧК аўтар у яе вусны ўкладае наступныя словы:

Вы ў мяне пытаеце што каму спрыяю?
Адкажу вам проста:
Не хачу спрыяць.
Я хачу змагацца, працаваць, я знаю,
Хай сягоньня сіла кволая мая;
Трэба мне акрэпнуць, падвучыцца, трэба,
(Я, між іншым, думаю на рабфак пайсьці)
І тагды, таварыш, чым змагу, як-небудзь—
Я здабуду сілу барацьбы ў жыцьці.
— А скажэце, ясна сутнасьць вам, прычына,
Як, за што мы б'емся, што мы хочам мець?
— Як-жа, каб працоўным уладаць краінай
Гнаць буржуяў, белых,
Што ж не разумець?

так адказвае Марыля на запытаньне сьледчага і ўпэўніваючы цьвёрда і пераконваючы бадзёра гучаць словы Марылі:

Мой шлях адзін, і сьцяг адзін, таварыш,—
Сваё жыцьцё злучу з жыцьцём другіх.

Мы ўжо бачым, што гэтыя словы Марылі не зьяўляюцца толькі словамі. Яны зьяўляюцца вынікам далейшага росту Марылі, усьведамленьня сябе, як часткі рабочага колектыву.

Жыцьця нястрымна быстры ход
Сваім крылом крануў Марылю.

Марыля з галавой акунаецца ў грамадзкую працу, у гарачую адданую работу.

І вось за працаю і рукі, як другія,
І аркушы папер шасьцяць інакш зусім
І літары брошур завуць (яны жывыя)
На штурм жыцьця запалам маладым.

Сапраўды Марыля штурмуе жыцьцё, Марыля ўпэўнена крочыць да далейшых перамог над сваім мінулым. Мы бачым як у процэсе адданай працы вырастае новы чалавек, і адначасна мы бачым з якімі цяжкасьцямі ідзе гэты рост. Яшчэ вельмі часта рэшткі старога змагаюцца за сваё існаваньне. І аўтар, як фон для Марылі разгортвае паасобныя малюнкі жыцьця люмпэн-пролетарскіх нізоў і дробнай буржуазіі гораду. Паказваючы бытавое асяродзьдзе ў якім знаходзіцца Марыля, аўтар не шкадуе фарбаў. Бацька Паўлы—п'яніца, сястра Паўлы—проститутка, Клемусь—хуліган, сальнік Залатушкін—усе гэтыя пэрсонажы патрэбны Александровічу, каб паказаць старога чалавека, чалавека ўласьніцкіх інстынктаў, чалавека далёкага ад колектывістычных імкненьняў. Мы бачым, як у Марылі проблема асабовага шчасьця, пытаньні асабовых адносін да Паўла (якога яна кахае цяпер) адсоўваюцца на другі плян перад проблемай грамадзкага, колектыўнага.

— Таварышы,
Сёньня да дому
Ня прыдзецца нам пайсьці.
На зьмену начную застацца—
Да раніцы скончыць тыраж.
Гуртом паднатужыцца,
Узяцца
І ў тэрмін выканаць працу—
Гонар грамадзкі наш

абвяшчае старшыня фабкому рабочым друкарні. І Марыля, якой абавязкова трэба пайсьці ў бальніцу да Паўла, якога паранілі хуліганы, якая перад гэтым ня спала цэлую ноч, становіцца перад пытаньнем

Выбар суровы—ці Павал,
Ці з рабочаю грамадой.

Усё ж яна стомленая і змораная, каб дапамагчы рабочым друкарні— сваім таварышом па працы ліквідаваць прарыў, застаецца працаваць

Мы бачым ужо станаўленьне ў Марылі новых адносін да працы. Яна пачынае адчуваць сябе часткай рабочага колектыву. Аўтар паказвае, як Марыля ў процэсе свайго жыцьця і працы перараджаецца, як яна наближаецца да сучаснага будаўніцтва з яго нябачным раней размахам, сама непасрэдна і актыўна працуючы на адным з яго вучасткаў. Мы бачым, як пад уплывам рабочага колектыву сьціраюцца індывідуалістычныя імкненьні, як Марыля навучаецца падпарадкаваць сваё асабовае грамадзкаму. У канцы роману аўтар паказвае, як Марыля разам з іншымі сябрамі шэфкомісіі едзе на вёску, каб дапамагчы сялянам у іх барацьбе за новую колектыўную гаспадарку.

Яна заваявала свой шлях, той шлях па якому ідуць мільёны працоўных у сваёй барацьбе за лепшую соцыялістычную будучыню. „Гартованым поступам“ ідзе Марыля наперад, ужо цьвёрда ведаючы за што яна змагаецца.

На зломе скал, на зломе стромкіх круч,
У штурме хваль—Надзьвіліна Марыля
Радзін сваіх уславіла зару.
На рыштаваньнях песьнямі зарэе.
Здабыта ў будучыню вернае старно.
Жыцьцё зьмяняецца, зьмяняюцца ідэі.
Пануе дзень, калі змаглася ноч

так заканчвае свой роман Андрэй Александровіч.

Марыля Надзьвіліна зьяўляецца асноўным пэрсонажам гэтага роману. Кажучы аб нараджэньні новага чалавека, аўтар мае на ўвазе яе. Усе іншыя пэрсонажы патрэбны Александровічу, як сваясаблівы фон для разгортваньня падзей. Некаторым недахопам роману зьяўляецца падзел аўтараў герояў на станоўчых і адмоўных. З аднаго боку мы маем Рыгора, Паўла—з другога Аўзора Дарубашвілі, Джона Кэйтана, бацьку Паўла, Клемуся ды іншых. Ад вылучэньня рысаў, якія характарызуюць пэрсонажы толькі з аднаго боку, дадатнага ці адмоўнага, яны губляюць у сваёй выпукласьці, нагадоўваюць інады схэму, штамп (Рыгор, Павал).

Трэба падкрэсьліць, што і ў гэтым романе аўтар адвёў пэўнае месца шкоднікам: Аўзор Дарубашвілі былы памешчык на Каўказе, які хаваецца пад маскай санітара ў вайсковым шпіталю,—актыўны шпіён, Джон Кэйтан—настаўнік ангельскае мовы, чорная зграя былых людзей (заводаўласьнік, гандляр, ксёндз і інш.). Ён ускрывае іх шкодніцкую работу, паказвае як яны падкапваюцца пад савецкі лад. Перадаючы за мяжу весткі аб складзе Чырвонай арміі, аб распалажэньні паасобных вайсковых частак, яны выконваюць волю замежнай буржуазіі, здраджваюць рабочым і сялянам. У гэтым романе Александровіч дае новыя адносіны да шэрагу фактаў першачарговай вартасьці, ён бярэць ня ўсе індывідуальныя перажываньні герояў, не перажываньні наогул, а пэўныя соцыяльныя бакі чалавечай псыхолёгіі.

Асноўны конфлікт, які тут цікавіць аўтара, гэта конфлікт глыбока соцыяльнага парадку, конфлікт, які адлюстроўвае фармаваньне новых

элемэнтаў сучаснай нам рэчаіснасьці. Ён паказвае, як паасобныя перажываньні падпарадкоўваюцца гэтаму інтарэсу да зьяў шырокага грамадзкага парадку. Асабовае жыцьцё дзеючых асоб, нават і самой Марылі, зьяўляецца толькі фонам, на якім разгортваецца проблема росту новага чалавека.

Александровіч, на нашу думку, правільна вырашае пытаньне аб шляхох поэмы ў нашай поэтычнай сучаснасьці. Справа ня ў тым, каб даць зараз малюнкі якогасьці быту, справа ня ў тым, каб паказаць паасобныя ўласьцівасьці людзей, узятых ізолявана ад рэчаіснасьці,— а гэта было асноўным для поэм пісьменьнікаў ранейшых, як беларускіх так і інш. Новая поэма, поэма пролетарскага пісьменьніка павінна быць творам новага тыпу. Традыцыйная поэма, якую, нават, спрабавалі адрадзіць у нас—ня мае пэрспэктыў на будучае. Новая поэма павінна грунтавацца на глыбокіх грамадзкіх зьявах, будавацца не на індывідуальных колізіях, а на колізіях грамадзкага парадку. Зразумела, нельга запамятоўваць аб людзях, аб быце, аб абмалёўцы паасобных рысаў, з якіх складаецца сучаснае жыцьцё. Аднак усё гэта павінна ісьці пад кутом погляду не адцягненым, апісаньня „наогул“, а пад кутом погляду асноўнай колізіі, асноўнай супярэчнасьці, на якой разгортваецца і будуецца ўся поэма.

Характэрнай рысай сучаснай поэмы зьяўляецца цьвёрды сюжэтны касьцяк, таму што наяўнасьць такога касьцяка зьяўляецца паказьнікам строгага адзінства, паказвае цэльнасьць яго сьветаўспрыманьня і таму палягчае ў значнай ступені і для самога чытача ўяўленьне аб тых здарэньнях, якія пададзены аўтарам. Цяжка пакуль вызначыць тыя шляхі, па якіх павінен замацоўвацца бытавы матэрыял у поэме. Аднак зразумела, і поэма Александровіча гэта пацьвярджае вочавідкі, што па-за малюнкамі быту, па-за малюнкамі чалавечых адносін, якія сёньня складаюцца, па-за паказам псыхолёгіі дзейных асоб ня можа быць поэмы ў нашы дні.

Апошні буйны твор Александровіча—п'еса (драматычная поэма) „Напор“, якая друкуецца ў № 11 і 12 Маладняка за гэты год. Гэта поэма характарызуе новы этап у разьвіцьці нашай пролетарскай поэзіі, характарызуе новы этап у творчасьці Андрэя Александровіча.

Паасобныя ранейшыя творы былі не пазбаўлены рыс схэматызму, які так пуката выявіўся ў „Поэме імя Вызваленьня“. Там меў значнае месца разважлівы падыход да рэчаіснасьці, што ў пэўнай ступені інады, зьніжала яго соцыяльна значную тэматыку. Александровіч добра ведае тое, аб чым ён піша. Але гэтыя веды былі адарваны ў яго ад сьветаадчуваньня, таму што ён элемэнты сьветадчуваньня адсоўваў ад сваёй поэзіі. Мы там мелі разрыў паміж думкамі і словам, паміж асноўным апасрэднічаньнем і непасрэдным успрыняцьцем сусьвету. Ён выяўляе ў сваёй творчасьці думкі, ідэі і настроі пролетарыяту, але яго творы на ранейшым этапе яшчэ недастаткова дыялектычны. У ранейшых

творах (асабліва першых год) мы маем выпадкі, калі поэта тое ці іншае зьявішча ня ўспрыймаў у яго разьвіцьці і супярэчнасьцях. Схэматызм прыводзіў інады да спрашчэньня зьяў, калі поэта заместа паказу зьяў ува ўсёй іх складанасьці зводзіў іх толькі да пэўнай схэмы і мы мелі некаторую неадпаведнасьць яго баявой у асноўным творчасьці з глыбінёй успрыняцьця зьяў. Але гэта ў апошнім творы поэты амаль перапожана.

Калі мы кажам аб нашай сучаснай літаратуры (і аб поэзіі ў прыватнасьці, як частцы гэтай літаратуры), то нельга не аднатаваць яе адставаньня ад новых вытворчых адносін рэконструкцыйнага пэрыоду. Нашы поэты і пісьменьнікі з вялікімі цяжкасьцямі перабудоўваюць сваю творчасьць адпаведна новым задачам. Для некаторых гэта ідзе па лініі павялічэньня публіцыстычных элемэнтаў, у захапленьні нарысам.

Творчая перабудова, якой патрабуе рэконструкцыйны пэрыёд, павінна складацца зусім не з таго, што пісьменьнік стане толькі публіцыстым, справа ў тым каб у іх мастацкіх творах быў дадзены сапраўдны вобраз нашай рэчаіснасьці. Бо, толькі публіцыстычнасьць пісьменьніка, пры ўсіх яе дадатных бакох (сьвядоцтва stationоўчых адносін пісьменьніка да рэволюцыйнай пераробкі сусьвету, добрая воля да пасільнага ўдзелу ў будаўніцтве), усё-ж не ўтварае малюнку нашага шматграннага жыцьця.

Бязумоўна, мастацкі твор ня можа быць утвораны па-за партыйнымі і. к. актыўнымі, рэволюцыйнымі адносінамі мастака да рэчаіснасьці, без салідарнасьці яго з справай рабочай клясы. Мастацкая літаратура ўключае ў сябе публіцыстыку ў высокім сэнсе гэтага слова.

Само жыцьцё ува ўсіх яго праявах, з якімі няўхільна сутыкаецца чулы мастак, уладна і катэгорычна ставіць перад ім гэту задачу. Неабходна пісаць па новаму—бачыць па сапраўднаму сусьвет шырока расчыненымі вачыма, знайсьці тую точку апоры, якая адна дасьць магчымасьць паставіць на ногі ўвесь сьвет вобразаў мастака.

Абвостраная клясавая барацьба, соцыялістычная пераробка старога сусьвету, нябачныя ніколі тэмпы перабудовы экономікі, утварэньне новых, соцыялістычнага тыпу, адносін чалавека да працы, барацьба з коснымі сіламі мінулага быту, выцясненьне іх і нараджэньне новых—уся гэта кіпучая і складанейшая рэчаіснасьць рэконструкцыйнага пэрыёду прымушае мастака шукаць таго пункту, гледзячы з якога ён зможа абняць усю рэчаіснасьць у яе сапраўдным выглядзе. Але без расчыненьня ўнутранага руху можна трапіць у палон да вонкавай відзімасьці жыцьця, не зразумеўшы таго, што „задача навукі зьмяшчаецца ў тым, каб відзімы, які выступае на паверхні зьяў, рух зьвесьці да сапраўднага ўнутранага руху“ (Карл Маркс—Капитал, т. III, частка I, стар. 297).

Александровіч паказвае гэтае новае ў сваёй драматычнай поэме „Напор“. Гэты твор характэрны прыклад творчай перабудовы нашай пролетарскай поэзіі (адна з яе найлепшых праяў) адпаведна задачам

рэконструкцыйнага пэрыёду. П'еса зьяўляецца характэрным прыкладам аўладаньня тэматыкай рэконструкцыйнага пэрыёду, а трэба сказаць, што бяз гэтага аўладаньня не магчыма ніякае мастацкае абагульненьне рэчаіснасьці, аўладаньне творчым мэтодам пролетарскай літаратуры.

Гэта п'еса зьяўляецца паказьнікам новага, больш вышэйшай якасьці, этапу ў разьвіцьці творчасьці поэты, паказам яго пасьпяховай перабудовы. І трэба засьведчыць, што гэты паказ вельмі яскравы.

У гэтым творы аўтар паказаў адданую барацьбу комсамольскага колектыву на адным з дрэваапрацоўчых заводаў за выкананьне прамфінпляну, за тэмпы.

Тут мы маем сьвядомае актыўнае кіраўніцтва з боку пролетарыяту процэсамі, якія адбываюцца ў рэчаіснасьці. „Філёзофы толькі тлумачылі сусьвет так ці інакш, але справа месьціцца ў тым каб зьмяніць яго“ пісаў калісьці Маркс у сваіх тэзісах аб Фэербаху.

„Але зьмяніць сусьвет—ня знача выдумаць новы сусьвет, стварыць суб'ектыўна-ідэалістычнае ўяўленьне аб ім, закрэсьліць яго об'ектыўную рэальнасьць. Мастацтва (і мастацкая літаратура ў прыватнасьці) зьмяняе рэчаіснасьць, накіроўваючы адпаведным чынам думкі і пачуцьці людзей да якіх яно зварачаецца“ („Ліст РАПП аб разгортваньні творчай дыскусіі“).

Аўтар усе дэталі свайго твору падпарадкоўвае агульнай тэме. Ён ня імкнецца выпукліць абавязкова ўсе бакі жыцьця заводу, паказаць усе, нават самыя дробныя рысы і моманты, ахапіць усе без выключэньня процэсы. І гэтым, сваей мэтанакіраванасьцю, яна прыемна вылучаецца хоць-бы ад „Качагараў“, дзе аўтар, імкнучыся ахапіць усе моманты, зразумела, ня здолеў гэтага зрабіць.

Александровіч паказвае заводзкую рэчаіснасьць, так як яна ёсьць, гэта значыць ён паказвае яе ў зьменах, у процэсе, у падрыхтоўцы яе заўтрашняга дня. Гэтым творам Александровіч у асноўным перамагае вузасьць і схэматызм, які мае месца ў ранейшых творах.

На заводзе змагаюцца за новыя тэмпы работы, за выкананьне прамфінпляну—пабудову тысячы стандартных дамоў для Донбасу. Частка рэакцыйных элемэнтаў вядзе змаганьне з выкананьнем пляну, шкодзіць рабоце, выкарыстоўваючы адсталых сэзоньнікаў з іх дробна-ўласьніцкімі інстынктамі. Але ўжо сёньня шкоднікі выступаюць з новымі мэтодамі працы.

Змоў ня трэба, не, ня трэба.
Ты сабе, а я сабе

кажа бракер заводу Зарэмба старшыні арцелі сэзоньнікаў Кандралю. І ён яго навучае:

Пілі сучкі, Кандраль,
падпільвай прамфінпляны.

Аднак, актыўнасьць рабочых перамагае, пляны шкоднікаў раскрыты і яны самі выкрыты.

Хто ў нашы дні перамог
Лютымі змовамі шкодзіць, —
Штурмам прыбою разводзьдзя
Зломім на нашых шляхох,
У нашым вялікім паходзе.
Сілай магутнаю рушымся біцца—
ў бой —
Грамадой,
Штурмавой,
Бальшавіцкай!

вось песьня рабочых, якую яны пяюць на „мітынгу дружбы“.

У гэтым творы мы маем пукаты паказ герояў пяцігодкі, перадавых рабочых, для якіх праца зьяўляецца справай гонару, мужнасьці і геройства.

„Пролетарская літаратура ламае старую школьную клясыфікацыю жанраў, утварае свае жанры, найбольш здатныя для мастацкага раскрыцьця ўсёй шматвобразнасьці рэчаіснасьці, якая перад ёй стаіць, і для зьдзейсьненьня сваёй актыўнай, рэволюцыйнай, зьмяняючай сусьвет, волі“. („Ліст РАПП аб разгортваньні творчай дыскусіі“).

Новая п‘еса не ўкладаецца ў ложак старых школьных жанраў. Тут мы маем крыжаваньне розных драматургічных жанраў, і нам здаецца, што гэта зьява, бязумоўна, зьяўляецца прогрэсыўнай, яна адзначае станаўленьне новага жанру. Старыя жанры атрымоўваюць тут новыя якасьці, значныя зьмены.

Да недахопаў твору трэба аднесьці слабы паказ партыйнага кіраўніцтва, недыфэрэнцыраванасьць сэзоньнікаў (яны ўсе паказаны, як адна маса), некаторая непадрыхтаванасьць дзеі (акт другі, вязьмо шостае— Радзецкі і Васіліса).

П‘еса патрабуе глыбокага і грунтоўнага разгляду, і ў гэтых абеглых нататках на ёй ня прыходзіцца асабліва застанаўлівацца. Для нас важна было паказаць на гэту п‘есу, як на факт новага этапу ў творчасьці Андрэя Александровіча.

Творчы шлях Александровіча непарыўна зьвязаны з процэсам росту і разьвіцьця маладой беларускай пролетарскай літаратуры. Сваяасаблівасьць беларускага пролетарыяту, які з пролетарыяту дробных заводаў і майстэрняў перарабляецца ў завадзкі пролетарыят, адбілася на творчасьці Александровіча.

Поэта ўвайшоў у нашую пролетарскую літаратуру, як акрэсьлены поэта гораду, аднак на першым кругабезе творчасьці ён яшчэ нявольны

ад дробна-буржуазных уплываў. Гэта праяўляецца ў шэрагу вершаў, дзе ён аддае некаторую даніну нацыянал-дэмократычнай ідэолёгіі.

Гэта праяўляецца ў паасобных вершах з нацыяналістычнай афарбоўкай, асабліва ў вершах першага пэрыоду творчасьці поэты.

Але гэтыя дробна-буржуазныя ўплывы, што праявіліся ў шэрагу паасобных твораў, не даюць права гаварыць аб дробна-буржуазнай сутнасьці творчасьці Александровіча.

Творчасьць Александровіча, пачынаючы з 1925 г., па сваёй накіраванасьці, тэматыцы, вобразах зьяўляецца ў асноўным пролетарскай творчасьцю.

Гэта творчасьць, як і такія творы як „Цені на сонцы“, „Нараджэньне чалавека“, „Напор“ зьяўляецца лепшым доказам перамогі поэты над сваімі дробна-буржуазнымі адхіленьнямі ад пролетарскага шляху.

У процэсе разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва Александровіч, перамагаючы свае ранейшыя памылкі, адным з першых перабудоўваецца.

Ён шырока і глыбока адлюстроўвае процэсы жыцьця Савецкай Беларусі. Яго поэзія носіць баявы бальшавіцкі характар.

Калі раней у яго яшчэ мела месца ўпрашчэнства, схэматызм, сьлізганьне па паверхні зьяў, што дасягнула свайго кульмінацыйнага пункту ў „Поэме імя Вызваленьня“, то зараз аўтар становіцца на шлях перамаганьня і дасягае на гэтым шляху значных посьпехаў („Напор“).

Ён ужо шчыльна падыходзіць да аўладаньня дыялектыка-матэрыялістычным мэтодам.

У яго асобе мы маем аднаго з буйнейшых пролетарскіх пісьменьнікаў нашай сучаснасьці. Але яму ня трэба застанаўлівацца на дасягнутых посьпехах. Яму трэба ведаць, што конкрэтны зьмест разуменьня „пролетарская літаратура“ дыялектычна мяняецца. Зьмяняецца быцьцё, разьвіваецца сьвядомасьць пролетарыяту. Кожнаму этапу ў разьвіцьці сьвядомасьці пролетарыяту адпавядаюць асобныя рысы, якія характарызуюць яго поэзію.

Быць заўжды на ўзроўні задач эпохі, аўладаць дыялектыка-матэрыялістычным мэтодам, яшчэ з большай адданасьцю слугаваць сваёй мастацкай творчасьцю пролетарыяту — вось чаго мы патрабуем ад Александровіча.

Александровіч выгадаваны ў Комсамоле. У шэрагах „Маладняка“ ён афарміўся як пісьменьнік. БелАПП, якая працуе пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, дапамагла яму ў яго станаўленьні на новыя рэйкі, у яго барацьбе з мінулымі памылкамі і недахопамі.

Яго 10-гадовы юбілей гэта яскравы доказ правільнасьці кіраўніцтва комуністычнай партыі нашым літаратурным рухам.

Поступу слаўнае перабудовы
Служыць мае
бальшавіцкае слова

кажа поэта.

Будзем спадзявацца, што мастацкае слова поэты-комуніста, поэты-бальшавіка яшчэ доўга будзе служыць працоўным, выкрываючы ўсю гніль і чэмер старога, паказваючы новае, што нясе перамогшая кляса— пролетарыят.

# ДА ГІСТОРЫІ ЛІТАРАТУРНЫХ ОРГАНІЗАЦЫЙ У БССР

**А. Сянкевіч**

Гісторыя літаратурных арганізацый Беларусі ёсьць гісторыя клясавай барацьбы на літаратурным фронце, барацьбы супроць буржуазнай, адраджэнцкай (нац. дэмократычнай) літаратуры за літаратуру пролетарскую, за соцыялістычную па зьмесьце, нацыянальную па форме беларускую культуру і культуру нацыянальных меншасьцяй.

У часы грамадзянскай барацьбы, часы змаганьня за дыктатуру пролетарыяту, за Савецкую Беларусь мы яшчэ новых песень, песень буры і шторму ня чулі. Пролетарскай і сялянскай моладзі не да поэзіі — яна з вінтоўкай і кулямётам змагаецца за новы, працоўны лад жыцьця, за права на пролетарскую літаратуру, за пролетарскую культуру.

У часопісах і газэтах, якія выдаваліся ў часы окупацыі Беларусі немцамі і пазьней белапалякамі, мы не сустракаем з мастацкае беларускае слова. На старонках „Вольнай Беларусі", „Звону", „Беларускага Звону" і інш. друкуюцца Я. Купала, З. Бядуля, А. Гарун, Я. Колас і інш. Але і мастацкая мова, сваім вастрыём накіраваная супроць пролетарскай рэволюцыі, зрабілася зброяй у руках ворагаў пролетарыяту, памешчыкаў і капіталістаў.

Адраджэнцкая ідэолёгія нашаніўства з яе тэорыяй адзінай бясклясавай беларускай нацыі, ідэалізацыяй мінулага і тэорыяй „самабытнасьці" „беларускага народу" прывяла гэтых пісьменьнікаў у варожы стан.

З гэтай ідэолёгіяй нашаніўскага адраджанізму беларускія пісьменьнікі і сустракалі Кастрычнік на Беларусі, сустракалі, як мы ўжо бачылі, варожа.

З пераходам БССР на мірнае будаўніцтва частка найбольш зацятых пісьменьнікаў-нацыяналістаў застаецца ў эміграцыі (Гарун-Прушынскі, браты Луцкевічы і інш.), другая частка пачынае працаваць у БССР.

Як-жа ўспрынялі пісьменьнікі-нашаніўцы новы лад жыцьця Беларусі, якая ўпяршыню воляю пролетарыяту атрымала права дзяржаўнасьці, стала пролетарскай дзяржавай, БССР.

Аналіз творчасьці і Купалы, і Коласа, і Бядулі, і іншых нашаніўцаў паказвае, што старыя пісьменьнікі яшчэ значны час заставаліся ў коле ідэолёгіі адраджанізму. З-пад іх пяра мы атрымоўвалі або дапяваньне сымфоніі мінуўшчыны або творы, варожыя сучаснасьці („Тутэйшыя" Я. Купалы, „Нашым ворагам" Я. Коласа і інш.) або творы, лакіраваныя

пад сучаснасьць (Бядуля). Толькі інагды, як даніну часу, пры ўрачыстасьцях, дарацъ яны твор, які больш-менш адпавядае савецкай сучаснасьці.

І ня дзіва, калі маладая кастрычніцкая рунь, калі песьняры, выхаваныя Кастрычнікам, пры першым спатканьні са старымі ўзялі апошніх у „рожкі“.

Міхась Чарот, які ў першых сваіх творах сам аддаваў даніну адраджанізму, кідае выклік „старым“ сваімі „Босымі на вогнішчы“ і напамінае аб іх здрадах працоўным масам Беларусі.

„А помніце, як вы кляліся
Братом, сялянам і рабочым?!
Што вы ня здрадзіце ніколі!!
Пявун не прапяяў тры краты,
Вы—адракліся...
супастаты!“

## Літорганізацыя „Маладняк“

У 1923 годзе маладыя пісьменьнікі аб'ядналіся, стварыўшы літаратурную організацыю „Маладняк“ — „Усебеларускае аб'яднаньне поэтаў і пісьменьнікаў, організаванае для таго, каб ідэі матэрыялізму, марксызму, і ленінізму ажыцьцявіць у беларускай мастацкай творчасьці“, як гаворыцца ў адозьве організацыі пад назваю „Замест дэкларацыі“. Рад зьмешчаных у гэтым зборніку дакумантаў і матэрыялаў сьведчыць, што літорганізацыя „Маладняк“ ішла ў асноўным па шляху рэволюцыйнай савецкай літаратуры. Яшчэ многа спатыкаецца і ў дэкларацыях і ў іншых дакумантах „Маладняка“ нявыразнага, нявытрыманага (чаго толькі варт выраз „рабоча-сялянская кляса“ або разважаньні Бабарэкі ў дакладзе „аб творчасьці“ на 1-м Зьезьдзе „Маладняка“ аб беларускай душы, разважаньні, якія ня сустрэлі, паміж іншым, жаднага рэагаваньня).

Усё гэта гаворыць аб тым, што „Маладняк“ на гэтым этапе зьяўляўся ў асноўным дробна-буржуазнай, у пераважнай меры сялянскай організацыяй рэволюцыйных пісьменьнікаў.

„Маладняк“ згуртаваў у сваіх шэрагах лепшыя літаратурныя сілы, што вышлі з працоўных гушчаў, і пачалі пракладаць новыя шляхі літаратурнай творчасьці. Маладняк унёс многа новых мотываў у тэматыку беларускай літаратуры і даў не адзін узор сапраўднай мастацкай апрацоўкі гэтай тэматыкі. Разам з тым была праароблена вялікая праца ў галіне крысталізацыі літаратурнае беларускае мовы, у стварэньні і пашырэньні новых поэтычных вобразаў, новай рытмікі і эўфоніі. Наогул „Маладняк“ многа зрабіў для падвышэньня ідэйна-мастацкага ўзроўню беларускае літаратуры.

Песьні маладнякоўцаў — гэта поўныя веры ў перамогу, бадзёрыя песьні новага бурлівага жыцьця. Аб гэтым найлепш гавораць назвы

зборнікаў з кніжніцы, выдаванай „Маладняком", такія як „Сьвітаньні", „Песенны хмель", „Комсамольская нота", „Чорнакудрая радасьць", „Сонечнымі сьцежкамі", „Пела вясна", „Суніцы", „Веснаход", „Радасьць" і г. д.

У большасьці маладняковскіх твораў апяваецца новая беларуская вёска. Урбаністычная тэматыка сустракаецца галоўным чынам у Александровіча („На беларускім бруку", „Сутарэньне"). Вялізарнае месца ўва ўсёй творчасьці маладняковцаў займае тэматыка грамадзянскай вайны („Сьвінапас", „Паўстанцы", „Ваўчаняты", „Два", „Завіруха", „Босыя на вогнішчы", „Марына" і інш.

Творчасьць большасьці маладняковцаў, асабліва левага крыла, авеяна романтыкай рэволюцыйнай барацьбы, верай у перамогу; у ёй адчуваецца патос пролетарскай рэволюцыі. У той-жа час, таксама як і творчасьць расійскіх пісьменьнікаў гэтага пэрыоду, характарнай рысай творчасьці маладняковцаў зьяўляецца схэматызм, адсутнасьць конкрэтнасьці.

Аб масавасьці „Маладняка" гаворыць той факт, што за два гады ад свайго заснаваньня (1923—1925) ён налічваў у сваіх шэрагах 500 з лішкам членаў. Соцыяльны склад „Маладняка" быў значна рознародны. Гэтыя неаднолькавыя па соцыяльнай прыродзе элемэнты былі зьнітаваны суб'ектыўнай рэволюцыйнасьцю, романтыкай рэволюцыйнай барацьбы,— як правільна адзначае т. Галавач у артыкуле „Пяць нашых год". Гэты склад хаваў у сабе потэнцыянальныя магчымасьці соцыяльнага на клясавых позыцыях разьмежаваньня ў далейшым.

Уласна кажучы ў „Маладняку" ўжо з самага пачатку яго існаваньня намячаліся дзьве тэндэнцыі. Пераважная частка маладняковцаў цьвёрда стаяла на позыцыях Кастрычніка і разам з пролетарыятам змагалася за далейшае соцыялістычнае разьвіцьцё гаспадаркі і культуры БССР.

Другая частка ўспрымае Кастрычнік праз прызму адраджанізму, як бунтарскае паўстаньне сялянства; яна ўспрымае рэволюцыю ў той меры, паколькі апошняя разьвязала нацыянальнае пытаньне і спрыяла аднаўленьню і падняцьцю сельскай гаспадаркі. У такім аднабаковым разрэзе гэтая частка ўспрыняла і політыку нэпу.

Першы этап нэпу, этап сваясаблівага адступленьня ў мэтах далейшага разгону па рэйках соцыялістычнага наступу, адпавядаў настроям гэтай часткі „Маладняка", паколькі ішоў на гэтым этапе ўздым усяе гаспадаркі, у тым ліку і капіталістычных элемэнтаў.

У вытворчасьці маладняковцаў ужо з самага пачатку існаваньня „Маладняка" мы маем поруч з пролетарскай плыньню (Чарот, Александровіч) плынь дробнабуржуазную, сялянскую (Крапіва), а таксама афармленьне буржуазнай плыні, асабліва ў творчасьці такіх пісьменьнікаў, як М. Зарэцкі, У. Дубоўка, А. Пушча і інш.

У творчасьці паасобных пісьменьнікаў найбольш правага крыла „Маладняка" прасочваюцца ноткі нацыянальнай абмежаванасьці і наогул

нацыяналістычныя тэндэнцыі. Песьні аб „родным“ краі, аб „шыпшыннай“ Беларусі вы знойдзеце ў Дубоўкі, Бандарынай, і ў раду іншых поэтаў.

Уваход у пэрыод соцыялістычнай рэконструкцыі, рашучы наступ соцыялістычнага сэктару быў спатканы шалёным супраціўленьнем капіталістычных элемэнтаў; пачаўся пэрыод найбольш абвостранай клясавай барацьбы, як на фронце экономікі, так і на фронце культурнага будаўніцтва. У выніку мы мелі рэзкую дыфэрэнцыяцыю сярод пісьменьніцкіх колаў. У беларускай літаратуры яўна выдзяляецца буржуазная нацыянал-дэмократычная плынь, робяцца вылазкі супроць політыкі партыі і савецкай улады на літаратурным фронце, а разам з гэтым, як ніколі, выяўляецца роля літаратуры, як вострай зброі ў клясавым змаганьні.

Хронолёгічна і ўмоўна пачатак дыфэрэнцыяцыі ў радох „Маладняка“ можна зьвязаць з датай выхаду зборніка вершаў У. Дубоўкі „Трысьце“ з уступным артыкулам А. Бабарэкі (праўда, зярне, з якога пазьней вырасла ўзвышанская пляцформа, зярне будучай дыфэрэнцыяцыі ў разважаньнях А. Бабарэкі аб беларускай душы на 1-м Зьезьдзе „Маладняка“ у яго дакладзе аб творчасьці маладнякоўцаў).

У гэтым артыкуле А. Бабарэка намагаецца стварыць сваю „самабытную“ беларускую крытыку, пападаючы ў абоймы псыхолёгізму і формалізму. Ужо ў гэтым артыкуле чуваць ноткі прымірэньня з прадстаўнікамі адраджанізму — Купалам, Коласам, Багдановічам, а адгэтуль крок і да поўнага ўспрыняцьця адраджэнцкай (нацыянал-дэмократычнай) ідэолёгіі.

У канцы 1926 году група пісьменьнікаў—Дубоўка, Пушча, Бабарэка, К. Чорны, Крапіва, Глебка і Лужанін — вышла з Маладняка і стварыла літаратурнае аб'яднаньне „Узвышша“.

Выхадам „Узвышша“ дыфэрэнцыяцыя ў радох „Маладняка“ ня спынілася. Трохі пазьней выдзяляецца невялічкая група пісьменьнікаў і стварае літорганізацыю „Пробліск“, а яшчэ пазьней, утвараецца „Літаратурна мастацкая Комуна“.

У 1927 годзе адбываецца новы разлом у радох „Маладняка“, калі з яго выходзіць кіруючая група—М. Чарот, М. Зарэцкі, Глыбоцкі (Дудар) Александровіч. Гэтая група, аб'яднаўшыся з старымі пісьменьнікамі нашаніўцамі, стварае новае літаратурнае аб'яднаньне „Полымя“.

Якія-ж прычыны прывялі да апошняга разлому ў радох „Маладняка“, разлому, які найбольш балюча адбіваўся на жыцьці організацыі. У рэзолюцыі Менскай філіі „Маладняка“ ад 9-XII—1927 г. мы чытаем. „У выніку політыкі ЦБ апошніх часоў, „Маладняк“, як літаратурная адзінка, сваё папярэдняе і моцнае месца ў літаратуры, як барацьбіта за рэволюцыйную пролетарскую літаратуру, страціў“. Далей у рэзолюцыі гаворыцца аб няўважлівых адносінах кіраўніцтва да літаратурнага афармленьня маладзейных сяброў аб'яднаньняў, аб заняпадзе часопісу „Маладняк“, аб ненаведваньні б. кіраўнікамі сходаў Менскай філіі, аб адмаў-

леньні паставіць справаздачу ЦБ і ўрэшце аб тэндэнцыі пусьціць організацыю на вецер — „мы ніякага дачыненьня ня маем да „Маладняка“, рабеце, што хочаце“.

Як бачым, рэзолюцыя Менскай філіі адзначае формальныя прычыны адрыву былога кіраўніцтва ад спраў „Маладняка“. Трэба сказаць, што гэтыя прычыны былі больш глыбокага характару—яны былі ў тым, што мікробам нацыяналістычнае хваробы была заражона і частка сяброў былога кіраўніцтва „Маладняка“. (Зарэцкі, Глыбоцкі, часткова Александровіч) Нацыяналістычныя тэндэнцыі ў гэтай групе асабліва рэзка выявіліся, калі паўстала пытаньне аб уступе „Маладняка“ у аб'яднаньне пролетарскіх пісьменьнікаў Саюзу. (ВОАПП). Гэтаму ўваходу былое кіраўніцтва пачынаючы ад 1-га зьезду „Маладняка“ рабіла пасыўнае і актыўнае супраціўленьне. Найбольш яскрава гэтыя тэндэнцыі выявіў М. Зарэцкі ў сваёй прамове на першай конфэрэнцыі Белаппу (Маладняка), у якой ён даводзіць непатрэбнасьць уваходу ва ўсесаюзнае аб'яднаньне пролетарскіх пісьменьнікаў, аргумэнтуючы гэта тым, што ВОАПП нібы не паказаў сябе да астатняга часу, як правадыра інтэрнацыянальнай сувязі паміж нацыямі Савецкага Саюзу, і хаця ВОАПП існуе доўгі час, ніякае ролі ён нібы не адыграў у гэтай справе.

Гэтым супраціўленьнем былога кіраўніцтва „Маладняка“ і тлумачыцца тое, чаму аб'яднаньне „Маладняка“ з пролетарскімі літорганізацыямі Саюзу адбылося з некаторым спазьненьнем. І таму зусім слушна кажа рэзолюцыя памянёнага вышэй сходу Менскай філіі, што „У выніку політыкі ЦБ апошніх часоў, „Маладняк“, як літаратурная адзінка, сваё пярэдняе і моцнае месца ў літаратуры, як барацьбіта за рэволюцыйную, за пролетарскую літаратуру страціў“.

А між тым разгортваньне і абвастрэньне клясавай барацьбы ў краіне абвастрэньне гэтай барацьбы і на ідэолёгічным фронце вымагала ад „Маладняка“ вядучай ролі ў гэтай барацьбе, вымагала актыўнага наступу на варожыя элемэнты. Гэтай ролі барацьбіта за гэгемонію пролетарскай літаратуры „Маладняк“, апынуўшыся ў такім стане, ня мог зьдзейсьніць і ня мог зьдзейсьніць галоўным чынам таму, што заставаўся ізоляваным ня зьвязаным з пролетарскімі літаратурнымі організацыямі ў самай Беларусі (Юнгер Арбайтар), не абапіраўся на пролетарскія літорганізацыі ўсяго Саюзу.

Адгэтуль паўстала неадкладнае заданьне консолідацыі пролетарскіх сіл на літаратурным фронце, адгэтуль і вышэйпамянёная рэзолюцыя Менскай філіі Маладняка, якая падтрымана іншымі акруговымі філіямі і прывяла да скліканьня конфэрэнцыі „Маладняка“ і яго ўступленьня ў шэрагі ВОАПП.

Беларуская літаратура ня жыла ізоляваным жыцьцём. Процэсы, якія мелі месца і ў расійскай і ва украінскай літаратуры, знаходзілі свой адбітак і ў беларускай літаратуры.

Паласа багэмшчыны (Ясеніншчына) ў часьці расійскай літаратуры не абмінула і беларускі „парнас“. Упадніцкія настроі на этапе, калі мы сустрэлі значныя цяжкасьці ў соцыялістычным наступе, найбольш характарны для такіх пісьменьнікаў, як Кляшторны, Дудар і інш.

З другога боку, левая частка „Маладняка“ ўсё больш і больш, і ў творчасьці і наогул у сваёй працы, ідзе пад знакам напастоўства, змагаецца за пролетарскі шлях беларускай літаратуры.

Нельга не адзначыць уплываў украінскай буржуазнай і дробна-буржуазнай літаратуры, асабліва на правае крыло Маладняка. Пад знакам хвільёвізма і на ўзор створанай ім на Украіне літорганізацыі „Вапліте“ у БССР утвараецца літорганізацыя „Узвышша“, якая падобна Вапліте, адмаўляецца ад масавай работы, становіцца замкнутай групай „сапраўдных“ пісьменьнікаў.

Беларусь мае сваіх Хвільёвых у асобах М. Зарэцкага, Глыбоцкага і інш. Гэтыя пісьменьнікі, праўда трохі пазьней, выкідаюць лёзунг „самабытнасьці“ Беларусі, лёзунг тэй-жа арыентацыі на „культурны“ Захад у процівагу чырвонай Маскве. Тэорыя барацьбы двух культур—рускай з аднаго боку, беларускай—з другога праходзіць чырвонай ніткаю праз увесь пэрыод барацьбы на культурным фронце, а таксама і на фронце літаратурным.

На Украіне нацыянал-опортуніст Хвыльёвы скаціўся да позіцыі фашызму ў романе „Вальдшнэпы“, на Беларусі М. Зарэцкі ад пропаведзі самабытнасьці і арыентацыі на Захад скочваецца да фашыстаўскага роману „Крывічы“.

## Беларуская асоцыяцыя пролетарскіх пісьменьнікаў

Ужо на конфэрэнцыі „Маладняка“, скліканай па ініцыятыве Менскай філіі, было вырашана пытаньне аб уступленьні ў ВОАПП і разам была пастаўлена задача аб згуртаваньні пролетарскіх літаратурных сіл на Беларусі. Наяўнасьць яўрэйскай групы пролетарскіх пісьменьнікаў, а таксама ўзьнікненьне групы польскіх пролетпісьменьнікаў ставіць у парадак дня пытаньне аб організацыі Беларускай асоцыяцыі пролетарскіх пісьменьнікаў. Гэтае пытаньне таксама прынцыпова было вырашана конфэрэнцыяй. Ажыцьцяўленьне гэтых рашэньняў конфэрэнцыі было зроблена на першым зьезьдзе БелАПП у лістападзе 1928 г. „Маладняк“ яшчэ да зьезду БелАПП'у зьмяняе напрамак працы з падрастаючымі літаратурнымі кадрамі — бярэцца ўстаноўка на фабрычна-заводзкую моладзь, на рабселькораў.

Характарна адзначыць тэндэнцыі, якія яскрава выявіліся на апошняй конфэрэнцыі „Маладняка“ (выступленьні тав. Васілевіча, б. сакратара ЦК КП(б)Б), глядзець на „Маладняка“, як на падрыхтоўчую школу, як

на пераходны двор да „Полымя“, якое паказвалася як сталая, нібы асноўная організацыя. Гэтым тэндэнцыям быў дан самы рашучы адпор.

Першы зьезд БелАПП'у, які адбыўся ў лістападзе 1928 г., стварае новую старонку ў гісторыі беларускай літаратуры. На зьезьдзе „Маладняк“ афармляецца як Беларуская асоцыяцыя пролетарскіх пісьменьнікаў (беларускіх, яўрэйскіх, польскіх і інш.), якая становіцца адным з пролетарскіх атрадаў Усесаюзнай Асоцыяцыі пролетпісьменьнікаў.

Зьезд намеціў цьвёрды шлях беларускай пролетарскай літаратуры, шлях змаганьня за гегемонію пролетарскай літаратуры ва ўмовах Беларусі. Зьезд пастанавіў цэнтр увагі з пытаньняў організацыйных перанесьці на творчыя пытаньні, завастрыўшы на іх увагу сяброў аб'яднаньня.

Мы ўжо раней адзначалі, што „Маладняк“ дзякуючы політыцы нацыянальнай абмежаванасьці, якая праводзілася Дударом і інш., з былога кіраўніцтва, свае ролі передавога барацьбіта за пролетарскую літаратуру ня мог зьдзейсьніць.

БелАПП уключыўся ў струмень агульнасаюзнай пролетарскай літаратуры, аб'яднаючы ў сваіх радох нацыянальныя сэкцыі (яўрэйскую, польскую), павёў рашучы наступ на варожыя элемэнты на літаратурным фронце.

У гэтай барацьбе БелАПП спаткаў жорсткае супраціўленьне. Нацыянал-дэмократычныя элемэнты і з „Полымя“ і асабліва з „Узвышша“ карысталіся ўсімі мэтодамі аж да інсынуацыі, каб дыскрэдытаваць БелАПП у вачох грамадзкасьці. Гісторыяй „абработкі“ пакойнага поэта Труса з боку „узвышшанцаў“ паказвае, што вялася работа з паасобнымі сябрамі БелАПП'у, каб адарваць іх ад пролетарскай організацыі.

Мэтоды інсынуацыі, замоўчваньне, ігнараваньне БелАПП'у і творчасьці яго сяброў шырока практыкаваліся пры популярызацыі беларускай літаратуры па-за межамі БССР. Поўнае ігнараваньне БелАПП'у мы сустракаем у працы нацдэмаўскага гісторыка літаратуры Клейнборта, а таксама ў артыкуле „гора-крытыка“ Байкова, зьмешчаным у беларускім зборніку на Украіне; у артыкуле З. Жылуновіча, зьмешчаным у 1-м томе літаратурнай энцыклёпэдыі, артыкул Ф. Кунцэвіча ў часопісе „Печать и Революция“, артыкулы сяброў „Узвышша“ у літаратурнай газэце „Читатель и писатель“. Амаль ні слова няма аб беларускай пролетарскай літаратуры ў альманаху беларускага аддзяленьня Вокса, выданым у мэтах популярызацыі беларускай літаратуры сярод працоўных мас капіталістычных краін. Аднабока, у нацдэмаўскай афарбоўцы падаецца беларуская пролетлітаратура ў расійскіх энцыклёпэдыях.

БелАПП'у прышлося змагацца з памянёнай тактыкай антыпролетарскіх элемэнтаў, ускрываючы яе буржуазную, нацыянал-дэмократычную сутнасьць.

На інсынуацыі і выступленьні варожых элемэнтаў БелАПП адказвае падвышэньнем якасьці літаратурна-мастацкай продукцыі, якая пачала

набываць большую пролетарскую актуальнасьць, адказвае пашырэньнем грамадзкай дзейнасьці на фабрыках, заводах сярод колгасных і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі.

БелАПП праз увесь час граў ролю перадавога барацьбіта ў змаганьні супроць нацыяналістычных элемэнтаў у беларускай літаратуры. Зброяй марксыцкай крытыкі і непасрэдным мастацкім словам („Цені на сонцы“ і інш.) БелАПП ускрываў буржуазную, варожую пролетарскай дыктатуры сутнасьць беларускага нацыянал-дэмократызму. Такія творы як „Вецер з Усходу“ А. Дудара „Крывічы“ і „Падарожжа на новую зямлю“ М. Зарэцкага, „Ветразі“ і інш. поэмы Дубоўкі, „Ліст да сабакі“ і наогул творчасьць Я. Пушчы, Здарэньне з „камісарамі“ Ц. Гартнага, былі падвергнуты з боку БелАПП'у і яго членаў жорсткай пролетарскай крытыцы. Адначасова БелАПП праводзіў змаганьне з пераверзеўшчынай і літфронтам, з праяўленьнямі гэтых плыняў у беларускай літаратурнай рачаіснасьці.

Адзіным фронтам з другімі атрадамі пролетарскай літаратуры БелАПП выступаў супроць вылазак клясавага ворага ў літаратурах расійскай, яўрэйскай, польскай, грузінскай і інш.

Трэба адзначыць вялізарную ролю яўрэйскага і польскага сэктараў у барацьбе за пролетарскую літаратуру.

Яўрэйская сэкцыя зьяўляецца найстарэйшым сэктарам пролетарскай літаратуры,—гэта першая літаратурная пролетарская організацыя на Беларусі.

Асноўнымі кадрамі яўрэйскай сэкцыі БелАПП'у зьяўляюцца рабочыя кадры.

У першыя гады дзейнасьці яўрэйскай пролетарскай літаратуры (літ. група „Юнгэр Арбэйтэр“) яўрэйскія пролетарскія пісьменьнікі выяўляюць у сваёй творчасьці ў асноўным падзеі рэволюцыйнага змаганьня.

Наступленьне соцыялістычнага сэктару, абвастрэньне клясавай барацьбы ў краіне, цяжкасьці, якія сустракаліся ў будаўніцтве соцыялістычнай экономікі, не маглі не адбіцца на творчасьці паасобных яўрэйскіх пролетарскіх пісьменьнікаў. У іх творчасьці сустракаюцца нездаровыя ўпадніцкія настроі, а таксама нэўтральныя мотывы.

Але поруч з крызісам, які перажывала частка яўрэйскіх пролетарскіх пісьменьнікаў, ідзе творчы рост усяе групы яўрэйскіх пісьменьнікаў, назіраецца пераход да эпічных, бытавых мотываў, да складаных соцыяльных проблем.

Усё-ж крызіс меў той вынік, што некаторыя пісьменьнікі пакінулі літаратуру, а некаторыя мелі значныя прарывы.

З гэтага крызісу яўрэйская сэкцыя вышла аздароўленай і больш моцнай.

Значны творчы рост яўрэйскай пролетарскай літаратуры мы маем за пэрыод соцыялістычнае рэконструкцыі народнае гаспадаркі. Мацнее

сэктар прозы, зьяўляюцца драматычныя творы, уся творчасьць па сваёй тэматыцы больш адбівае жыцьцё пролетарыяту і працоўных, а таксама процэсы соцыялістычнага будаўніцтва.

Яўрэйская сэкцыя БелАПП'у ўвесь час вяла рашучую барацьбу супроць правых ухілаў, супроць нацыяналістычных тэндэнцый у яўрэйскай літаратуры.

Польская сэкцыя і па ліку сваіх членаў і па творчай продукцыі значна адстае ад яўрэйскай сэкцыі, але змаганьні БелАПП'у за гегемонію пролетарскай літаратуры польсэкцыя адыграла не апошнюю ролю. Узмацненьне польсэкцыі за лік рабочых ударнікаў зьяўляецца найбольш актуальнай задачай дня.

Вялізарнае значэньне ў гісторыі БелАПП'у мае заклік рабочых ударнікаў у літаратуру. У адозьве-закліку да рабочых ударнікаў Сэкратарыяту БелАПП'у і Прэзыдыуму ЦСПСБ мы чытаем: „У пролетарскай літаратуры мы яшчэ рэдка знаходзім паказ таго напружанага змаганьня, якое адбываецца на нашых прадпрыемствах, яшчэ не знайшлі дастаткова глыбокага адлюстраваньня лепшых прыкладаў спаборніцтва, ударніцтва, не паказана ў мастацкай форме ўся складанасьць клясавай барацьбы на рашаючых вучастках соцыялістычнага будаўніцтва".

І далей у адозьве гаворыцца, што „перад пролетарскай літаратурай паўстала задача—папоўніць свае рады лепшымі прадстаўнікамі рабочае клясы.

... Агульны ўзрост політычнай актыўнасьці, узрост культурнасьці рабочае клясы павінен забясьпечыць літаратурны вучастак барацьбы новымі барацьбітамі—рабочымі-ўдарнікамі".

Недахопам гэтай адозвы зьяўляецца тое, што ў ёй не падчоркнута міжнароднае значэньне закліку ўдарнікаў у літаратуру, іменна тое, што прыход ударніка ў літарауру зьяўляецца крокам да сьціраньня межаў паміж умысловай і фізычнай працай.

У выніку закліку рабочых ударнікаў у літаратуру значна зьмяняецца самы склад організацыі—БелАПП ператвараецца ў сапраўды пролетарскую літорганізацыю з моцным асяродкам рабочых-літаратараў ад станка.

Сувязь з заводамі, уключэньне БелАПП'у ў барацьбу за выкананьне прамфінпляну прывялі да зьмены мэтодаў усяе грамадзка-політычнае і творчае работы БелАПП'у і яго членаў. Работа літаратурнымі брыгадамі стала асноўнай сыстэмай усёй працы БелАПП'у і яго членаў. Літбрыгады працуюць на фабрыках і заводах, дзе адны з членаў брыгады прымаюць удзел у выданьні заводзкай шматтыражкі і праводзяць працу з рабкорамі, другія кіруюць літгурткамі рабочых ударнікаў, трэція дапамагаюць у іншых галінах культработы. Ня менш важнае значэньне набывае і пасылка творчых брыгад на фабрыкі і заводы, на торфараспрацоўкі, у саўгасы і колгасы.

Апошнім, калі ня самым галоўным у жыцьці і працы БелАПП'у і яго сэкцыі, зьяўляецца творчая дыскусія. Трэба прызнаць, што творчая дыскусія ў БССР пачалася са значным спазьненьнем. Фактычна дыскусія разгарнулася як сьлед толькі на майскім пленуме БелАПП'у. У дыскусію былі ўцягнуты шырокія колы ня толькі літаратурных крытыкаў, але і самых пісьменьнікаў, а гэта і стварае найбольш дадатны бок дыскусіі. Творчая дыскусія выявіла значны рост беларускай пролетарскай поэзіі і прозы. У галіне поэзіі мы маем такія выдатныя творы як „Цені на сонцы", „Поэма імя вызваленьня", „Нараджэньне чалавека" А. Александровіча, значна ідэёвы і мастацкі ўзрост рабочых поэтаў як Зарэцкі і поэм высокай мастацкай якасьці, поэм, якія ярка адлюстроўваюць наша соцыялістычнае будаўніцтва (поэта Харык). У галіне прозы вялікім укладам у скарбніцу пролетарскай літаратуры зьяўляецца аповесьць І. Галавача „Спалох на загонах"; перайшоўшы з вершаў на прозу, пісьменьнік Броўка даў мастацкі малюнак упартай клясавай барацьбы, змаганьня за выкананьне прамфінпляну на аднэй з папяровых фабрык. Зьяўленьне раду зборнікаў і прозы і поэзіі ў выданьнях ДВБ гавораць аб творчым уздыме як сярод пролетарскіх пісьменьнікаў, так і сярод саюзьнікаў і блізкіх папутнікаў.

Але трэба прызнаць, што асабліва ў галіне поэзіі яшчэ ня зжыты старыя прыёмы схэматычнасьці, няма яшчэ патрэбнай конкрэтнасьці пры адлюстраваньні нашай жывой, бурлівай рачаіснасьці.

Зрабіць паказ лепшых прадпрыемстваў, даць мастацкія патрэты лепшых рабочых-ударнікаў,—гэта заданьне яшчэ ня выканана нашымі літаратарамі.

Урэшце трэба адзначыць работу БелАПП'у з падарожнікамі. Барацьба за нашых спадарожнікаў у мэтахператварэньня ў саюзьнікаў пролетарскай літаратуры ўвесь час праводзілася БелАПП'ам. Шляхам бальшавіцкай сяброўскай самакрытыкі цэлы рад спадарожнікаў з правага лягеру, асабліва „Узвышша", усё больш і больш пераключаюцца на позыцыі рэволюцыйнага папутніцтва, каб болей перайсьці на позыцыі саюзьнікаў пролетарскай літаратуры. На чарзе стаіць задача па далейшай консолідацыі рэволюцыйных савецкіх пісьменьнікаў вакол свайго авангарду—БелАПП'у.

## Беларускае аб'яднаньне пісьменьнікаў Чырвонай арміі і флёту (БелАЧАФ)

Перад пролетарскай і савецкай літаратурай стаіць задача быць ня толькі вострай зброяй у руках пролетарыяту ў клясавым змаганьні ўнутры краіны. Ня менш адказная задача стаіць і ў пытаньні абароны краіны ад капіталістычных драпежнікаў.

Да апошняга часу гэтая апошняя задача як сьлед ня выконвалася. Мы мелі паасобных пісьменьнікаў—баянаў Чырвонай арміі, як Дзям'ян

Бедны; мы сустракаем верш або мастацкае апавяданьне з жыцьця Чырвонай арміі. Невыстарчальна адлюстравана ў мастацкай творчасьці вялікая эпоха грамадзянскай барацьбы за Саветы.

Небясьпека новага нападу капіталістычнай эграі на СССР, шалёная падрыхтоўка, якая вядзецца для гэтага нападу, асабліва ў капіталістычных краінах сумежных з СССР, ставяць ува ўсю вышыню задачу ваенізаваньня нашых пісьменьніцкіх радоў. Мэтоды соцспаборніцтва і-ўдарніцтва, якія шырока праводзяцца ва ўсёй працы Чырвонай арміі, стварылі тысячныя кадры ўдарнікаў-чырвонаармейцаў з рабочых, колгасьнікаў, сялян з беднякоў і серадняткоў. Заклік чырвонаармейцаў-ударнікаў у літаратуру ўжо даў значныя вынікі. На майскім пленуме БелАПП'а ўдзельнічала значная група чырвонаармейцаў-пісьменьнікаў.

Таму паўстала пытаньне аб організацыі пісьменьнікаў Чырвонай арміі—БелАЧАФ аб'яднаўшы ў сваіх радох пісьменьнікаў, чырвонаармейцаў і тых пісьменьнікаў, якія працуюць над чырвонаармейскай абароннай тэматыкай. За кароткі час існаваньня БелАЧАФ прарабіў значную працу па згуртаваньні організацыі пісьменьнікаў Чырвонай арміі, па выяўленьні творчасьці пісьменьнікаў чырвонаармейцаў, па популярызацыі задач БелАЧАФ сярод шырокіх мас працоўнага насельніцтва.

Усялякая дапамога БелАЧАФ'у з боку БелАПП'у, з боку ўсяе пролетарскае грамадзкасьці зьяўляецца неадкладнай задачай, асабліва ў БССР, дзе БелАЧАФ мае шырокія пэрспэктывы для свайго разьвіцьця.

## Літорганізацыя пролетарска-колгасных пісьменьнікаў

Сялянскія пісьменьнікі, саюзьнікі пролетарскай літаратуры, да апошняга часу ня мелі на тэрыторыі БССР свае самастойнае організацыі. Найбольш блізкія з іх уваходзілі ў БелАПП і працавалі пляча ў пляча з пролетарскімі пісьменьнікамі.

Вялізарныя посьпехі ў справе колектывізацыі краіны, шырокае саўгаснае будаўніцтва стварылі глебу для вырошчваньня новых пісьменьніцкіх кадраў з радоў колгаснай моладзі і саўгасных рабочых, рабочых МТС і г. д.

БелАПП, праца якога значна ўскладнілася, ня можа непасрэдна заняцца і організацыйна і творча выхаваўчай працай сярод гэтых новых кадраў пісьменьнікаў. Яшчэ да майскага пленуму БелАПП'у створана часовае бюро пролетарска-сялянскіх пісьменьнікаў. Гэтае новае аб'яднаньне саюзьнікаў пролетарскай літаратуры яшчэ знаходзіцца ў процэсе організацыі.

## „Узвышша"

У нарысе аб „Маладняку" ўжо адзначалася аб прычынах узьнікненьня літорганізацыі „Узвышша" ў выніку выхаду шэрага пісьменьнікаў з радоў „Маладняка" ў 1926 годзе. Дакуманты і матэрыялы „Узвышша" і аб

„Узвышшы“, якія падаюцца ў гэтым зборніку, даюць яскравы малюнак і твар гэтай літаратурнай організацыі. Мы тут абмяжуемся сьціслым паказам галоўных рысаў і ўстановак „Узвышша“, якое праз значны адрэзак часу фактычна зьяўляецца літаратурнай ячэйкай контррэволюцыйнай нацдэмаўскай організацыі.

У самакрытычных артыкулах Крапівы і Глебкі падрабязна разьбіраюцца тэзісы і дэкларацыя „Узвышша“. Гэтыя дакуманты, а разам творчасьць асабліва правай буржуазнай часткі пісьменьнікаў узвышанцаў (Дубоўкі, Пушчы, Бабарэкі, Ант. Адамовіча, Лужаніна) гавораць аб наступнай мэтодолёгіі, устаноўках і тактыцы „Узвышша“, асабліва былых кіраўнікоў гэтай організацыі.

У галіне ідэолёгічнай — пропаганда мастацкім словам актыўнага адраджанізму, прычым у мэтах маскаваньня ў сваіх тэзах „Узвышша“ даводзіць, што гэты актыўны адраджанізм стаў чыньнікам ажыцьцяўленьня ідэй комунізму.

У галіне творчасьці—„Узвышша“ выступае супроць публіцыстычнасьці ў мастацкай літаратуры, супроць адлюстраваньня ў мастацтве пафосу соцыялістычнага будаўніцтва. Літаратуру і поэзію, якая апявае посьпехі соцбудаўніцтва, узвышанцы трактуюць як бурапеністую і самагонную творчасьць, або „нравоучительскую“ і протокольную творчасьць казённай радасьці.

Гэтай плыні яны супроцьстаўляюць творчасьць, якая будуецца на падставе апанаваньня народнай творчасьцю, дасягненьнямі мастацтва мінулага, якое імі ідэалізуецца з ухілам у бок выключна формальных шуканьняў.

Па лініі організацыйнай — „Узвышша“ адмаўлялася ад грамадзкай работы і замыкалася ў вузкую касту пісьменьнікаў.

Кіраўніцтва комуністычнай партыі ўзвышанскія заправілы прызнаюць толькі „ў магчымым для сябе напрамку“.

Асноўным мэтодам крытыкаў „Узвышша“ (Бабарэка, Ант. Адамовіч) зьяўляецца суб‘ектыўна-ідэолістычны мэтод, хаця для адводу вачэй іх працы перасыпаны цытатамі з Плеханава і іншых марксыстаў-літаратураведаў. Карыстаючыся гэтым мэтодам, яны з нячуванай нахабнасьцю характарызуюць творчасьць Дубоўкі і Пушчы як пролетарскую творчасьць—зразумела, што ўсё гэта робіцца ў мэтах мімікрыі. Літаратурны стыль, за які змагаюцца ўзвышанцы—романтызм, спэцыяльны беларускі романтызм. У паасобных працах Бабарэкі і К. Чорнага гаворыцца аб неабходнасьці стварэньня беларускага стылю ў літаратуры.

У барацьбе супроць пролетарскага рэалізму, у барацьбе за романтызм асабліва выдзяляецца Ў. Дубоўка. У поэме „І пурпуровых ветразяй узьвівы“ Дубоўка супроцьстаўляе таленавітаму лірыку недалэнгу-крытыка. І зразумела, лірык зьяўляецца пераможцай. Характарна, што актывісты нацдэмаўскага толку з „Полымя“ як М. Зарэцкі таксама зма-

галіся і выступалі за рамантызм, супроцьстаўляючы яго пролетарскаму рэалізму.

Было-б памылковым гаварыць на аснове аналізу тэзісаў „Узвышша“, што гэтая організацыя, адмаўляючыся ад апяваньня сучаснасьці, нібы стала на шлях „мастацтва для мастацтва“. Наадварот, творчасьць узвышанцаў, асабліва Пушчы, Дубоўкі, прасякнута тэй самай публіцыстыкай, супроць якое яны нібы змагаюцца ў сваіх дэкларацыях. Поэмы і вершы Пушчы, поэмы Дубоўкі—гарачая пропаганда нацыянал-дэмократызму. Закранаюць яны і савецкую рачаіснасьць, але яна малюецца нацыянал-дэмократычным пэндзелем (малюнкі Беларусі ў поэмах Я. Пушчы).

Важна застанавіцца на тактыцы кіраўнікоў „Узвышша“. Тактыка маскаваньня, тактыка мімікрыі праводзілася як у публіцыстычных выступленьнях, так і ў творчасьці.

У мэтах адводу вачэй усякую крытыку ўзвышанскіх твораў яны расцэньвалі як цкаваньне узвышанскіх літаратараў, як барбарскі паход на літаратуру.

У крытычных артыкулах яны божацца і клянуцца Марксам і Леніным, устаўляюць слова-другое з марксыцкага лексыкону, крычаць аб сваёй пролетарскасьці, даводзяць аб пролетарскай творчасьці сваіх сяброў і г. д.

У мастацкай творчасьці яны выкарыстоўваюць народныя казкі, лягенды выкарыстоўваюць сымболіку ў мэтах дыскрэдытацыі ўсяго савецкага, у мэтах пропаганды нацыянал-дэмократызму.

Падводзячы вынікі, можна з упэўненасьцю сказаць, што б. „Узвышша“ зьяўлялася літаратурнай ячэйкай контррэволюцыйнай нацдэмаўскай організацыі.

Гэта ня значыць, што ўсе члены „Узвышша“ сьвядома ішлі за нацдэмамі. Значная частка сяброў „Узвышша“ апынулася ў нацыянал-дэмократычным балоце па сваёй несьвядомасьці, па сваёй даверлівасьці да былых кіраўнікоў. Некаторыя з іх у большай меры, некаторыя ў меншай адбівалі ў сваёй творчасьці варожыя нам нацыяналістычныя плыні.

Узятыя пад абстрэл пролетарскай крытыкі, пад напорам пролетарскай грамадзкасьці у пачатку 1930 г. часьць узвышанцаў становіцца на шлях прызнаньня сваіх памылак, але як яны і самі цяпер прызнаюць, гэта было палавінчатае прызнаньне.

Раскрыцьцё органамі ДПУ контррэволюцыйнай нацдэмаўскай організацыі і тэй ролі, якую гралі ў гэтай організацыі былыя кіраўнікі „Узвышша“, раскрыла вочы радавым членам „Узвышша“. Рашуча асудзіўшы сваё мінулае, большая частка узвышанцаў і ў грамадзкай дзейнасьці, і ў сваёй творчасьці становіцца на шлях набліжэньня да савецкай рэволюцыйнай літаратуры. У гэтай перабудове ім усімі мерамі трэба дапамагчы.

## „Полымя“

„Полымя“ ўзьнікла ў выніку аб'яднаньня літаратараў з былога кіраўніцтва „Маладняка“ і „старых нашаніўскіх“ пісьменьнікаў.

Полымя зьяўлялася літорганізацыяй, у якой эпігоны нашаніўскага адраджэнцтва і былыя маладнякоўцы знайшлі агульную мову па лініі нацыяналістычнай ідэолёгіі.

Аб гэтым сьведчыць і публіцыстычная дзейнасьць і мастацкая творчасьць большасьці сяброў „Полымя“. Ужо не гаворачы аб нацыянал-дэмократычных устаноўках у творчасьці такіх пісьменьнікаў, як Я. Купала, Я. Колас, Грамыка, досыць пералічыць тое, што вышла з-пад пяра маладых, каб сьцьвердзіць вышэй паданы тэзіс аб „Полымі“, як у асноўным нацыянал-дэмократычнай організацыі. Мы тут маем такія нацыянал-дэмократычныя пэрлы творчасьці, як „Крывічы“ М. Зарэцкага і яго „Падарожжа на новую зямлю“, як „Вецер з Усходу“ Дудара-Глыбоцкага і інш.

Мы наўмысьля паставілі разьдзел аб кіно і тэа-дыскусіях усьлед за матэрыяламі аб „Полымі“. Члены організацыі „Полымя“ былі і ініцыятарамі і галоўнымі ўдзельнікамі гэтых дыскусій: і „Ліст сямёх“ з рэдакцыі газэты „Савецкая Беларусь“ і ліст трох пісьменьнікаў вышлі ад членаў літорганізацыі „Полымя“.

У кіно і тэа дыскусыі была шырока разгорнута нацыянал-дэмократычная програма ў галіне культурнага будаўніцтва. Тут мы маем абаснаваньне тэорыі беларускай самабытнасьці, і супроцьстаўленьне Чырвонай Маскве поруч з орыентацыяй на „культурны“ Захад.

Артыкул З. Жылуновіча „Цьвёрдымі крокамі“, а таксама і статут „Полымя“ гавораць аб тым, што гэтая організацыя брала на сябе задачу вядучай ролі ў беларускай літаратуры.

У памянёным артыкуле З. Жылуновіча мы бачым ідэалізацыю нашаніўскіх пісьменьнікаў за ўвесь час іх творчасьці, а поруч з гэтым змазваньне тэй клясавай барацьбы, якая ішла на літаратурным фронце. Вайну са старымі, калі маладнякоўцы ўзялі апошніх „у рожкі“, З. Жылуновіч называе недарэчнасьцю. Гэтая барацьба, па яго думцы, мела толькі знадворны характар.

Літорганізацыі „Полымя“ ўжо больш як год фактычна ня існуе. Ня было за гэты час аніводнага сходу членаў „Полымя“, ня відаць было і іншых адзнак жыцьця.

## Беларуская літаратурна-мастацкая комуна

Літаратурна-мастацкая комуна, як гэта відаць з статуту, імкнулася працаваць пад досыць гучнымі лёзунгамі: „Літаратура і мастацтва—як сродак да росквіту жыцьця“, „Літаратура і мастацтва — як элемэнты будаўніцтва комунізму“. Лёзунгі хоць і гучныя, але расплыўчатыя, разь-

лічаныя на сусьветныя маштабы. І не дарма, бо ініцыятар комуны п. Шукайла спрабаваў сваёй літкомунай прабіць дарогу нэолефству, футурызму. Але гэтая спроба ня ўдалася. Тое, што нэолефаўцы ўжо ў гэты час дайшлі фактычна да адмаўленьня мастацкай літаратуры, а поруч з гэтым і выяўленая пролетарскай крытыкай дробна-буржуазная сутнасьць расійскіх эпігонаў футурызму, зьявілася галоўнаю прычынаю хуткага распаду літкомуны. Літкомуна за кароткі час свайго існаваньня здолела выпусьціць два нумары часопісу „Росквіт“.

Гэты попыт даць кароткі нарыс гісторыі беларускіх літаратурных організацый паказвае, што падобна таму, як творчасьць паасобнага пісьменьніка, які ня ідзе ў ногу з пролетарскай грамадзкасьцю, ахвяравана на выраджэньне, так і паасобныя пісьменьніцкія організацыі, уступіўшыя на няправільны, варожы сучаснасьці шлях, ахвяраваны на нябыт і гніеньне.

Гісторыя літаратуры і літаратурных організацый за апошнія дзесяць год адначасова паказвае рост і пашырэньне ўплываў пролетарскай літаратуры. Апошняя заняла вядучую ролю па ўсіх напрамках. Творчасьць маладых пролетарскіх пісьменьнікаў (Александровіч, Галавач і інш.) становіцца вядучай і ў мастацкіх адносінах.

Пролетарская літаратура расьце і разьвіваецца ў барацьбе з варожымі плынямі ў літаратуры, у барацьбе за маркса ленінскі сьветапогляд і мэтодолёгію ў літаратуры.

Пролетарская організацыя беларускіх пісьменьнікаў, БелАПП, узмоцніўшы свае рады заклікам ударнікаў у літаратуру, усё больш заваёўвае роль гегемона на літаратурным фронце.

Пролетарская літаратура стала ўжо буйным фактарам у нашым соцыялістычным будаўніцтве. І ў беларускай пролетарскай літаратуры, і ў літаратуры брацкіх савецкіх рэспублік мы маем лепшыя ўзоры пролетарскага мастацкага слова. Мы маем такое зьявішча, як паварот літаратур і літаратараў тварам да вытворчасьці—дзесяткі пісьменьніцкіх брыгад працуюць на фабрыках, заводах, у колгасах. Фактам сусьветнага значэньня зьяўляецца заклік ударнікаў у літаратуру, паколькі гэты заклік, зьяўляючыся паказчыкам вялізарнага росту актыўнасьці шырокіх рабочых мас, выражае сабою соцыялістычную тэндэнцыю да сьціраньня межаў паміж інтэлектуальнай і фізычнай працай.

Але побач з гэтым трэба констатаваць яшчэ значнае адставаньне пролетарскай літаратуры ад бурных тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва.

Мастацкая літаратура яшчэ не разгарнула працы па лепшым мастацкім абслугоўваньні барацьбы за выкананьне задач, пастаўленых т. Сталіным.

Гэтыя задачы датычацца непасрэдна і да самой мастацкай літаратуры, напрыклад, „абязьлічка“ яшчэ і дагэтуль пануе ў нашай беларускай пролетарскай літаратуры. Пісьменьнікі яшчэ не ўразумелі, што лёзунг ліквідацыі абязьлічкі мае непасрэдныя адносіны і да пролетарскай літа-

ратуры. Беларуская пролетарская літаратура яшчэ ня выканала соцыяльнага заказу свае клясы — даць паказ гэрояў пяцігодкі, паказ работы ўдарных брыгад у конкрэтнай жывой абстаноўцы клясавай барацьбы на даным прадпрыемстве, заводзе, саўгасе.

Заклік ударніка ў літаратуру органічна ўвязан з лёзунгам паказу гэрояў соцыялістычнага будаўніцтва. Як правільна адзначае т. Лібедзінскі, „Наш паказ гэрояў і заклік ударнікаў ёсьць адначасова і паказ гэроя і заклік ударніка. Гэта адзінае зьявішча, якое ідзе пад адным знакам, якое ні ў якой іншай літаратуры апроч пролетарскай не магло „ўзьнікнуць“.

І вось, калі мы запытаемся, ці здолелі мы ва ўмовах БССР зрабіць паказ гэроя, паказ перад усёй пролетарскай грамадзкасьцю новых форм комуністычнай працы праз паказ творчасьці самых ударнікаў у літаратуру, дык атрымаем адмоўны адказ. Нашы выдавецтвы намагліся выдаць толькі адну кніжыцу двух ударнікаў. Яшчэ да гэтага часу мы не парупіліся выдаць хоць-бы адзін збор твораў ударнікаў у літаратуру.

Партыя паставіла важнейшыя задачы перад мастацкай літаратурай—адлюстраваньне гэроікі грамадзянскай вайны, напісаньня гісторыі нашых фабрык і заводаў. Як мы спраўляемся з вырашэньнем гэтых задач? Трэба прызнацца, што за іх вырашэньне мы яшчэ як сьлед не ўзяліся. На гэтым вучастку літаратуры мы маем ужо вялізарны прарыў, і за ліквідацыю гэтага прарыву мы павінны ўзяцца з такім-жа напорам, як гэта робяць лепшыя прадстаўнікі рабочае клясы на фабрыках і заводах.

Перад БелАПП‘ам стаіць задача падняць на вышэйшую ступень працу з ударнікамі ў літаратуру, дабіцца больш кваліфікаванай, мэтодычнай дапамогі ўдарнікам па лініі іх творчай працы, прыцягнуць ударнікаў у кіруючыя органы БелАПП‘у і яе раённых сэкцый.

Ня менш адказная задача, пастаўленая перад БелАПП‘ам і Беларускай Фэдэрацыяй аб‘яднаньняў савецкіх пісьменьнікаў (БелФАСП)—гэта праца са спадарожнікамі і саюзьнікамі пролетарскай літаратуры. „Спадарожніцтва на мінулым этапе выражала імкненьне дробна-буржуазнай інтэлігенцыі супрацоўнічаць з пролетарскай рэволюцыяй, пакольні апошняя яшчэ не пачынала выкарчоўваць карэньняў капіталізму. Абвастрэньне клясавай барацьбы ў рэконструкцыйны пэрыод выклікала хістаньні значнай часткі папутніцтва, што знайшло сваё выражэньне ва ўзмацненьні рэакцыйных, буржуазна-кулацкіх тэндэнцый, якія выявіліся ў розных варыянтах у папярэднія гады“ (з рэзолюцыі аб папутніцтве і саюзьніцтве апошняга пленуму РАПП). Ва ўмовах БССР гэты адыход часткі папутнікаў набыў характар беларускага буржуазнага нацыянал-дэмократызму і завёў паасобных пісьменьнікаў у стан контррэволюцыі (Дубоўка, Пушча і інш.).

„У гэты-ж час абвастрэньне клясавай барацьбы ў літаратуры, якое прывяло да актывізацыі ўсіх буржуазных сіл апошняй, абумовіла процэс

дыфэрэнцыяцыі ў асяродзьдзі папутніцтва і афармленьня яго левага, сапраўды рэвалюцыйнага крыла“ (з рэзолюцыі пленуму РАПП).

Гэтую дыфэрэнцыяцыю мы маем і сярод папутнікаў у беларускай літаратуры. У той час, як адны з пісьменьнікаў, апынуўшыся ў палоне нацыянал-дэмократычнай ідэолёгіі, яшчэ сёньня топчуцца на месцы, яшчэ ня здолелі зрабіць пераацэнку нацыянал-дэмократычных каштоўнасьцяй у мэтах адштурхваньня ад апошніх і набліжэньня да позыцый савецкай літаратуры (Калюга з яго аповесьці „Нядоля Заблоцкіх“, М. Зарэцкі) рад пісьменьнікаў, асабліва з „Узвышша“, ня толькі прызналі свае памылкі, але значнымі тэмпамі пераключаюцца і ў сваёй творчасьці на позыцыі саюзьнікаў пролетарскай літаратуры. Т. т. Глебка, Крапіва, К. Чорны далі разгорнутую крытыку нацыянал-дэмократычных установак і палажэньняў і ў галіне крытыкі, і ў творчасьці былога „Узвышша“. Яны рвуць узвышанскія традыцыі і ў сваёй творчасьці. Апошнія творы, напрыклад, К. Чорнага, паказваюць, што пісьменьнік пасьпяхова ідзе па шляху перамаганьня псыхолёгізму і біолёгізму, асабліва ў абмаляваньні жыцьця вёскі. У гэтых намаганьнях такіх пісьменьнікаў, як К. Чорны, па выпрацоўцы марксыцка-ленінскага сьветапогляду, па аўладаньні мэтодам дыялектычнага матэрыялізму, намаганьням для перахода на позыцыі саюзьнікаў пролетарскай літаратуры, трэба ўсямерна дапамагчы. Значны зрух ад сваіх старых позыцый робіць Я. Колас. Аб гэтым сьведчаць апошнія творы Я. Коласа, як „Адшчапенец“, дзе даецца паказ колгаснага будаўніцтва на фоне разгорнутай клясавай барацьбы, яго поэма „На шляхох волі“ і апошная п'еса, напісаная аўтарам для пастаноўкі ў БДТ2, у якой Колас імкнецца паказаць перарастаньне імпэрыялістычнай вайны ў вайну грамадзянскую. Адштурхоўваньне ад традыцый буржуазнага мінулага, пераключэньне на рэйкі рэволюцыйнай савецкай літаратуры не праходзіць гладка, без некаторых хістаньняў, зрываў. Шляхам пасьлядоўнай тавари́скай крытыкі рэштак дробнабуржуазнай абмежаванасьці, рэштак перапавялічанага ўяўленьня аб ролі інтэлігенцыі і наогул даўленьня традыцый мінулага, мы павінны дапамагчы пісьменьнікам, якія намагаюцца стаць у рады саюзьнікаў пролетарскай літаратуры.

Не павінны мы пакінуць самім сабе і тых пісьменьнікаў-папутнікаў, якія яшчэ дагэтуль топчуцца на месцы. З пераходам часткі папутнікаў у рады саюзьнікаў пролетарскай літаратуры праробленае папутніцтва не адпадае, тым больш, што кадры папутнікаў папаўняюцца пісьменьнікамі ўжо маладога пакаленьня, вышаўшага з асяродзьдзя дробнай буржуазіі. Іменна сярод гэтай часткі маладых папутнікаў існуе небясьпека рэцыдываў нацыяналістычных і буржуазных (кулацкіх) тэндэнцый, іменна яны „нярэдка выступаюць у ролі эпігонаў горшых, найбольш рэакцыйных тэндэнцый правага крыла папутніцтва“.

Творчасьць такога поэты, як Астапенка, зьяўляецца асабліва паказальнай у гэтых адносінах.

„Ператварэньне пісьменьніка-папутніка ў пісьменьніка-саюзьніка азначае процэс ідэйнага пераўзбраеньня, ауладаньня сьветапоглядам дыялектычнага матэрыялізму, асазнаньня і крытыкі соцыяльна-палітычнага сэнсу свайго папярэдняга творчага шляху, пераходу на ідэолёгічныя позыцыі пролетарыяту, г. зн. у творчым пляне выпрацоўка новага творчага мэтоду якаснай зьмены стылевых асаблівасьцяй творчасьці, барацьбы за новы тып пісьменьніка“.

Вось шлях для пісьменьніка-папутніка, паказаны рэзолюцыяй апошняга пленуму РАПП'а. Ня ўсе папутнікі ідуць гэтым шляхам. Ёсьць такія, што перабудову падмяняюць „прыстройка“, падладжваньнем пад сучаснасьць. Гэта пісьменьнікі-„халтуршчыкі“, гэта ўсе тыя, хто замест сапраўдных савецкіх твораў даюць пролетарскаму чытачу „чырвоную“ халтуру.

З лакіроўшчыкамі і „чырвонай“ халтурай на літаратурным фронце трэба весьці бязьлітасную барацьбу.

Сярод задач, якія сёньня стаяць перад пролетарскімі пісьменьніцкімі організацыямі, перад БелФАСП'ам, задача барацьбы з богэмай і з горшым відам богэмы—п'янствам, зьяўляецца не апошняй. Трэба зараз-жа стварыць умовы для магчымасьці культурна-выхаваўчай працы сярод пісьменьнікаў. Сёньня мы гэтых умоў ня маем. Трэба, каб гаспадарчыя і савецкія організацыі выконвалі паказаньні ЦК КП(б) аб паляпшэньні бытавых умоў пісьменьніка.

Надыходзячая конфэрэнцыя МенАПП'у намеціць шляхі для вырашэньня задач, якія ў гэтым артыкуле бегла намечаны. БелАПП і БелФАСП павінны ўзьняць тэмпы сваёй працы, каб ліквідаваць прарывы, якія ёсьць на літаратурным фронце, каб ліквідаваць адставаньне пролетарскай літаратуры ад тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва.

## ХРОНІКА ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА І КРЫТЫКІ БССР

### Дзесяцігодзьдзе творчасьці А. Александровіча

У сьнежані месяцы будзе праводзіцца сьвяткаваньне дзесяцігодзьдзя творчасьці пролетарскага поэты, Андрэя Александровіча.

Поэта Андрэй Александровіч — член КП(б)Б, член ЦВК БССР. Прымае актыўны ўдзел у працы літаратурных організацый: член сакратарыяту БелФАСП і БелАПП, адказны сакратар МенАПП.

Для распрацоўкі практычных мерапрыемстваў па правядзеньні юбілею, сакратарыят БелФАСП вылучыў камісію.

* 12 кастрычніка ў Доме Пісьменьніка пры перапоўненай аўдыторыі рабочымі ўдарнікамі літгурткоўцамі тав. Андрэй Александровіч чытаў сваю новую вершаваную п'есу „Напор".

П'еса „Напор" напісана з жыцьця дрэваапрацоўчага заводу. Тэма—заводзкі комсамол, барацьба за прамфінплян, за новы быт. Пасьля чыткі п'есы разгарнуліся ажыўленыя спрэчкі. Выступаўшыя таварышы адзінадушна ацэньвалі п'есу „Напор" як новы каштоўны ўклад у беларускую пролетарскую драматургію.

П'еса „Напор" будзе пастаўлена БДТ2. Тэатр ужо прыступіў да пастаноўкі.

### Пастанова ЦК КП(б`Б аб перабудове выдавецкай справы ў дзеяньні

ДВБ прыступіла да практычнага правядзеньня ў жыцьцё пастановы ЦК КП(б)Б аб рэорганізацыі выдавецкай справы. Організаваны самастойныя сэктары: масава-партыйны, сельска гаспадарчы, экономічна-прававы, вайсковы, літаратуры і мастацтва (Л і М), вучэбна пэдагогічны і юнацка-дзіцячы.

Загадчыкам Ліму прызначан таварыш Міхась Лынькоў.

Кожны сэктар распрацоўвае пляны сваёй работы.

31-га студзеня 1931 году ўсе сэктары Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі пераводзяцца на самастойны гаспадарчы разьлік.

Організаваны самастойны сэктар па кнігагандлю. Гандлёвая сетка пашыраецца яшчэ на 20 магазынаў. Кожны магазын пераводзіцца на гаспадарчы разьлік.

### БССР у плянах інстытуту Лія

У плян навукова-дасьледчай работы інстытуту Лія Комакадэміі на 1931 г. уключаны наступныя пытаньні; у разьдзел „Ленінская спадчына і мастацтвазнаўства—за марксызм ленінізм у крытыцы", даклад тав. Бэндэ—„Ленінізм і задачы літаратурнай крытыкі на Беларусі"; у разьдзел „Соцыялістычная рэконструкцыя і літаратура і мастацтва СССР",—даклады тав. *Бэндэ* „Пролетарская літаратура Беларусі на новым этапе" і т. Бронштэйна „Пролетарская яўрэйская літаратура ў барацьбе за гэгэмонію"; у разьдзел „Літаратура і мастацтва капіталістычнага Захада і пэрыод сусьветнага крызісу", даклад тав. Александровіча на тэму „Політыка фашызму ў адносінах да літаратуры Заходняй Беларусі і Украіны";

у разьдзел „Мастацтва і літаратура ў абароне СССР“ — пытаньне — „Творчыя дасягненьні Беллачаф'у“.

**Конфэрэнцыя МенАПП**

У лістападзе склікаецца пашыраная конфэрэнцыя Менскай Асоцыяцыі Пролетарскіх Пісьменьнікаў. На парадку дню конфэрэнцыі: політычны даклад ЦК КП(б)Б, даклад т. Бэндэ аб становішчы пролетарскай літаратуры БССР і яе далейшых задачах і інш.

На конфэрэнцыі будуць працаваць пяць сэкцый: прозы, крытыкі, драматургіі, нарысу і поэзіі.

У працы конфэрэнцыі будзе ўдзельнічаць творчы актыў рабочых літгурткоў менскіх прадпрыемстваў. Сакратарыят МенАПП запрасіў на конфэрэнцыю прадстаўнікоў Маскоўскай, Ленінградзкай, Харкаўскай, Кіеўскай, Тыфліскай і Смаленскай АПП.

Да конфэрэнцыі выпушчаецца літгазэта аднадзёнка і літаратурнае кіно-часопіс. Выходзіць з друку два зборнікі рабочых ударнікаў менскіх прадпрыемстваў. У беларускім зборніку ўдзельнічае пятнаццаць чалавек: С. Малашонка, С. Шаўцоў, С. Нортман, А. Лейбман, Я. Эстэркін, Я. Камянецкі, (завод імя Варашылава), П. Швэйдэль (друкарня імя Сталіна), Бацюшкаў (завод дрэваапрацоўшчык), Гольман і Гуліс (завод Комунар) і інш. Яўрэйская сэкцыя МенАПП выпушчае зборнік рабочых-ударнікаў на яўрэйскай мове.

* Сакратарыят МенАПП заслухаў справаздачу тав. Паваротнага аб рабоце сэкцыі нарысаў. У мэтах далейшай творчай актывізацыі сэкцыі сакратарыят МенАПП ухваліў рэорганізаваць сэкцыю нарысу ў творчую групу нарысістаў, з такім разьлікам, каб творчая групу нарысістаў займалася выключна творчымі пытаньнямі.

* Поэта Міхась Чарот прыняты ў МенАПП. Таксама прыняты ў МенАПП драматургі: Рамановіч (аўтар п'ес „Мост“, „Каменьні на дарозе“ і інш.) і Ільынскі (аўтар п'есы „На прадвесьні“ і інш.).

**Выкананьне соцыялістычнай умовы паміж МенАПП'ам і Менгаркомам ЛКСМБ**

Менгарком ЛКСМБ і МенАПП прыступілі да практычнага выкананьня соцыялістычнай умовы якая была заключана ў дні МЮД'а. Вылучана брыгада пісьменьнікаў у складзе 12 чалавек, якія прымацаваны да прадпрыемства ў дапамогу колёктывам комсамолу па напісаньні гісторыі заводу, а таксама складаньне зборніку пра комсамол Менску.

* Па пастанове Менскага Гаркому ЛКСМБ організавана комсамольская ячэйка пісьменьнікаў. У складзе ячэйкі налічваецца 13 комсамольцаў. Адказным сакратаром ячэйкі абран тав. Сьцяпан Ліхадзіеўскі, Культпропам—Васіль Каваль. У ячэйцы створаны два асноўных сэктары: творчасьці, і па закліку ўдарнікаў у літаратуру. У бліжэйшы час ячэйка зьвяжацца з комсамольскім друкам („Чырвоная Зьмена“, Радыёгазэта, „Комсамолец Беларусі і інш.) па наладжваньні працы літаратурных старонак.

Ячэйка мобілізуе ўвагу комсамольцаў-пісьменьнікаў на яшчэ большы паварот тварам да комсамольскай тэматыкі.

Комсамольская ячэйка пісьменьнікаў абвясьціла сябе мобілізаванай на барацьбу з праявамі богемы сярод паасобных пісьменьнікаў. Выпушчаны бюлетэнь № 1 па барацьбе з богемай.

* У доме „Навукі і тэхнікі“ адбыўся вечар беларускай пролетарскай літаратуры—для Менскай гарадзкой організацыі комсамолу. Даклад зрабіў тав. Ал. Кучар. Значная частка дакладу была прысьве-

чана пытаньню стварэньня комсамольскай маладзёжнай тэматыкі. У спрэчках па дакладу выступалі т.т. Ал. Ліпнёвы, Вярнікоўскі і Анісаў.

Чыталі свае творы; Міхась Чарот, Сьцяпан Ліхадзіеўскі, Барыс Мікуліч, Пятрусь Броўка, Сяргей Знаёмы, Мікола Хведаровіч, Агняцьвет, Гарцман (яўсэкцыя БелАПП) і інш.

### Рабочы сакратарыят БелФАСП

Для кіраўніцтва бягучай опэрацыйнай работы вылучаны рабочы сакратарыят БелФАСП у складзе: А. Сянкевіч (адказны сакратар БелФАСП) Платон Галавач і Кузьма Чорны.

* 28 лістапада спаўняецца трэцяя гадавіна з часу організацыі Беларускай Асоцыяцыі Пролетарскіх Пісьменьнікаў.

### Па дзяржаўных тэатрах

У часе зімовага тэатральнага сэзону 1931—32 г. у Менску ў памяшканьні Дзяржаўнага тэатру будзе працаваць БДТ 1, у Доме Культуры, Дзяржаўны яўрэйскі тэатр. Памяшканьне былога чырвонага касьцёлу па (Савецкай вуліцы) перадана польскаму вандроўнаму тэатру і гурткам самадзейнасьці.

* Беларускі Дзяржаўны Вандроўны тэатр пад кіраўніцтвам народнага артыста рэспублікі Галубка—рэорганізуецца ў БДТ 3. Гэтую зіму тэатр будзе працаваць у горадзе Віцебску.

* У сьнежні месяцы мяркуецца скліканьне першага зьезду БелЛАЧАФ'у.

### Усесаюзная нарада яўрэйскіх пролетарскіх пісьменьнікаў

Па пастанове ВОАПП у сьнежні месяцы ў горадзе Менску склікаецца ўсесаюзная нарада яўрэйскіх пролетарскіх пісьменьнікаў.

Сакратарыят БелАПП вылучыў камісію для правядзеньня падрыхтоўчай працы да конфэрэнцыі.

## ХРОНІКА ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА І КРЫТЫКІ РСФСР

У Новасібірску пачаліся Літдэкаднікі, прысьвечаныя творчасьці членаў ВССП. Парадак літдэкаднікаў такі: кароткае паведамленьне аўтара аб сваім творчым шляху, аб галоўнейшых этапах творчасьці і мэтодыцы творчасьці, затым невялікі даклад афіцыйнага рэцэнзэнта і нарэшце спрэчкі. Адначасова разглядаецца творчасьць буйных пісьменьнікаў.

* Сібірскі Аддзел ФАСП арганізаваў шэраг паездак пісьменьнікаў па Сібіры. У выніку выпушчана некалькі брашур аб будаўніцтве Заходняй Сібіры. Ня менш 20 пісьменьнікаў было паслана на заводы, у саўгасы, колгасы і МТС для выяўленьня герояў пяцігодкі.

* Усходня-Сібірская АПП перадала ў край ОГИЗ літаратурна-мастацкі зборнік „Бурелом“ прысьвечаны грамадзянскай вайне ў краі, брашуру Эм. Прылуцкага „В первых литературных боях“ и книжку таго-жа аўтара аб забастоўцы рабочых концэсыі „Лена-Гольфильтс“ (Бодайбо).

* Часопіс „Борьба классов“—орган таварыства гісторыкаў марксыстых пры Комакадэміі—адвёў на сваіх старонках мейсца для асьвятленьня ходу соцыялістычнага будаўніцтва на заводах-волатах. У № 3-4 часопісу зьмешчаны—„Гісторыя заводу АМО“, якая напісана рабочым заводу тав. Шыхеявым.

* Над ідэяй стварэньня гісторыі заводу літгурток ГЭЗ працуе ўжо каля 6 месяцаў. Намечаны шырокі разгорнуты паказ свайго прадпрыемства.

Распрацоўваючы гісторыю заводу літгурток ГЭЗ парашыў арганізаваць вакол „гісторыі“ шырокі колектыў, каб з аднаго боку пры дапамозе ўспамінаў старых рабочых паказаць бытавыя абставіны на да рэволюцыйным ГЭЗ'е (былы ВЭК, завод „Усеагульнай электрычнай кампаніі“), з другога шырока паказваючы тэхнолёгічныя процэсы на заводзе разам з тым даць разгорнуты паказ жывых людзей у барацьбе з бюрократызмам, рвацтвам і прагуламі на заводзе.

Найбольш цяжкімі для гуртка зьяўляюцца композыцыйныя пытаньні. Кіруючая група гуртка прапануе стварыць гісторыю прадпрыемства ў выглядзе гісторыі аднаго матору, які выпушчаны заводам. „Гісторыю матору“ будуць пісаць непасрэдныя ўдзельнікі вытворчасьці.

* Літгурток Іжорскага заводу, які мае аграмадны вопыт у фарміраваньні атрадаў рабочай клясы, парашыў напісаць кнігу гісторыі заводу; на Іжорскі завод выпаў гонар выпус у першага савецкага блюмінгу.

Да стварэньня „гісторыі“ прыцягваюцца рабочыя ўдарнікі і спэцыялістыя. Пачэснае мейсца адведзена старым, удзельнікам былых боек, сьведкам мінулага.

Усё новае, што напісана для кнігі „гісторыі“ зачытываецца на пашыраным сходзе актывістаў. Матэрыялы абгаворваюцца непасрэдна ў цэхах. Напісаўшы кнігу „гісторыя Іжорскага заводу“, амаль што на палову, літгуртковцы і рабочыя ўдарнікі заяўляюць, што яны будуць змагацца за аканчаньне гэтай кнігі так-жа як змагаліся за першы савецкі блюмінг.

* Пры сэкцыі малых форм Усераскамдраму створана творчая група работнікаў поэзіі. Да работы ў творчай групе прыцягваюцца: Малчанаў, Жараў, Безыменскі, Сельвінскі, Асееў, Саньнікаў, Адуеў і інш.

Творчая поэтыцкая група Ўсераскамдраму намячае організацыю ў Маскве спэцыяльнага тэатру поэта. Па даручэньню групы І. Сельвінскі, распрацаваў ужо рэпэртуар гэтага тэатру.

* Выданьне спэцыяльнай сэрыі нарысу па „гісторыі заводаў“ будзе праводзіцца ОГИЗ‘ам. Створана тройка пад старшынствам тав. Арт. Халатава для вырашэньня ўсіх організацыйных і рэдакцыйна-выдавецкіх пытаньняў.

* На „Красным Треугольнике“ (Ленінград) шырока разгарнулася работа па стварэньню „гісторыі заводу“.

Рэдсавет гісторыі выпусьціў спэцыяльныя рознакаляровыя плакаты. Адбыўся масавы вечар рабочых, на якім прысутнічала 500 старых рабочых і прадстаўнікі Ленгізу і пісьменіцкіх організацый. Да стварэньня гісторыі заводу будзе прыцягнута 1.500 старых рабочых, удзельнікаў рабочага руху, лепшых ударнікаў. Створана шырокая рэдакцыйная колегія, у складзе 100 старэйшых рабочых, прадстаўнікоў партыйных, комсамольскіх, профсаюзных організацый і літгрупы. Работа па стварэньню кнігі вядзецца пад кіраўніцтвам дырэктара комбіната.

* Споўнілася 40 год літаратурнай дзейнасьці А. Сьвірскага.

40 год назад быў закончаны першы твор А. Сьвірскага „По господски“, які быў забаронены царскай цэнзурай.

* Часопіс расійскай асоцыяцыі пролетарскіх пісьменьнікаў „РАПП“ рэорганізаваны ў новы часопіс марксыцка-ленінскай літаратурнай крытыкі і тэорыі, у орган ВОАПП „Пролетарская літаратура“.

Журнал мяркуецца выдаваць на расійскай і украінскай мовах і на аднэй з моў Закаўказьзя.

* ВССП да апошняга часу зусім ня ўдзельнічаў у рабоце РАПП з рабочымі ўдарнікамі, якія заклiканы ў літаратуру. Цяпер папутніцкія і саюзьніцкія пісьменьнікі — члены ВССП будуць прыцягнуты да работы з ударнікамі.

На паседжаньні праўленьня ВССП абгаварвалася пытаньне аб сумеснай рабоце ВССП і РАПП з ударнікамі літгурткоўцамі. Намечаны сьпіс пісьменьнікаў—членаў ВССП, якія прымацоўваюцца да рапаўскіх літгурткоў. У бліжэйшы час склікаецца агульнае паседжаньне сакратарыятаў МАПП і ВССП па гэтаму пытаньню. Такое-ж сумеснае паседжаньне праводзіцца і ў Ленінградзе.

# ХРОНІКА ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА І КРЫТЫКІ ЎССР

Харкаўская арганізацыя літгрупы пролетарскіх комсамольскіх пісьменьнікаў „Молодняк“ прыняла пастанову аб аб'яднаньні з ВУСПП'у ў адзіную пролетарскую літорганізацыю на Украіне—ВУСПП.

У прынятай пастанове агульны сход літорганізацыі „Молодняк“ заяўляе:

„Аб'яднаньне двух воаппаўскіх арганізацый „Молодняк“ і ВУСПП зьнішчыць перашкоды арганізацыйнага парадку. Існаваньне адзінай пролетарскай літорганізацыі ВУСПП яшчэ больш замацуе сувязь ленінскага комсамолу з усім фронтам пролетарскай літаратуры і самым рашучым чынам будзе садзейнічаць павароту украінскай пролетарскай літаратуры тварам да комсамолу“.

Пытаньне аб'яднаньня „Молодняка“ з ВУСПП'ам у прынцыпе ўжо вырашана. У бліжэйшы час будзе праведзена арганізацыйная праца па аб'яднаньню.

* Дэкаднік украінскай культуры ў Закаўказьзі прайшоў пад знакам магутнай дэмонстрацыі паказу дасягненьняў у справе ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай політыкі партыі ў саюзных савецкіх рэспубліках. Працоўныя Закаўказьзя вельмі ветла сустракалі прадстаўнікоў украінскай пролетарскай культуры. Выяжджала дэлегацыя ў складзе: пісьменьнікі: Мікітэнка, Кірыленка, Панч, П. Усенко, Ткачук, А. Панів, М. Куліш, П. Аніканаў, загадчык Галоўмастацтва УССР тав. Бэнськовіч, група дзеячоў выяўленчага і кінамастацтва, тэатр „Бэрэзін“ група заслужоных актораў рэспублікі дзяржаўнай опэры. На чале дэлегацыі знаходзіўся намесьнік НКАсьветы УССР тав. Полацкі.

Для больш шчыльнай сувязі з украінскай літаратурай, пісьменьнікі Грузіі абвясьцілі паміж сабой соцспаборніцтва на вывучэньне украінскай мовы. У бліжэйшы час будуць выданы слоўнікі: украінска-грузінскі і грузінска-украінскі.

Праведзены аб'мен п'есамі: некалькі п'ес грузінскіх драматургаў будуць пастаўлены тэатрамі Украіны і наадварот, тэатры Грузіі паставяць п'есы тав. Мікітэнка „Вугільля“ і „Кадры“ і тав. Першамайскага „Невядомыя салдаты“.

Дзяржаўнае Выдавецтва Грузіі выдае 50 аркушаў перакладаў з украінскай мастацкай літаратуры, а ДВОУ выдае 150 аркушаў перакладаў з грузінскай.

Дэкаднік украінскай пролетарскай культуры ў Грузіі праводзіўся па ўсяму Закаўказьзю. Разьбіўшыся на некалькі груп украінская дэлегацыя выехала ў Армянскую, Азэрбайджанскую і Аджарыстанскую АССР.

* Выдавецтва „Гарт“ рэарганізавала сваю работу і пашырыла значна свае выдавецкія пляны. У другім квартале 1931 г. супроць першага выдавецкі портфэль павялічыўся на 30 проц. толькі творамі рабочых ударнікаў закліканых у літаратуру. Выходзяць з друку зборнікі рабочых-ударнікаў і заводзкіх літгруп. У гэтым ліку кнігі: „Кузьня герояў“—аб Харкаўскім трактарабудзе, „На крыльлях“ аб авіязаводзе, „На бэтоні“ аб Днепрабудзе, а таксама зборнік расійскай сэкцыі ВУСПП „Ударны Харкаў“.

У мэтах пашырэньня работы выдавецтва, а таксама падвышэньня якасьці выдаваемай літаратуры, якая павінна адлюстраваць соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва, выявіць герояў працы — праводзіцца ўцягненьне ў члены таварыства „Гарт“ рабочых ударнікаў, заклíканых у літаратуру. Пры праўленьні выдавецтва створаны рабочы мастацкі савет з рабочых ударнікаў прадстаўнікоў літаратурных груп: ХПЗ, ДЭЗ, ХТЗ, Серп і Молат, „Сьвітло шахтара“, Авіязавод, а таксама прадстаўнік ад рабочых літгурткоў, што працуюць пры расійскай сэкцыі ВУСП.

* Культсэктар ЦСПС Украіны арганізуе шэраг практычных мерапрыемстваў, якія-б садзейнічалі падвышэньню як ідэолёгічнай так і мастацкай якасьці кінопродукцыі. Уся работа праводзіцца ў шчыльнай сувязі з кіноорганізацыямі і галоўрэпэрткомам Наркомасьветы УССР.

* Заслухаўшы інформацыйны даклад аб працы Днепрапятроўскай організацыі ўсеукраінскі сакратарыят ВУСПП адзначыў творчы і літаратурна-грамадзкі рост організацыі, зьяўленьне продукцыі рабочых-ударнікаў, падрыхтоўка альманаху „Змаганьня“ і інш. Сакратарыят ВУСПП адзначыў вялікую каштоўнасьць вылучэньня чатырох рабочых ударнікаў на кіруючую літаратурную работу.

* Зацьверджана Баўгарская сэкцыя ВУСПП у складзе 6 пісьменьнікаў. Адказным сакратаром сэкцыі абраны тав. Кюляйкоў. Два члены сэкцыі командыраваны ў баўгарскія нацыянальныя раёны рэспублікі, для правядзеньня масавай літаратурнай работы.

* У горадзе Харкаве на рагу Чарнышэўскай і Сарокінскай вуліц адбылося ўрачыстае адчыненьне помніка Васілю Блакітнаму (Эллану).

* Кадзіеўскі гурток „Забоя“ (Донбас) зьвярнуўся з лістом да грамадзкасьці „Шахты Ільліч“, у якім абвяшчае сябе ўдарным і прымае шэфства над шахтай. Літгурток паставіў свае задачы змагацца за ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі за выкананьне пастаноў партзьездаў, за ператварэньне старога Донбасу кіркі і абушка ў новы мэханізаваны Донбас, за непарыўны паток вугля. Літгурткоўцы ўзялі на сябе абавязак паказаць у сваёй літаратурнай продукцыі твар ударнікаў шахты, уцягнуць ударнікаў у літаратуру, паказаць вялізарнейшыя дасягненьні паасобных вучасткаў асобных ударных брыгад, наладзіць цесную сувязь з рэдакцыяй газэты „Абушок“, дапамагаць ёй у працы, не радзей аднаго разу ў месяц праводзіць гутаркі па інтэрнатах і на шахтах, чытаць свае творы і популярызаваць лепшыя творы пролетарскіх пісьменьнікаў.

* Дружкоўская літорганізацыя „Забой“ (Донбас) заключыла ўмову з заўкомам мэталістаў Тарэцкага заводу, паводле якой ячэйка ўзяла на сябе абавязак абслугоўваць цэхі. „Забойцы“ даюць тэкст для плякатаў і лёзунгаў заклікаючы да барацьбы за выкананьне прамфінпляну. У часе перапынкаў на сьнеданьне „Забойцы“ чытаюць свае творы. У дапамогу рэдколегіі да кожнай цэхавай насьценгазэты прымацавана па аднаму літгурткоўцу. У насьценгазэтах зьмяшчаюцца лёзунгі, частушкі, эпіграмы, вершы нарысы, якія накіраваны на выкананьне вытворчых заданьняў цэха.

* У доме імя Блакітнага (Харкаў) адбылася вытворчая нарада пісьменьнікаў, прысьвечаная пытаньню мастацкага нарысу. З дакладам аб мастацкім нарысе і яго месцы сярод іншых літаратурных жанраў выступіў тав. Зікеяў.

На сходзе зачытаны плян ЛІМ'у ў галіне нарысу. Плян намячае наступныя сэрыі: пяцігодка ў нарысе; СССР у нарысах; Украіна ў нарысах; культура СССР; політычны нарыс; Чырвоная армія і літаратурна-мастацкія карыкатуры.

Нарада пастанавіла вітаць ініцыятыву ЛІМ'а, які імкнецца ўнесьці плянавасьць у работу па нарысах; актывізаваць увагу пісьменьнікаў да нарысаў; стварыць пры выдавецтве спэцыяльны фонд для стымуляваньня работы па нарысах, увязаць работу нарысыстаў з працай мастакоў.

* Выдавецтва пролетарскіх пісьменьнікаў „Гарт“ выдае альманах мастацкай творчасьці вуспаўцаў, пад назвай „Індустрыяльний похід“ памерам у 20 друкарскіх аркушаў. Гэта выданьне павінна паказаць творчы ўдзел пролетарскіх пісьменьнікаў у барацьбе за пяцігодку і соцыялістычную індустрыялізацыю.

У альманаху будуць зьмешчаны найноўшыя апавяданьні, вершы, мастацкія нарысы, разьдзелы з романаў, п'есы, мастацкія портрэты, жыцьцяпісы герояў соцыялістычнай працы ўзнагароджаных ордэнамі Леніна і Чырвонага працоўнага сьцягу.

# ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ „ПОЛЫМЯ“

У апошнім нумару часопісі „Полымя“ (кніга 8, жнівень 1931 г.) які выйшаў з друку ў палове лістапада, зьмешчаны мой артыкул пад назвай *„Заходняя Беларусь на парозе рэвалюцыйных баёў“*.

У гэтым артыкуле, дзякуючы недагляду з майго боку ўкраліся фармуліроўкі, якія скрыўляюць палітыку КПЗБ у нацыянальнай справе, якія могуць выклікаць ад'емныя камэнтары, дзеля гэтага лічу патрэбным выправіць іх.

На старонцы 175 у канцовым абзацу разьдзелу „Белы тэрар і нацыянальны ўціск узрастаюць“ сказана:

> КПЗБ будучы партыяй пралетарыяту, бачучы ў СССР бацькаўшчыну міжнароднага пралетарыяту і прыклад правідловага вырашэньня ўсіх нацыянальных праблем — пакідае сабе права весьці агітацыю за неабходнасьць далучэньня Заходняй Беларусі да Беларусі Савецкай і ўвядзеньня ў Беларусі Заходняй такіх самых парадкаў, якія існуюць у БССР. Але КПЗБ не навязвае гвалтам гэтага погляду масам, пакідаючы права большасьці беларускага народу самаму акрэсьліць формы свайго дзяржаўнага існаваньня“

Формуліроўка гэтага абзацу вельмі нябрэжная і дзеля гэтага скрыўляе ўстаноўкі ЦК КПЗБ па нацыянальнаму пытаньню.

V-ты Пленум ЦК КПЗБ аб пастаноўцы лёзунгу *„права прыгнечаных нацый на самаэначэньне аж да аддзяленьня“* у варунках ЗБ адзначае:

> „Дзеля таго, каб гэты лёзунг мог у сучасных варунках пасьпяхова служыць нашай барацьбе з нацыяналістычнай дэмагогіяй буржуазіі і мабілізаваць пад кіраўніцтвам пралетарыяту найшырэйшыя масы прыгнечаных нацый, трэба ўнікаць фармуліровак якія могуць зацямніць падставовыя думкі заключаныя ў лёзунгу самаазначэньня аж да аддзяленьня: 1) бязьлітасная барацьба з польскім імпэрыялізмам супроць акупацыі, 2) *цалкам свабодны і ня прымушаны выказ волі* данай нацыі ў пытаньні дзяржаўнай прыналежнасьці (падкрэсьленае ў рэзалюцыі V пленуму *ПК*), 3) шлях да ажыцьцяўленьня гэтага лёзунгу ў сучаснай сітуацыі вядзе толькі праз супольную рэвалюцыйную барацьбу працоўных мас Заходняй Беларусі і ўсёй Польшчы пад кіраўніцтвам пралетарыяту і яго партыі за зваленьне дыктатуры буржуазіі,
>
> У штодзённай сваей агітацыі партыя высьвятляе масам, што толькі ў выніку пралетарскай рэвалюцыі магчыма цалкам злучыць

разарваныя імпэрыялізмам беларускія землі ў адну Беларускую Сацыялістычную Савецкую Рэспубліку“.

Такім чынам выраз у маім артыкуле:

„КПЗБ... пакідае сабе права весьці агітацыю за неабходнасьць далучэньня Заходняй Беларусі да Беларусі Савецкай“ знаходзіцца ў разьбежнасьці з фармуліроўкай ЦК КПЗБ. Мой асабісты погляд па гэтым пытаньні цалкам ідэнтычны з рашэньнем ЦК КПЗБ.

Выраз у маім артыкуле—„...Але КПЗБ не навязвае гвалтам гэтага погляду масам, пакідаючы права большасьці беларускага народу самаму акрэсьліць формы свайго дзяржаўнага існаваньня“, — зьяўляецца неправідловым.

Зразумелая рэч, што КПЗБ, як партыя пралетарыяту і кіраўнік рэвалюцыйнай і нацыянальна-вызваленчай барацьбы шырокіх працоўных мас Заходняй Беларусі прадстаўляе цалкам свабодны і ня прымушаны выказ волі даннай нацыі ў пытаньні дзяржаўнай прыналежнасьці“. Адначасна КПЗБ стоячы на чале пралетарыяту і гуртуючы навокал яго і пад яго кіраўніцтвам шырокія масы працоўнага сялянства Заходняй Беларусі ад самага свайго заснаваньня вядзе рашучую рэвалюцыйную барацьбу проці фашыстоўскай дыктатуры буржуазіі і памешчыкаў, за дыктатуру пралетарыяту. Барацьба за гэта зьяўляецца галоўнай мэтай КПЗБ, яе галоўным праграмным лёзунгам.

Формай дзяржаўнага існаваньня беларускага народу, за якую рашуча змагаецца КПЗБ, зьяўляецца толькі беларуская сацыялістычная Савецкая Рэспубліка і КПЗБ актыўна за яе змагаецца, бо гэта форма дзяржаўнага існаваньня адказвае інтарэсам большасьці беларускага народу, гэта значыць рабочым і падставовым масам працоўнага сялянства Заходняй Беларусі.

Усё гэта заўсёды было, ёсьць і пазастаецца і маім асабістым поглядам і зьместам усёй маей рэвалюцыйнай дзейнасьці і фармуліроўку ў маім артыкуле ў гэтай справе трэба лічыць недарэчнасьцю.

З камуністычным прывітаньнем

**П. Крэвіч.**

22-XI 1931 г.

# ЗЬМЕСТ



---

